


# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання XII

10

КАСТРЫЧНІК

1964


## У нумары




Выдавецтва «ЗВЯЗДА»
МІНСК

**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

**Вокладка М. ЧЭПІКА.**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: Трэба завіхацца, каб прыспешыць наваселлі. З гэткай думкай узнімаецца кожны дзень на рыштаванні муляр Марыя Сталярэнка. Яна член брыгады, якая змагаецца за званне калектыву камуністычнай працы.**
Фота **А. Дзітлава.**

**НА ТРЭЦЯЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: Восеньская раніца.**
Фота **А. Аўдзеева.**









**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ**

# Камсамолу



Я

Яго гісторыя не песціла.
Кідала ў грозныя атакі.
Рабіў ён будучыню з песнямі,
Не патрабуючы падзякі.

А вечары такія зорныя:
Ісці б з каханай за аселіцу...
Варожай зброі вочы чорныя
У сны бацькоў дагэтуль цэляцца.

Равеснік мой!
Бацькоўскай сілаю
Навек разлучаны са скрухай,
Пастой над брацкаю магілаю,
Пастой. І сам сябе паслухай.

Тут нашы родныя, адважныя,
Для іх вякі, нібыта хвілі.
А ці зрабіў ты тое, важнае,
Чаго яны не дарабілі?

# На перагоне


удком вітаючы сяброў,
Цягнік натужліва грукоча,
Як быццам сотні кавалёў
Распачалі свой дзень рабочы.

І нават вецер пад адхон
Упаў, разрэзаны са свістам.
О, гэты трудны перагон
Знаёмы добра машыністам.

Хаця задымлены цягнік
Ляціць грымотнаю каметай,
Ён пералічыць кожны стык
На зацяжным пад'ёме гэтым.

На схіл жа выскачыць. І свой
Глыбокі выдых зробіць цяжкі,
Аж пераможна пад гарой
Дым заклубіцца ад зацяжкі.




зяжурны пакой машыністаў —
Агенцтва дарожных навін —
Аглушана рыпам і свістам
Засмяглых ад рэйсаў машын.

Хаця скразнякі магістралі
Працялі яго да касцей,
Ён пільна ўглядаецца ў далі,
Ён новых чакае гасцей.

Пра ўсё, што людзьмі перажыта,
Разважным размовам тут быць.
І будуць навіны
транзітам
Да станцый далёкіх спяшыць.

Дзяжурка ж — ураз анямее,
Хоць ты з адзіноты крычы...
І доўга яе чырванеюць
Бяссонныя вочы ўначы.

# Успамін


а паўразбураным вакзале
У прыазёрнай старане
Мой поезд многія чакалі,
Хоць не чакаў ніхто мяне.

Але дамоў вярнуцца скорым
Змаглі не ўсе, хто так хацеў.
Перад людскім вялізным горам
І я, як вугаль, пачарнеў.

Зноў той маршрут...
Не тыя песні
Цяпер на станцыях гучаць.
Ды нам былога не закрэсліць,
Нам пра яго не прамаўчаць.

Нас памяць і цяпер прыводзіць
На рубяжы, на бальшакі,
Куды паштоўкі не даходзяць,
Куды не ходзяць цягнікі...




арскога дна глыбокія пласты,—
Гісторыі маўклівыя лісты.
Як плёнкаю, зацягнутыя ілам.
Марское дно — музей, а не магіла.
Так, так. Музей пад тоўшчаю вады.

Бязмежны. Таямнічы. І багаты.
Ды той, хто апускаецца сюды,
На дне застацца можа экспанатам.
...Скафандр над галавою аж гудзе.
Нырнуў у бездань вадалаз на тросе.
Ужо кругі знікаюць на вадзе,
А ён яшчэ да дна на паўдарозе.
Які ён будзе, той глыбінны шлях,
Марское дно аб чым раскажа скора,
Калі свінцовым грузам на плячах
Павісне устрывожанае мора?





амантыка —
гэта птушка радасці,
Зваблівая,
таямніча галёкае.
Яшчэ і не думала
барада расці,
Імкненне ж расло
да чагосьці далёкага.
Употай зайздросціў я
хлопцам увішным,
Што некуды з'ехалі
цэлай брыгадай.
Абрыдзеў аднойчы
падворак зацішны,
Суднам на якары
здалася хата.
Няўжо наша вёска —
таксама планета?
Няўжо за лёс яе —
я адказны?
Клікалі ўдалеч мяне
газеты,
Маўчаў толькі наш
брыгадзір калгасны.
Прапах я вятрамі
маршрутаў бясконцых.
Хістала, гайдала
мяне дарога.
І вось сустракаюць аднавяскоўцы
Мяне, вясёлага,
адпускнога.
Мне доўга
ў закутках памяці шнарыць,
З былым параўнаць каб новае.
З людзьмі тут рамантыка
гаспадарыць —
Няўседлівая,
вясковая.
Абрысы мінулага
тлеюць ледзь-ледзь.



І хаты,
і людзі ўзняліся.
І неяк балюча уразумець,
Што тут
без мяне абышліся.





кволы быў. Але не хваравіты.
Я рана ўцяміў, што такое смерць.
Ад дэтанацыі ўспамінаў —
дынамітам
Майму маленству праз гады грымець.
У гурбах снегу між маўклівых хатак,
Маёй не заўважаючы слязы,
Мяне ад галавы да самых пятак
Абмацвалі зімою маразы.
На фронце бацька.
Маці — партызанка.
Цяпла у хаце нашай не стае.
І я з'язджаў з гары крутой на
санках,
Каб усцягнуць ламачча на яе.
Гарэў агонь. Агонь вялікай веры
У грубцы і ў вачах братоў маіх.
Мы нанач шчыльна зачынялі дзверы,
Але на ключ на замыкалі іх.

## У падводнікаў



укаю настойліва вобразы, рыфмы,
Баюся урэзацца ў слоўную мель.
А ў чорных глыбінях, абходзячы
рыфы,
Варожая лодка вышуквае цэль.
Суладна гудуць баявыя адсекі.
І хлопцы сталі трывожны настрой.
Яны не зацягнуцца ў час небяспекі
Цыгаркаю, як на паверхні зямной...
Ды раптам загад і сухі і кароткі.
Размяклі на хвалях сігналаў агні.
Сталіся ў моры мае аднагодкі
На неразмініраванай глыбіні.



Мікола КАПЫЛОВІЧ

Мастак
Уладзімір РАМЕЙКА



# Не прыедзе

**■ Апавяданне**

1

Ён увесь быў у чаканні, у нейкай урачыстай трывозе, і калі аўтобус, звярнуўшы з дарогі, спыніўся на прыпынку, хваляванне, схаладзелае і нясцерпнае, расло і расло ў яго душы. Напружана, прагна ўглядаўся Ігар у вокны аўтобуса — шукаў некага сярод пасажыраў.

Расчыніліся дзверы аўтобуса — ён разгубіўся ад шчасця... Не, ён бачыў не Іну, бачыў толькі яе ўсмешку: вясёлыя вочы, дрыготкія губы.

— Іна! — яна пачула яго голас.

Сышла з аўтобуса па-дзіцячаму гарэзлівая, узяла яго пад руку і наіўна прылашчылася:

— Прыехала, бачыш. А ты не верыў.

Яна смяялася і гаварыла — усё разам.

Ігар смяяўся ад радасці, што чуе яе голас, бачыць Іну, і гаварыў, як і яна, не то жартам, не то сур'ёзна:

— Жонкі дзекабрыстаў ішлі пешшу за сваімі мужамі аж у Сібір. Гістарычны факт. А ты...

Іна не дала яму дагаварыць:

— Ты ж не дзекабрыст.



— А ты не жонка дзекабрыста.

Яны зноў засмяяліся разам.

— Дзе твае Меднікі? Пакажы, дзе?

— Будуць Меднікі. Убачыш. Толькі прайсці крыху трэба,— адказаў ён.

І пайшлі. Вялікім полем.

Сонца, пухлае, уморанае за дзень да чырвані, масцілася нанач за лесам. Ляніва і мякка плыло некуды павуцінне. Недалёка ад дарогі ў неба валіў непаваротлівы тлуста-жоўты дым — палілі бульбоўнік. Восень.

— Не сумна табе тут у вёсцы?

— Няма калі сумаваць. Ад раніцы да вечара ў школе.

— Усё ж такі. Гэта не ў горадзе.

Ён спыніўся:

— Калі чалавек вельмі заняты, яму ўсё роўна: горад гэта ці вёска. Тады ён нічога не заўважае, акрамя сваёй работы.

— І калі нават жыве адзін? Як ты, напрыклад...

— Як гэта — адзін. Усюды жывуць людзі.

Дарога перайшла ўзгорак — убачылі вёску. Роўна, адна пад адну, стаялі пакрытыя гонтамі хаты. У цэнтры, куды збягаліся вуліцы, стаяла некалькі цагляных будынкаў. Ішлі ўжо вуліцай. Былі Меднікі.

Зайшлі ў школу.

На сцяне ў калідоры віселі партрэты вучоных, ганаровыя граматы, геаграфічныя карты, на якіх нерухома сінелі акіяны і моры. Ігар вадзіў Іну па класах, хваліў настаўнікаў, расказваў смешнае, вясёлае пра вучняў.

— Адзін наш настаўнік, ведаеш, выклікаў на ўроку беларускай мовы вучня і даў яму сказ «Конь цягне воз». Потым задае пытанне: «Перабудуй, Генадзь, вусна гэты сказ так, каб дзеяслоў «цягне» стаў у загадным ладзе. Той, падумаўшы, выгукнуў: «Но-о!»

— Ой... Ой... Не магу...— аж да слёз смяялася Іна.— Анекдот, сапраўдны анекдот!

Потым яна садзілася за парту і прасіла, як дзіця, наіўна і жаласліва, каб выклікаў яе да дошкі — да сябе.

2

Раніцай яна адкрыла вочы, убачыла перад сабою столь, абклееную зялёнымі шпалерамі, і падумала: «Дзе я?» Слаба ўсміхнулася — прыгадала, што яна не дома, што начавала ў вясковай хаце на канапе, якую ёй учора заслала гаспадыня. Борздзенька апранулася, жартаўліва на дыбачках падкралася да перагародкі і зірнула ў шчыліну — яго не было. Стаяў толькі засланы ложак — у школу пайшоў Ігар. Адчула ў сабе крыху суму, крыху крыўды — кінуў яе адну і пайшоў. Госцю кінуў. І яшчэ адчула, што калоцца ад холаду — спала ля акна. Апранула паліто. «Яму кожную ноч холадна. Як ён тут спіць?» Так падумала. І глянула ў акно. Убачыла прыбіты да частаколу ўмывальнік. І калі зразумела, што мыцца прыйдзецца на двары, на сцюдзёным ветры, стала яшчэ халадней. «Ніякіх умоў...» Памылася з чайніка. Не памылася, а толькі твар памачыла. Пачала хадзіць па хаце. Ёй нечага не хапала. Прыслухоўвалася — чула цішыню, да шуму ў вушах цішыню. Непрывычна было — яна да гэтага ніколі не ўяўляла, што можна думаць пра цішыню.

Яна ніколі да сённяшняга дня не чула цішыні — нават глыбокай ноччу іх вялікая гарадская кватэра была перапоўнена гукамі: булькатала ў вадаправодных трубах, нылі правады за вокнамі, дворнікі скраблі тратуар, шуршэлі шынамі, гонячы перад сабой конусы святла, аўтамабілі, гудзелі нябачныя самалёты; усю ноч у суседскіх кватэрах стукалі дзверы — прыходзілі на світанні, выклікалі «хуткую дапамогу», круцілі да раніцы магнітафоны і радыёлы.

Цішыня... Калі прыслухоўваешся да яе, робіцца страшна і здаецца, што на зямлі няма жыцця. Яно замёрла, спынілася разам з табою ў нейкім імгненні, незразумелым і нерэальным.

Ціха — ні гуку, ні шолаху, быццам яна ў глухой баракамеры. Чутно толькі, як стукае ў скронях кроў.

«Цік, цік, цік» — яе слых раптам учапіўся за слабае ціканне ручнога гадзінніка. Ціканне расло, расло, набліжалася, потым пачало моцна біць у вушы, як бы адлічвала трывожна апошнія секунды да старту...

Бы аглухла.

Потым настала нейкае пустое імгненне, калі нічога не было, калі яна толькі слухала, прыслухоўвалася да сябе...

## 3

— Сумна адной без мяне? — пераступіўшы парог і ўбачыўшы яе маркотны твар, спытаў Ігар.

— Не, не — ты ж заняты.

— Ведаеш, затрымаўся,— класны сход быў.

Ён распрануўся, сеў насупраць Іны і пачаў прыдумляць жарты, каб развесяліць яе. І калі ён сам смяяўся, Іна бачыла, як ля куточкаў яго вачэй збіраліся ў жмуткі і разбягаліся тонкімі праменнямі па скронях маршчыны. Пільней прыглядалася і зазначала сабе ў думках яго залысіны, будзённы, добра не адпрасаваны касцюм і параўноўвала з тым, былым студэнтам, прыгожым, модна апранутым Ігарам. З ім тады было ёй добра і цікава. І чым больш яны сустракаліся, Іна, тады яшчэ першакурсніца, больш пераконвалася і адчувала, што кахае яго па-сапраўднаму, шчыра і аддана. Потым ён скончыў інстытут і паехаў сюды працаваць. І цяпер іх, адарваных адно ад аднаго адлегласцю, звязваюць толькі пісьмы.

...Ён жартаваў, а Іне было няёмка перад сабою за яго недарэчны смех.

— Змяніўся ты тут у вёсцы, Ігар,— сказала яна.

— Мяняецца час, мяняюцца абставіны — мяняемся і мы.

— Можна перамяніць абставіны, паехаць адсюль. Вярнуцца назад у Мінск. Няўжо табе тут не надаела?

— Лёгка сказаць — паехаць. Я ж усяго год працую.

— Насмяшыў... Усяго год... Для цябе год, што адзін дзень. Не векаваць жа табе тут.

— Можна і векаваць...

— Засмактала цябе вёска.

— Гэта толькі ты так думаеш.

— Хопіць! Так можна і пасварыцца.

— Маўчу.

Абедалі. Ён студзіў і смачна сёрбаў гарачы,— аж з парай пад



столь,— боршч. Іна нехаця цадзіла з лыжкі, марудзіла, думала, старанна ўглядаючыся ў Ігара. І раптам не данесла да губ лыжку — затоена здзівілася: глядзела на Ігара без радаснага, як учора, хвалявання. Глядзела і ледзь здагадвалася, што нешта здарылася з ёй. Не верыла сабе: глядзіць спакойным, незразумелым самой позіркам. «Няўжо адвыкла ад яго?» — адчувала, што ранейшая радасць і блізкасць да Ігара недзе апала, згубілася ў душы. Штосьці аддзяляла яго ад яе, стрымлівала. Падумала, што год, пражыты паасобку, лёг мяжою між ёй і Ігарам: не чужы быццам быў Ігар і чужы. За гэты год яна стамілася чакаць яго адсюль, з вёскі, забыла пра свае пачуцці, якія незаўважна паміралі, выветрываліся ў яе душы, бо ён доўга не прыязджаў — не будзіў іх, не напамінаў пра сябе. І цяпер зразумела: ён не вернецца ў Мінск да яе, не вернецца ніколі. Застанецца тут назаўсёды. А яна? Не, Іна не зможа жыць у вёсцы, дзе стаіць застылая цішыня, дзе гняце невыносны сум. Яна тут не прывыкне, як ён, звыклы да вёскі з дзяцінства. Дык нашто тады думаць наперад і на нешта спадзявацца, калі ім ніколі не быць разам. Нашто маніць сабе і яму? Лепш адразу прызнацца Ігару ва ўсім, сказаць... І зараз жа...

«Не трэба»...— яна спужалася сваіх думак, бо пабаялася растаптаць усё харошае і незабыўнае, што было між імі. Такое звыклае... даўнейшае... І думкі апалі, змірыліся ў халоднай абыякавасці да сябе, да Ігара. За акном да самага небасхілу ляжала апусцелае, вылінялае за восень поле, над ім віхурай кружыліся і надрыўна — бы на якую бяду — крычалі вароны. Нізкае і шэрае ад хмар неба сплывала на захад. І гэтае поле, і гэтае нуднае карканне варон пад шэрым небам здавалася Іне невыносным і маркотлівым. І не магла больш стрымаць сябе, не магла больш уседзець у хаце — ёй вельмі захацелася дамоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Падпёршы рукамі падбародак, ён сядзеў за сталом і рэдкімі, доўгімі зацяжкамі курыў. Нерухома і невыразна глядзеў кудысьці за акно і нічога не бачыў — думаў. Потым схамянуўся, падняўся з месца і падышоў да яе:

— Ну, што з табою, Іна?

— Нічога... Вось бывае ж так: прападзе настрой без ніякай прычыны. З табою такога ніколі не было?

— Было, толькі не сёння.

Вінавата падняла на яго вочы:

— Ігар!

— Што?

І змоўкла. Баялася сказаць, што паедзе дамоў ад яго — крыўдзіць баялася Ігара. І асмелілася. Сказала, павярнулася да акна. Пачула, як Ігар перастаў хадзіць па хаце.

— Жартуеш?! — ён ціха ўсміхнуўся і, калі нарэшце паверыў, зразумеў, што застанецца без яе не на дзень і не на два, а надоўга, занепакоіўся.

— Не выдумляй глупства. Нікуды ты не паедзеш...

— Пабыла б яшчэ ды не магу... Не крыўдуй...— хацела знайсці нешта важкае, каб упэўніць яго, што трэба абавязкова ехаць, ды не знайшла. Толькі сказала:

— Дома чакаюць. Паеду.

Ён таксама хацеў сказаць нешта пераканаўчае, каб Іна засталася хоць на трошкі, хоць на дзень, але не знайшоў.



— Паглядзі, які дождж,— свету не відаць... Не, нікуды цябе не пушчу. Не пушчу — і ўсё!

— Трэба ехаць. Паеду.

4

Дождж, які пачаўся раніцай, трохі сцішэў: у твар пылілася халодная, колкая імжа. Поруч ісці няможна было: глейкая дарога, спрэс у разбоўтаных лужынах і раскалочанай коламі ґраззю, прымушала выбіраць такія вузкія сцяжыны і ўзлобкі, па якіх трэба было ісці адно за адным.

Маўклівы і задуменны, ён размашыста, шырока ступаў па дарозе, чуў, як ззаду спяшаецца Іна, і нейкім няпэўным, далёкім пачуццём здагадваўся, што нешта творыцца незразумелае яму і нядобрае. «Што з ёю?»

— Ігар!

Ён аглянуўся. Іна стаяла крокаў на дзесяць ззаду яго. Стаяла і ўсміхалася:

— Паглядзі, буду ступаць у твае сляды!

Не, яна не ступала, а смешна пераскоквала з следу ў след і смяялася:

— Гулівер ты, самы сапраўдны Гулівер!

Ахвотна смяялася — гэта ад таго, што хутка будзе дома. І развесяліць Ігара хацелася. І сябе. Дамаглася свайго — ён не вытрымаў і асцярожна аднымі толькі вачыма ўсміхнуўся, сумна і квола. Яна глянула на Ігара і, зразумеўшы па яго твары, што жартуе недарэчна, сумелася, сціхла, вінавата спытала:

— Ты перастаў крыўдавацъ, што я еду ад цябе?

Ігар сам не ведаў, што з ім — хацелася гаварыць з Інай абыякава, неахвотна, зрабіцца зусім злым і панурым, каб паказаць сваю крыўду, але замест гэтага адчуваў у сабе схаваную, патаемную да яе дабрату.

— Цяжка на цябе крыўдаваць — ты, як дзіця!

— Я несур'ёзная?

— Ты сама, мусіць, лічыш сябе несур'ёзнай.

— Ну і няхай, няхай лічу.

І сціхла. Ішла, аглядвалася на Меднікі і шкадавала Ігара: ён застанецца там.

І думкі перамяніліся — пайшла такая слізкая ад гліны, ліпкая і залітая гразёю дарога, па якой не прайсці ёй у лодачках.

— Ой! — ступіла ў лужу. Ігар аглянуўся — хістаючыся, Іна стаяла на адной назе, туфель плаваў у лужы. І вадой заліло гэты туфель. Ігар вярнуўся, прынёс туфель Іне. А яна стаяла і, ледзь не плачучы, дрыготкая ад ветру і колкай імжы, кусала губы, заракалася: «Ніколі больш не прыеду... Балота, сапраўднае балота... І калі той аўтобусны прыпынак будзе?..»

Углядалася наперад, і ёй здавалася, што гэтай дарозе, гразкай і пакутлівай, не будзе канца.

Дождж, дождж, сцюдзёны, буйны з тугім ветрам у твар, паліўся на зямлю. Кроплі, нібы нейкімі невыразнымі, як ад алоўка, штрыхамі, закрэслілі ўсё: і поле, і дарогу. Густы дождж. І схавацца няма дзе — поле, куды ні глянь.

Наставіўшы каўнер паліто, Ігар пайшоў шпарчэй. Ішоў і суцяшаў яе. Іна адчула, як кроплі балюча сцёбалі па твары, як папаўзлі за шыю халодныя струмені, як пахаладзелі рукі і яна ўся задрыжала. Потым, задыхаючыся ад пругкага ветру і хаваючыся за Ігараву спіну, яна нічога не адчувала, акрамя нясцерпнай халадэчы; ледзь стрымлівала сябе, каб не заплакаць, каб не спыніцца і сказаць: «Не магу!.. Не магу больш!.. Ніколі!»

Заплюшчыла вочы, ішла і амаль не ведала, як і куды ідзе, амаль замерла, затаілася ў халодным здранцвенні разам з пачуццямі і сваімі думкамі.

«Не магу!» — жыў толькі адзін вокліч у душы.

Дождж сек і сек па твары, вецер прадзімаў навылёт, ручаі распаўзаліся па целе, пякучыя і казытлівыя. І не выбірала яна дарогі, напрасткі ішла па лужах і ўжо не адчувала іх, халодных, мокрых,— была ўся, уся нясцерпна халодная і мокрая. І не ведала ўжо, куды ідзе і чаго...

## 5

Праз адчыненае акно аўтобуса Іна бачыла, як з даху аўтобуснай будкі падалі буйныя кроплі, блёўкалі ў лужу — на ёй усхопліваліся кволыя бурбалкі. Вецер гнаў іх на сярэдзіну лужы, там бурбалкі імгненна — аж незаўважна для вачэй — лопаліся, знікалі і зноў усхопліваліся.

Глядзела на бурбалкі і нічога не адчувала: ні радасці, ні суму. Не адчувала на сабе яго позірку з-за акна, уважлівага і сумнага. І гаварыла да Ігара безуважна і глуха:

— Прыязджай у Мінск.

— Прыеду. Абавязкова прыеду, як толькі выпадзе час.

І спытаў:

— А ты, Іна, прыедзеш?

— Сюды? — яна здзівілася...— Не ведаю... Нічога не ведаю...

Спакойна глянула на Ігара праз акно аўтобуса, прамаўчала, не ведаючы, што больш яму сказаць.

— Можа і не... прыеду... Толькі ты не крыўдуй на мяне, Ігар... Зразумей: пачынаюцца практычныя, потым залікі... экзамены...

Ён спачатку не верыў таму, што пачуў. Былі нейкія хвіліны разгубленасці. Ён не ведаў, што думаць, бо думкі не прыходзілі ў галаву; яны замерлі, затаіліся ў нейкім напружаным імгненні. У яго душы варухнулася нешта новае, невядомае. І з гэтым новым ён не мог яшчэ згадзіцца, паверыць яму, бо яшчэ жыў і верыў нечаму другому, у якім ён быў даўно ўпэўнены і пераконаны.

Думкі не прыходзілі...

І яны не прыйшлі — твар яго скамянеў, і, каб Іна не заўважыла яго хвалявання, Ігар адвярнуўся ад аўтобуса.

«Няўжо!? — пытаўся ён сам у сябе,— Няўжо?!»

А яна невыразным позіркам глядзела на лужыну: перад вачыма лопаліся бурбалкі...

Апусціўшы галаву, ён ішоў дамоў. І раптам спыніўся, нібы здзіўлены, нібы разгублены: убачыў падзяўбаныя кроплямі дажджу свае і яе сляды. Яна мерылася ступаць за ім крок у крок. Пераскоквала з аднаго яго следу ў другі. Ды недаступіла, недаскочыла — вострыя маленькія сляды лодачак ляжалі ззаду ад яго глыбокіх слядоў.

«Гулівер ты, сапраўдны Гулівер!» — ён агледзеўся. Паверыў, што Іна і зараз скача за ім, смяецца ззаду. Дрыготка і залівіста смяецца. І сумеўся, пахаладзеў увесь — зразумеў, што гэта толькі яму здалося, што гэта падман; ён проста нёс яшчэ ў сабе яе голас, выраз твару; памятаў, нібы чуў, яе крокі за сваёй спіной... Стаяла ўсё ў вачах... Такім нядаўнім і блізкім... Стаяла ўспамінам.

Апустошаны, самотны, ён пайшоў далей, у вёску. І калі праходзіў ля школы, у душу краўся кожнадзённы неспакой — заўтра шэсць урокаў, а ён яшчэ не браўся за падручнікі.







Генадзь БУРАЎКІН

# БЕЗЫМЯННЫЯ ВЫШЫНІ



олькі вас,
вышынь безымянных!
Колькі на вашых вяршынях паўшых!..
Многія сёння
пазааранй
У чыстым полі
і ў памяці нашай.
Смерці вышыні,
славы вышыні,
Хіба вас памяць усе ўтрымае!..
Спіны вам шорсткія травы прашылі,
Легла ў галовах ціша нямая.
Шмат вас мы сёння не знаем,
не помнім,
Жорсткія
подзвігаў ратных
калыскі.
Вы стаіцё
над шляхамі, над пожнямі,
Як радавыя,
без абеліскаў.

Толькі ж жывуць побач з намі
салдаты,
Тыя,
што знаюць імёны вашы.
Толькі ж жывуць побач з намі
салдаты,
Тыя,
што помняць імёны паўшых.
Памяць сівая
ў пагнутай касцы
Часта у сны ім знячэўку ўрываецца —
І яны прачынаюцца ноччу,
шукаючы
Вашу траву агрубелымі пальцамі.
Сынам яны дораць ракеткі і кеды,
Купляюць дочкам
вясельныя плацці.
Ды зубы сціскаюць,
калі ракеты
З гулкім салютам у неба ўзвіваюцца.
Як солі драбкі на нязгойныя раны,
Ляцяць ракеты,
чырвоныя,
сінія...
І ўваскрасаеце вы,
безымянныя,
Смерці вышыні,
славы вышыні.
І здасца салдатам —
у едкім дыме,
Устаўшы ў атаку, пад град кулямётны,
Сыны,
неабстрэляныя, маладыя,
Для вас,
безымянных,
шукаюць імёны...
Вышыні забытыя, акаянныя!..
Вы ранамі ў сэрцах людскіх засталіся,
Крывёю палітыя,
безымянныя,
Пазааранйя,
без абеліскаў...

# БАЦЬКУ



рышчоны кулямі на фронце,
Даніну ты аддаў гадам...
І я цябе
бязвусай фрондзе
Для насміхання
не аддам.

Ні песень з глотак перасохлых,
Ні сцег салдацкіх, хоць ступню,
Ні шчырых слоў тваіх высокіх
Я ім ніколі не ўступлю.

Былі
калючы дрот і краты,
Магіл заўчасныя гарбы...
Ды ты ні ў чым не вінаваты.
Ты чэсным камуністам быў.

І раскулачваў,
мёрз на фронце,
У сорак сёмым галадаў...
Цябе я
ні крыклівай фрондзе,
Ні культу,
бацька,
не аддам.

А клікне ў шлях цяжкі паходня —
З сабой
і ў спёку і ў зіму
Вазьму
не чысценькую фронду,
А, роднага, цябе вазьму.

## ПРА СЦІПЛЫХ

і залы не было,
ні бойкі.
Быў дрогкі, стомлены трамвай.
І ў ім галёкаў дзядзька бойкі,
Пляваў на мой народ і край.

Глынуўшы ком абразы даўкі,
Мы дзядзьку «выдалі» з пляча...
А побач
быў таварыш даўні
І акуратненька маўчаў.

Стаяў,
салідны і прыціхлы,
Ні ў якай бойцы не разбіт...
А потым нам шаптаў:
«Я сціплы...
Я сціплы...
Я не барацьбіт...»





Так,
сціплы,
сціпленькі,
спакойны...

О, як я ненавіджу вас
За вашу рабскую пакорнасць
І за далёкі чорны час!

Як на сяброў паклёпы сыпалі
І заціскалі ім раты,
Вы і тады маўчалі,
сціплыя,
Былі вы не барацьбіты.

Вы чыстыя...
А з вамі душна.
І,
раскусіўшы вас даўно,
Я праклінаю раўнадушнасць
І вашу «сціпласць»
заадно...

## ПУСТЫЯ П'ЕДЭСТАЛЫ

на зямлі ўжо багоў не стала.
Раструшчан апошні бронзавы бог.
Але засталіся стаяць п'едэсталы
Каля скрыжаванняў раённых дарог.

Іх дождж размывае,
то нудны, то буйны,
Навокала лужы з вадою рудой...
Стаяць п'едэсталы,
нібыта трыбуны,
Прамоўцаў з якіх пазганялі на дол.

Відаць,
у адданых служыцеляў культу
Яшчэ па-старому зварыла башка,
Не могуць паверыць,
што вопытны скульптар
Не зляпіць ніколі другога бажка...

Стаяць п'едэсталы.
Пустыя,
без кветак.
Вось-вось яны грымнуцца вобзем навек

І пылам асядуць
на мокрых кюветах
Ля кірзавых ботаў тваіх,
Чалавек.

# ПРА ПАЛІТЫКУ


ысокае слова «палітыка»,
Як многа ў сябе ты ўмясціла —
І кроў, недарэмна пралітую,
І мары народа, і сілу,
І Леніна ночы бяссонныя,
І часу няўмольнага рытмы...

Цябе і клялі,
і мусолілі,
Суровае слова «палітыка»...

Казалі,
што для палітыкі
Часам патрэбна няпраўда.
І па магільных плітах
Гулка грымелі парады.

Казалі,
што для палітыкі
Патрэбны і адступленні.
І воінаў, славай пакрытых,
Кідалі на калені...

Я знаю, я помню
гладзенькіх,
Заўсёды памытых, пабрытых.
Яны ў нашы душы га́дзілі,
Міргаючы хітра:
«Палітыка».

Падаткі збіраць прыходзілі,
Прывычна пілі «паўлітры»,
Рукамі нахабна разводзілі:
«Палітыка, брат, палітыка...»

Было...
Адплыло...
Не забыта...
Таму і слаўлю заўсёды
Цябе,
не проста «палітыку»,
А — ленінскую, для народа...





Ля помніка Т. Шаўчэнку ў Каневе.


дуць гады,
сціраючы імёны.
Такі закон, такі няўмольны лёс...
Злятаюць манументы і амбоны.
Злятае лісце з выстылых бяроз.

Мяняюцца і звычаі і моды,
Ліняе пазалота ўсіх прыкрас.
Мялеюць рэкі.
Высыхаюць моры...
І ўсё ж ткі не ўсясільны грозны
час.

Хоць і сівеюць многія пегасы,
Сплывае і ўсплывае зноў зара,—
Але гарыць і сёння непагасна
Агонь душы і песні Кабзара.

Праз пыл этапаў і касмічных
трасаў.
Праз горыч страт і радасць
перамог
Арліны погляд роднага Тараса
Нам грэе сэрцы на вятрах дарог...

Час правярае справы ўсе і словы,
Няўмольна дзеліць кветкі і
быльнёг...
Але і час,
нястрымны і суровы,
Кладзе вянкі да Тарасовых ног...




ай руку мне, любімая,
пойдзем
Проста па лужынах, пад капяжы...
Аб узгоркі
ўзмакрэлы поўдзень
Точыць промняў крывыя нажы.

Вунь у снег наздраваты ўтыкае
Сонца востры, бліскучы нож —

I ад прыпару ў гурбы ўцякае
Палахлівы ручай басанож.

На калючых павейках соснаў
Слёзы радасці —
пад карой
Прачынаюцца рэкі сокаў,
Закіпае зялёная кроў.

I прабілася ў дзюбе сініцы
Незнаёмая нота адна...
Дай руку.
Бачыш,
сонца ў зеніце
I зусім недзе побач вясна...

# ПОЎДЗЕНЬ



Я веру поўдню.
Ён не памыляецца,
Бо ён не мае у сабе ані
Туманнасці яшчэ санлівай раніцы
I стомленай вячэрняй цішыні.

Я веру поўдню.
Казкі не лапоча ён
I позехам даўгім не крывіць рот,
А моўчкі ўсмак працуе,
заклапочаны,
Ды рукавом з ілба ўцірае пот.

Ідзе сваёй прывычнаю дарогаю
I памятае, ведае адно,—
Што ўжо ў зеніце самым
сонца строгае
I ўсё, як ёсць, адтуль яму відно.

Я веру поўдню.
Веру,
бо з цвярозасцю,
Са сталасцю ён дружны недарма,
I ў ім няма вячэрняй асцярожнасці,
Запальчывасці ранішняй няма...

Я веру поўдню...



Вечаслаў АДАМЧЫК



Мастак
Мікола ЗАЛОЗНЫ

# Белы снег

Апавяданне

Тут быў вечар, горад, сінявата-белае, як вадзяністае малако, святло ліхтароў, позняя люднасць на тратуарах, перапоўненыя тралейбусы, раптоўнае шуршанне легкавых машын, спацелыя вокны ў магазінах і субота,— а для яго незвычайны сум. Ён хадзіў па горадзе — яму ўспаміналася цёплае далёкае мястэчка, нядаўняе светлае лета, сцежка ад станцыі праз маладую канюшыну, шырокая небрукаваная вуліца з лужынаю пасярод, аброслыя мохам платы, шчыра-мяккі спарышнік каля парога, няроўны, з выбоінамі гліняны ток у цемнаце ў сенцах, абабітыя на зіму дзяружкаю дзверы і белая хата, з чыста вымытаю нефарбаванаю падлогаю ў большай палавіне, калі ён першы раз увайшоў туды, калі да яго прыглядалася гаспадыня,— і яна — у гэтай белай хаце з пышна засланымі, як у вёсцы, ложкамі — у вязанай тугой кофтачцы, галарукая, загарэлая за лета, прыемна паблажэлая з твару; і ён тады са страхам падумаў, што яна тут падабаецца хлопцам: гараджанка ў гэтым дробным мястэчку з пыльнымі, парэзанымі каляінамі вуліцамі.

Але гэта потым: яе спярша не было дома, яна была на рабоце. I ён пайшоў шукаць тую бібліятэку — вось тут блізенька, як сказала гаспадыня, калі мінецца сельмаг, ён помніць — пабелены аднапаверховы будынак з выцвілым штапелем, з чырвонымі плакатамі ў вітрынах; і каля ганка хлопцы, з веласіпедамі, з хлебам у багажніках; і далей за рэдкім, вострым частаколам, пад старою перасохлаю гон-

таю ашаляваная хата з шыльдаю над ганкам — бібліятэка. Ён помніў: паўцёмны калідорчык, пах сухога спарахнелага дзерава — гэтак пахне заўсёды нежытлая хата, а потым нейкая шчымліва-радасная нерашучасць перад дзвярмі, а потым і яна — нечакана-разгубленая, сарамліва пачырванелая ў твары і ад таго шчыра і нова прыгожая. А потым яе разумна-ласкавая ўвага, гаворка шэптам, даўно перагледжаныя часопісы, а потым позні вечар, вільготны пах роснае травы, белае неба на захадзе, гаворка пад акном, шорах мяккіх матылёў аб шкло — у хаце ціхі позні агонь. Скрып дзвярэй — не спалася ўсё ёй, гаспадыні.

А сёння субота, недзе там, у РДК,— танцы, таўкатня падлеткаў каля ўваходу, шыпенне пласцінкі ў рупар, і першы танцор, абрыдла і назойліва прыгожы, з выкладзенымі валасамі, у шырокіх матроскіх штанах, знарок не завужаных, паправіўшы рамень, сапраўды падыходзіць да яе першым, можа толькі не п'яны, можа не такі ўжо фанабэрысты, бо ведае і пабойваецца хлопцаў. А тая, ужо заседжаная ў дзеўках, работніца бібліятэкі, што ўмее ўсё рабіць па-мужчынску: штурхаць у плячо хлопцаў, у зацяжку курыць і ядрона лаяцца, далей ад людзей, дзе-небудзь за стэлажамі, і што, вядома, прывяла яе сюды паглядзець — бо тут не горай, як у сталіцы, будзе паморгваць адным хітрым вокам: «Глядзі ты, які гонар!»

Будуць шаркаць падэшвы, будзе патрэскваць у рупары і будзе спяваць Гэлена Веліканава:

А за окном то дождь, то снег,
И спать пора, и никак не уснуть:
Всё тот же двор, всё тот же смех,
И лишь тебя не хватает чуть-чуть.

Недзе там будзе весела, і недзе будзе танцаваць яна — расчырванелая, прыгожая — і стомлена-радасная будзе варочацца дадому.

А ён будзе і зноў адзін у пакойчыку, дзе кватаруе, у канцы горада, наводшыбе, у цішыні. У пакойчыку будзе ізноў чадна ад радыятара, не будзе спацца, і ўсё будзе ўспамінацца яна. А заўтра зноў сыры туман, усё буднезвычайнае, і адзінота...

І яму раптам захацелася туды, да гэтага цяпла, весялосці, яе. Ён нават уявіў, як праз сырую цёмную ноч будзе ісці цягнік з цішынёю ў вагонах, з соннымі пасажырамі, мінаць нялюдныя паўстанкі, глухую восень, цёмныя лясы, мокрыя алешнікі, і заўтра раніцаю, калі ўжо добра развіднее, за маладымі зялёнымі хмызнякамі пойдуць хаты, чорныя тлустыя палеткі заранага на зіму поля — і спачатку ўдалечыні пакажацца вадакачка, чырвоны, накрыты чарапіцаю дах вакзала, мінецца пабелены доўгі пакгауз, складзеныя штабялямі чорна пасмоленыя шпалы на адкосе, па адным таварныя вагоны скрозь па пуцях, парослыя дзярном у тупіку рэйкі, і нарэшце, шэры бязлюдны перон, ранішні азыраваты халадок пасля цяпла ў вагоне, а потым цвёрда выбітая сцежка ў мястэчку, лёгкая хада — відаць таполі яшчэ зялёныя на той вуліцы, дзе знаёмая хата за плотам, цёмна-чырвоныя ліштвы ў вокнах.

Ён спыніў таксі, сеў і паехаў на вакзал, паглядаючы, як скачуць з сухім ціхім трэскам у таксометры чырвоныя лічбы, як наперадзе мільгаюць ружовыя агні стопсігналаў і недзе на іх пільна ўзіраецца абыякава-маўклівы шафёр. Праз паўгадзіны ён ужо сядзеў у агульным вагоне,— балазе купіў білет,— там было поўна людзей і не было дзе павярнуцца. Ён выйшаў у тамбур і доўга курыў — за акном ляцела цёмна-цяжкая ноч, уздрыгваў і недзе на паваротах хіліўся на адзін бок вагон.



Спаць ён лёг позна, а прачнуўся рана ад цішыні на нейкім глухім паўстанку і болей не заснуў: на двары было сіне ад позняга месяца, іскрылася трава ад першага марозу. Кругом, мусіць, была цвёрдая і гулкая зямля. Яму ўспомнілася, як на першыя прымаразкі ў вёску на сметнікі прылятаюць сарокі, як чарнеюць, вянучы ў гародчыках, познія кветкі — памерзлыя вяргіні — і толькі адзін бэз за хатамі, у цяпле, яшчэ доўга трымае зялёнае лісце.

А за акном усё бясконца бегла месячная ноч, шэрае поле, і далей пад лясамі купкамі чарнелі хутары, свяцілася нечае акно — нехта ўставаў рана, па старой звычцы, па цягніку. Цягнік недзе паварочваў — стаў відаць белы месяц. Ён бег нізенька пад тэлеграфнымі правадамі, знікаючы за тонка-вострым ельнікам на адхоне.

На рэдкіх паўстанках садзіліся новыя людзі, яшчэ шукалі вольнае месца і клаліся спаць. Але да дня было ўжо блізка, ужо зачынала чырванець неба на ўсходзе — пякуча і холадна, выразна і востра пачынаў сінець ельнік скрозь на адхонах. Усходзіла сонца. Пайшлі балоты з шэраю асакою, голыя з карычнева-рэдкімі вярхамі лазнякі, спрэс маладыя падголены знізу алешнік, загрукацеў мост, бліснула халодна-тугая рака, на прагалах між лясамі паказаліся хаты, нечая крытая чарапіцаю страха з лічбаю «1938», і ён падумаў, што скора будзе станцыя.

Станцыя сапраўды была скора. Ён сышоў, адчуваючы і нейкую шчымлівую радасць і першы лёгка-здаровы холад раніцы. На цёплай траве, па папары, скрозь па канавах шарэў першы сухі марозік. У некага за плотам пад хатаю чырванела спелымі чачоткамі — лісце апала даўно — гнуткая, як у лесе, рабіна. І ён пайшоў, рады, што сёння нядзеля, што гэтакі сухі марозік у пагоду, у сонца, што ён скора будзе там, у хаце, дзе гэтак добра і мякка пахне дзявочай цеплынёю, мякка-бархатнымі духамі, а яна яшчэ, пэўна, будзе ў ложку, і ў яе будуць распушчаныя, з мяккім бляскам, валасы на падушцы, падпухлыя вочы, чыста-бліскучыя пасля сну, негустая ружовасць на шчоках. І ён не асмеліцца падысці да яе, пакуль яна не пакліча, не падасць руку, прыпаднімаючыся і трымаючы каля самага падбародка коўдру, але ўсё роўна ён будзе бачыць чыста-белае круглае плячо з ружоваю рыскаю, належанаю ў сне.

Але ў хаце ўжо даўно не спалі, ужо былі адчынены сенцы, і адтуль, паднімаючы вецер і губляючы пер'е, паляцелі куры. З хаты адчыніліся дзверы: выглянула гаспадыня, сказала недзе ў хату:

— Глядзі, Ніначка, а хто ж гэта прыехаў!..

І выбегла яна, у строгай чорнай сукенцы з бліскучаю брошкаю. Узяла яго за руку вышэй локця і павяла ў хату. І ён пайшоў, забыўшыся, што быў учора шэры горад, яго адзінота, адчуваючы яе добрую руку, цяпло ад яе ўсяе і тонка-прыемны пах яе духоў, той самы, які ён любіў даўно і якім цяпер пахлі яе валасы, гладка зачасаныя на прабор. Ён збоку глядзеў на яе і бачыў яе чорна-тонкае брыво і ў завушніцы сіне-празрысты, як кропля вады, каменьчык.

А яна, нечакана-радасная, памагаючы яму скінуць паліто, цёпла дыхнула яму ніжэй вуха:

— Я цябе чакала...

Было ў гэтым нешта шчыра і проста добрае, і ён раптам адчуў, што ў яго пацяплела на сэрцы, што ён чырванее ад сарамлівасці, што гэтакая далікатна-наіўная яна, што ён у гэтай хаце, дзе па-свежаму вымыта, мусіць, учора падлога, па-вясковаму засланы белым тонкім абрусам стол, чыстая і мяккая, як першы снег, вата ў аклееных на зіму вокнах і павялічаны над ложкам здымак яе мамы: яшчэ мала-



дой, з кароткімі, адрэзанымі валасамі, у берэце, якую ён бачыў яшчэ летам, калі быў у іх дома,— цяпер ужо паўнявую нізенькую жанчыну, што неяк цвёрда стаяла на зямлі і была па-вясковаму простая і спраўная. Яму ўспомнілася лета, сад, мяжа, сырая, высокая, яшчэ няскошаная трава, куст парэчніку ўвесь у спела-іскрыстых ягадах. Яе мама прыносіла сюды дзяружку — і яны тады абіралі парэчкі. А потым яна праводзіла яго крышку ад дому і сказала, што яе накіравалі сюды на работу і што яна скора паедзе. Ён тады, развітваючыся, пацалаваў яе,— першы раз, саромеючыся, не ўмеючы, у абмякавыя і нечакана цвёрдыя губы,— і потым доўга саромеўся сябе, што ён не ўмее цалавацца.

Яна паехала, яму здалося — назаўсёды: ён думаў, будуць спачатку пісьмы, спачатку частыя, потым рэдка, а потым у яго, вядома, будзе другая дзяўчына. А пасля ад яе прыйшло пісьмо, што яна вось тут, у гэтым мястэчку, што прыняла бібліятэку: з мышамі, пылам, з растрэсенаю картатэкаю, што знайшла кватэру — у харошай і добрай, як мама, цёці Ані, і пасварылася з загадчыкам аддзела культуры, бо глядзіць на яе, як на маленькую; а потым было другое — кароценькае, што ідзе дождж і ёй зусім сумна.

А потым паехаў ён — усяго на дзень. І быў вось у гэтай хаце, як і цяпер, бачыў праз акно чорны камель яблыні, чырванабокія яблыкі ў лісці, свежа-жоўты плот па другі бок вуліцы, светла-белыя рамы нечых вокан,— як і цяпер, адчуваючы ў сябе за спіною яе, і яму было добра.

— Мы пойдзем на работу. Разам? — сказала яна, падцягваючы капрон абедзвюма рукамі па гладкай і прыемна бліскучай назе.

— А куды ж гэта не снедаўшы? — адазвалася гаспадыня недзе з другой палавіны, з кухні.

— Мы пойдзем у сталовую,— сказала яна для гаспадыні, а потым глянула на яго і спытала, кіўнуўшы галавою: — Добра? У мяне бібліятэка. Ты ж ведаеш, што я і ў нядзелю на рабоце.

Яна дастала з шафы паліто і падала яму — яно было зусім лёгкае і лёгка пахла ёю — і паслушна працягнула за спіну рукі. І ўся яна была нейкая добра-паслухмяная, калі трымалася за яго руку, калі ішлі ў сталовую, дзе яны снедалі, дзе было поўна людзей: нераспранутых, непрычасаных, у жоўтых выдубленых кажушках з чорнымі каўнярамі, з жытнімі каласкамі ў гэтых каўнярах, мусіць, з вазоў з саломы, дзе на століках стаялі папяровыя кветкі з жырнавасковымі зялёнымі лісткамі, дзе быў столік пад вялікім, да самае столі, фікусам, за якім яны снедалі і пілі віно — крышку салодкае і прыемна сухое ў роце.

Яна, выпіўшы, расчырванелася і на вуліцы саромелася, што ўсе бачаць, што яна ап'янела, і мацней трымалася за яго руку, а калі гаварыла, зазглядала ў вочы — шчыра, як малое дзіця. І сам ён адчуваў нейкую гарачыню ад гэтага віна, сваю дабрату, неяк мякка ўвесь белы свет: позняе святло восені, чэрства-здаровую цеплыню, грукат фурманак па бруку, што ехалі недзе ў адзін бок, на рынак — у палукашках у саломе рохкалі і трасліся салам белыя япрукі, ля япрукоў сядзелі бабы, ружавашчокія, маладыя, русыя, расслабіўшы цёплыя суконныя хусткі ад гарачыні. На вуліцы было кірмашна, цёпла, весела. У бібліятэцы, куды яны прыйшлі — знаёмы паўзмрок, цішыня, прахалода, рассохлая падлога пад нагамі, пах даўняга пылу



і кніг. І яна, скінуўшы паліто, стройная, дробна мілая з твару, зусім як падлетак, зусім не такая, калі ён убачыў яе тады, першы раз, на цаліне, сярод дзяўчат каля палаткі, нечым тады прыкметная, ганарыста-гарадская, у лёгкім сарафанчыку з кароценькімі рукавамі, спрытна-прыгожая. Але ўсё ж нечым гэтая самая, толькі цяпер свая, а ў яго цяпер — лёгкая, крышку хмельная прага пацалаваць яе. Ён падышоў да яе, узяў за плечы, адчуваючы праз прыемна гладкую сукенку добрае яе цяпло, яе рашучую пакорлівасць, сцішаную рахманасць, і пацалаваў у крышку растуленыя ад нечаканасці губы, мякка-і цёпла-вільготныя, і ўбачыў яе вочы — адданыя, трохі прыжмураныя ад хітрасці. А яна — шчаслівая-сарамлівая — нерашуча варухнула плячамі, выслізнуўшы з яго рук:

— Дурненькі, гэта ж хто ўбачыць...



Яму было сорамна, брыдка і хораша. Ён нават падумаў, як гэта было б цікава, незвычайна, каб ён пацалаваў яе на вуліцы, перад усімі. Ён пра гэта з наіўнай і смешнай радасцю думаў, калі бачыў, як цалуюцца даўганогія дзяўчаткі на шпілечках, з падфарбаванымі вейкамі, з прыгожымі цыбатымі хлопцамі з рэдзенькімі, няцвёрдымі яшчэ вусікамі. Гэта было хораша, не брыдка і прыгожа. І ён так-



сама, напэўна, адважыўся б тады, калі быў у горадзе, далёка адсюль, адзін.

У бібліятэку яны прыйшлі рана, за гадзіну да работы. Яна, распрануўшы паліто і адзеўшы сіні сацінавы халацік, прыбірала на стале параскіданыя часопісы, папраўляла ходнікі, злуючы на прыбіральшчыцу, і ён памагаў ёй — спачатку адзін насіў кнігі, што ляжалі грудаю, абы-як каля стала, а потым насіла і яна. А калі паднімалася па драбінцах, каб паставіць кнігу на верхнюю паліцу, а ён трымаючы гэтыя драбінцы, бачыў яе ногі, стройна і прыгожа напружаныя, і адчуваў раптоўны лёгкі хмель у галаве, калі яны нечакана датыкаліся да яго рукі. Яна, спускаючыся, трымалася злёгку за яго плячо, і ён браў яе, асцярожна падтрымліваў пад пахі і ставіў на падлогу, і яшчэ доўга трымаў у руках так блізка, першы раз, адчуваючы яе сваёю, пакорна-адданаю. Яна раптам рабілася сцішаная і сарамяжлівая хавала вочы, і весела дабрэла. А потым прыйшлі дзяўчаты: тая перастарэлая незамужняя дзяўчына з груба-смелымі жэстамі, і другая, дробненькая, у чорнай сукенцы, туга перацягнутая ў таліі паяском, падобная на мурашку, што ўсё крадком, хаваючыся за стэлажамі, паглядала на яго, а ён саромеўся — неяк уяўляючы сваю груба-звычайную хлапечую прыгажосць, свой прадаўгаваты твар, чарнату, і ўспомніў тое, некалі яму сказанае, што ён зусім падобны да яўрэя.

Але ён зусім забыўся пра гэта, яму было добра, калі ён ужо быў на вуліцы, калі яна сказала, што яны пойдуць у блізенькую вёску шукаць старшыню, што не выпісвае газет, што культурны фонд траціць бог ведае на што...

Мінулася кароткая вуліца з вымашчанымі ходнікамі, драўляны ў дошках з дзіркамі мосцік праз вузка-імклівую рэчку, і яны пайшлі алешнікам, голым, дзе было пад нагамі шапаткое прэлае лісце, потым выпасеным балотцам з пасохлымі кучамі каровінага памёту, потым цвёрда-гладкаю сцежкаю каля рэчкі, дзе зелянеў свежы, крохкі яшчэ аер, а далей — узгоркамі, пясчаным неараным полем, дзе ўжо браліся ў рост ядлоўцавыя кусты і шарэў жоўты мяккі мох, потым марным павысяканым хмызняком, дзе пахла яшчэ, мусіць ад лета, мухаморамі і дзе цяпер, пэўна, збіралі зеляніцы. За лесам паказалася вёска: крычалі і лопалі крыллямі гусі. У гародах секлі капусту і насілі ў дзяружках дадому. Капуста скрыпела крохкім, сакавітым лісцем.

Старшыню яны не знайшлі і варочаліся дадому крышку ўжо змучаныя, стомленыя цішынёю блізкага вечара, чэрствага, з чырвоным небам на захадзе. Ляжала шэра-голае поле — чамусьці стала шкада нядаўняга празрыстага лета, цёплых жытоў, буйных рахманых грачанікаў на межах. Араў трактар — блішчала і яшчэ дыхала цяплом чорная ралля. За трактарам ішлі, падлятаючы, цяжкія гракі. Іх прынесла сюды з мястэчка многа, як цьму.

Мястэчка было сцішанае, ляное пасля кірмашовага дня. Стаялі бабы пры весніках, гаварылі праз вуліцу і праводзілі кожнага вачамі. Беглі ў кіно сем'ямі, па-раённай завядзёнцы, прыбраўшыся, як у царкву. Мякка ляжаў чэрствы вечар, у дварах каля хатаў, шапацела апалым, перасохлым лісцем цішыня пад платамі. У некага засвяціліся жоўтыя вокны, і было відаць абажур.

У іхняй хаце не было агню: гаспадыня недзе паехала, мусіць, да дачкі ў недалёкае Гродна, дзе тая жыла замужам, і яны знайшлі ключ у дамоўленым месцы, пад падрубаю, навобмацак, у цемнаце. І доўга сядзелі ў пустой, прыбранай хаце, і маўчалі, і моўчкі слухалі,

як на сцяне ў поўнай цішыні цікаў гадзіннік, а потым заціхаў, зліваючыся з гэтай цішынёю. Абое думалі пра тое, што яму трэба збірацца — да станцыі не блізка, што скора будзе цягнік, што трэба пра нешта гаварыць, што ўсё выходзіць гэтак няўдала і сумна.

— Ну, пойдзем! — сказала яна першаю, устаючы з крэсла.

Нехаця падняўся ён. І, апранаючыся, стаў шкадаваць, што выйшла ўсё не так, як думаў кожны раз перад сном на адзіноце ў голым пакойчыку там, у горадзе, калі бачыў перад сабою бляск яе вачэй і адчуваў лёгкасць яе рук у сябе на шыі і яму было добра і радасна ад гэтых думак, а цяпер вось у гэты вечар яны далёкія і чужыя. І калі яна выключыла святло, але не адчыняла дзвярэй, чакаючы, мусіць, яшчэ яго,— ён раптам паадважнеў, але спачатку неяк няўпэўнена падышоў да яе, узяў злёгку за плечы ўсю яе неяк нечаканасцішаную, памякчэлую, а потым знайшоў яе трохі бязвольную руку, што неяк памаленьку адарвалася ад клямкі.

Пачуўшы ціхі ўздых і казытлівы дотык валасоў, рассмеліўся зусім, ціха ўсміхаючыся сабе ад радасці, што яна гэтак блізка каля яго, крышку варухлівая, крышку непадатлівая, і прыгарнуў яе да сябе, ужо забыўшыся, што ёсць на свеце сорам, брыдкасць.

— Ну, пойдзем,— сказала яна недзе блізка ў яго каля грудзей, мусіць, праўду, мусіць, абы не маўчаць.

— Нікуды не пойдзем,— сказаў ён, нахіліўшыся і тварам шукаючы яе твар, і раптам адчуў лёгкае цяпло яе шчакі, а потым нямоцна звітыя ў сябе на шыі яе рукі, а потым вільготнае дыханне, дотык яе вуснаў недзе ў сябе на шыі, а потым знайшоў іх: яны зусім не ўцякалі, крышку стуленыя ад нечаканасці, і, задыхнуўшыся, адчуў іх жывое, мякка-ціхае цяпло.

— Табе горача,— сказаў ён неўпапад, расшпіляючы яе паліто і адчуваючы, што рукі яго не слухаюць.

— Што робіш, дзівачок мой? — яна адступілася, але недалёка, усяго да вушака. А там яе злавілі яго рукі, хоць яна і не ўцякала, не вырывалася, яна толькі ціха шэптам выдыхнула:

— Ты позніўшся на поезд...

Але ён ізноў адчуў у сябе на шыі яе гарача-пакорныя, адданыя рукі, убачыў, як радасна, хораша, прыемна і нечакана гіне для яго гэты свет.

...Снег выпаў рана, мусіць, як знак, што рана пачнецца зіма, на зялёны яшчэ бэз у гародчыках, на цёплую траву пад платамі. І стала ўсё бялець першаю чысцінёю, і запахла сырым, кіслым дымам, як зімою.

Было радасна і бела ў вачах, калі ён выйшаў на ганак з кубкам вады, з ручніком, з мылам, у адной майцы. Следам за ім выбегла яна ў лёгкай, рэдзенькай, выцвілай сукенцы, беланогая, і крыкнула:

— Прастудзішся, дзівачок мой!

І патрусіла недзе на голае яго плячо пякуча-халодным снегам. А ён аж заплюшчыў вочы ад холаду, ад прыемнасці, выпусціў кубак, мыла, абхапіў яе, нечакана адчуўшы пад рукою яе грудзі,— цёплыя і туга-жывыя,— і стаіўся ад радасці, задумаўшыся, што так проста, так нечакана-радасна яна стала ягонаю.

А кругом чыстым першым снегам на зямлі бялела чалавечае шчасце.







Сяргей ПАНІЗНІК

# Цішыня

Памяці Марыі Ш.



Вось зараз адчуць бы  
Такую ціш:  
Не сумную і незастоеную,  
А настоеную  
Красавіцкімі чарамі,  
Як застольная  
Пасля першай чаркі.  
Я слухаў бы ціш,  
Ці  
Гэта празрыстае трапятанне,  
Я супаставіў бы  
Цябе, ціш,  
З настроем пасля спаткання.  
З настроем пасля чагосьці добрага,  
Зробленага не на вобмацак,  
Калі ад поту вопратка  
Выпарваецца пад сонцам.  
Калі чуеш прагорклае

Дыханне ствала бярозы.
А стук сякеры пагоркамі
Расходзіцца па барознах.
Сядзець бы
На камлі ў парасніку
І слухаць бы да знямогі,
Калі такой цішыні і радасці
На аднаго
Замнога.





райгралі трубы час адбою,
Між тапаляў палі росы ніц.
Толькі недзе над пшанічным полем
Хмары вострацъ стрэлы бліскавіц.

І раптоўна, як у міг трывогі,
Паўздымала громам нашы сны...
Спіце, хлопцы!
Грукацяць дарогі
Наступлення новае вясны.

## ВЕЧАР



ечар смачна пахне сырадоем
І азёрным водарам далёкім,
Калі ўдарыць
У звонкія даёнкі
Успененым рамонкавым настоем.

Уздыхаюць цёплыя каровы,
Лежачы пад месяцам папарна.
Праплывуць карычневым
паромам
Ранкам па астужаным папары.



каралеўская кроў, якая цякла ў яго жылах (тады на гэта вельмі зважалі), падтрымка навакольнага панства, вялізныя вайсковыя сілы, падтрымка праваслаўных і «лясных братоў», талент воіна, а галоўнае — жахлівая галеча, цалкам безнадзейнае існаванне сялян. Маладога кіраўніка па ўсім наваколлі называлі ўжо, не саромячыся, каралём.

Але ён пакуль што збіраў сілы і дыпламатычна тумаціў вочы прадстаўнікам дзяржаўнай улады. Сілы яго, як казаў рукапіс, дасягалі ўжо васьмі тысяч коннікаў, якія часткова хаваліся ў пушчы, часткова знаходзіліся пры яго палацы.

Нарэшце глыбокай восенню 1602 года ўсё было гатова. Па навакольных царквах сяляне ўзялі прысягу каралю Стаху, і ён нечаканым ударам авалодаў моцным замкам у сучасным павятовым гарадку. Чакалі толькі Яраша Штамета з хлопцамі, а паколькі войска было моцным, а кароль рашучым — цалкам магло здарыцца, што ў гісторыю Беларусі была б запісана новая яскравая старонка.

Не выказваў асаблівага захаплення каралём Стахам толькі Раман Яноўскі, моцны магнат, уладар Балотных Ялін. Кароль падазраваў, што Раман уступіў у заганныя зносіны з гетманам літоўскім і нават рымскай царквою. Ён папярэдзіў Яноўскага, што гэта небяспечна для яго скончыцца. Яноўскі запэўніў яго ў сваёй павазе і адданасці, і кароль Стах паверыў, нават аблабызаўся з Раманам, нават змяшаў у кубку сваю і яго кроў, якую пасля выпілі абодва дагаворныя бакі. Стах нават даслаў Раману срэбную пасуду.

Невядома, што прымусіла Рамана рашыцца на наступнае. Ці славалюбства, ці вераломства, ці, можа, яшчэ што. Ён жа быў сябрам законнаму каралю. Ён запрасіў караля Стаха на паляванне, і той выехаў да яго са сваім невялікім паляўнічым атрадам чалавек у дваццаць. Штамет павінен быў з'явіцца ў замак назаўтра, часу было досыць. Кароль вырашыў пабавіцца, тым больш што прадмет палявання быў вельмі спакуслівы: балотная рысь, істота, якая нагадвала памерамі і афарбоўкай тыгра і ўжо тады была рэдкай у нашых пушчах, а пасля, год праз сотню, зусім знікла, і пра яе нават забылі.

«І чорную здраду задумаў ён, пан Раман. Хоць і быў кароль Стах мужыцкім каралём, хоць і ўзняўся супраць божых улад, але хіба не благаславіў бы бог і яго ўладу, каб ён захапіў трон дзедзіч сваіх?

І прыехаў кароль Стах у Балотныя Яліны, і тут яму палац агнямі ўпрыгожылі і пір зрабілі. І ён піў і пацяшаўся з панам Раманам і іншымі панамі, а паноў тых была можа сотня і яшчэ тры дзесяткі. А ўначы паехалі яны на паляванне, бо ночы стаялі светлыя, а ў такія ночы балотная рысь пакідае сітнягі і ходзіць па нашай раўніне ад Балотых Ялін аж да ўрочышчаў Курганы і Пнюхі і ловіць не толькі худобу, але і самотных людзей,— таму ж і ненавідзяць яе ўсе, таму і знішчаюць, што яна — людажэр: воўк праміне, і лясная рысь часцей за ўсё праміне, а балотная не праміне.

І госці ўсе паехалі, а Раман з паляваннем караля Стаха і старым сваім верным даездчыкам Аляхно Варонай, і дробным шляхціцам Дубатоўкам паехаў на балотную рысь. А ноч такая была, што ледзь месяц свяціў, і смутна ўсё было, і скакалі па балотах, нягледзячы на восень, балотныя сінія агні.

А агні чалавечыя згаслі ў хатах, і можа нават бог, па нявызначанай мудрасці сваёй, пагасіў агні і ў некаторых душах чалавечых. І адбіліся ад загоншчыкаў сваіх пан Раман і кароль Стах.

Не паспелі і агледзецца яны, як скокнуў з купіны лемпарт балот-

Апошні бой партызаны далі ў Вялікай Волі. Ён завязаўся раніцай і цягнуўся да ночы. Часам здавалася, што гітлераўцы вось-вось праравуцца праз Шчару, але кожны раз становішча выратоўваў бронеатрад. Браневікі і танкеткі ва ўпор расстрэльвалі фашыстаў, якія выпаўзалі на тонкі лёд Шчары.

Пачынала вечарэць. У партызан канчаліся боепрыпасы. Было многа параненых. Выдзеліўшы невялікую групу прыкрыцця і адзін бранявік, ноччу партызаны пакінулі Вялікую Волю. Не ведалі народныя мсціўцы, што ніхто з вялікавольцаў больш іх не сустрэне, не скажа спачувальных слоў, не пакладзе ў торбу кавалак сала, не засуне ў кішэню кісет з тытунём...

## ТРЫВОЖНЫЯ ДНІ

У той дзень, калі немцы падышлі да Шчары і завязаўся бой, усе жыхары Вялікай Волі з дзецьмі, жывёлай, хатнім скарбам падаліся ў Грабскі лес.

Трывожныя гэта былі дні. Акрамя пастаяннага страху, дапякаў холад і голад. Была зіма. Хаця снег яшчэ не выпаў, але моцны мароз скаваў зямлю. Наспех зробленыя буданы не надта ратавалі ад сцюжы. Запальваць вялікія кастры было боязна. Увесь час над лесам гулі варожыя самалёты. Асабліва цяжка было тым, у каго маленькія дзеці.

Вялікавольцы мужна пераносілі ўсе выпрабаванні. Калі-нікалі да іх наведваліся партызаны. Людзі акружалі іх, дапытваліся пра вынікі баёў, пра намеры ворага. Навіны не надта радавалі. Акупанты рваліся ў Ліпічанскую пушчу, і стрымліваць іх станавілася цяжэй і цяжэй.

Дванаццатага снежня ў лес дайшла трывожная вестка: партызаны пакінулі Вялікую Волю. У вёску прыйшлі немцы.

«Што ж будзе далей? — думалі вялікавольцы.— У вёску цяпер дарога закрыта». Некаторыя прапанавалі чакаць, пакуль немцы не выберуцца. Не век жа яны будуць сядзець у вёсцы... Але неўзабаве прыйшла новая вестка, што гітлераўцы аблавай ходзяць па лесе і таго, хто трапляе ў іх кіпцюры, на месцы забіваюць.

Людзі не ведалі, што рабіць. Прабірацца ў вёску ці заставацца ў лесе. Хлапчукі нейкім чынам прабраліся ў вёску і ўстанавілі, што немцаў там няма. Гэта было вечарам. Днём па ўсім лесе чулася моцная страляніна. Людзям цяжка было зразумець, дзе немцы і дзе партызаны. Заставацца далей у пакутлівай невядомасці было звыш чалавечых сіл. Вялікавольцы рашылі выкарыстаць адсутнасць немцаў і вярнуцца ў вёску. Другога выйсця ў той момант яны не бачылі. Пагрузіўшы скарб, глыбокай ноччу абоз рушыў з лесу. Перад світанкам вялікавольцы прыехалі ў родную вёску.

Хлапчукі сказалі праўду. Немцаў і сапраўды ў вёсцы не было. Спаць, акрамя дзяцей, ніхто не клаўся. Каб як-небудзь замаскіраваць сваю часовую адсутнасць, трэба было распакаваць клункі, паставіць на месца жывёлу, навесці хоць які-ніякі парадак у хатах. З трывогай на сэрцы чакалі вяскоўцы дня.

Раніцай у Вялікую Волю зноў наехалі гітлераўцы. Вяскоўцам адразу кінулася ў вочы, што сярод салдат былі карнікі. Іх выдавалі чорныя шынялі з намаляваным чэрапам на рукаве. Нейкі новы, яшчэ затоены жах зноў закраўся ў сэрцы людзей. Але яны не выказвалі



ўголас сваёй трывогі, наадварот, стараліся падбадзёрыць, абнадзеіць адзін другога, што ўсё абыдзецца, не трэба дарэмна хвалявацца.

У сярэдзіне дня акупанты загадалі вяскоўцам сагнаць усю жывёлу ў прызначанае месца. Калі загад быў выкананы, гітлераўцы вылучылі дваццаць восем мужчын, якія павінны былі гнаць жывёлу ў Казлоўшчыну. Вядома, шкада скаціны. Ды што зробіш... Людзі спадзяваліся, што можа цяпер немцы іх больш не крануць. Забралі жывёлу, і ўсё. Але самае жахлівае іх чакала наперадзе.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ЦІ ПРАВАКАЦЫЯ?

Прайшла яшчэ адна пакутлівая ноч. Акупанты чамусьці затрымалі адпраўку жывёлы. Гаварылі, што недзе каля Казлоўшчыны партызаны разграмілі атрад карнікаў.

Вялікавольцы паціху сталі выходзіць на вуліцу, наведвацца да суседзяў. Гітлераўцы па-ранейшаму не звярталі на іх увагі. Знайшліся смельчакі: стары Васіль Ламака, Сымон Чудзілоўскі і іншыя, якія адважыліся пайсці да немцаў прасіць, каб тыя вярнулі ім кароў.

Жывёлу ахоўвала чалавек трыццаць салдат. Вялікавольцы падышлі да іх і жэстамі сталі паказваць, што ім трэба. Немец слухаў уважліва. Неяк жаласна глядзеў на змучаных людзей, і ў яго запалых ад сцюжы вачах быў відзён смутак.

Азірнуўшыся па баках, салдат раптам загаварыў, звяртаючыся да Васіля Ламакі:

— Слухай, бацька. Я ёсць інтэрнацыянал... камуніст... Разумееш? Вашу вёску будуць страляць... Уцякайце ў лес.— Азірнуўшыся, ён яшчэ раз паўтарыў: — Уцякайце, а то будзе позна!..

«Як разумець папярэджанне немца?» «А што, калі гэта правакацыя?» — гэтыя здагадкі не давалі спакою вялікавольцам. Пад вечар жывёлу пагналі ў Казлоўшчыну, а потым акупанты зусім пакінулі вёску.

Позна вечарам з суседняй вёскі Капцы прыбегла дзяўчына і сказала, што ў іх доме стаяць карнікі. Вечарам яны прынеслі шнапсу і сталі піць. Гаспадыня якраз збіралася пайсці ў Вялікую Волю. Яе ўжо на парозе затрымаў салдат, пачаў дапытвацца, куды яна сабралася ісці. Тая адказала.

— У Вялікую Волю? — перапытаў салдат.— Туды хадзіць нельга, яе будуць пуф-пуф... Страляць... Разумееш? — Дзіка зарагатаўшы, ён падаўся ў суседні пакой, адкуль несліся п'яныя крыкі.

Жанчына (прозвішча яе так і не ўдалося ўстанавіць) усё ж выправіла сваю дачку, каб папярэдзіць вялікавольцаў пра намеры карнікаў.

## ТРАГЕДЫЯ

Займалася пахмурная раніца 16 снежня 1942 года. З поўначы дзьмуў сцюдзёны вецер. Па небе цяжка сунуліся, напаўзаючы адна на другую, шэрыя хмары. Здавалася,

вось-вось пойдзе снег. Ад парывістага ветру непрыемна рыпелі аканіцы, неяк журботна шумелі кашлатыя сосны. Над царквой крычалі вароны. Яны ўзнімаліся ўгору, рабілі круг над вёскай і зноў усаджваліся на крыж.

У гэтую раніцу на вуліцы не было звычайнага ажыўлення. Не мычалі каровы, не рыпелі калодзежныя журавы, над комінамі не віўся сіні дымок. Мёртвая цішыня скавала Вялікую Волю.

Вяскоўцы сышліся ў хату Івана Павачкі. Папярэджанне немца, вестка з Капцей не выходзілі з галавы. Як быць, што рабіць? Адны прапанавалі заставацца ў вёсцы, чакаць, што будзе. Другія настойвалі — пакуль няма ў вёсцы немцаў, кідаць усё і ўцякаць у лес.

Апошнім было слова Васіля Ламакі, старэйшага і паважанага чалавека. Ён сядзеў ля прыпечка і смактаў тоўстую самакрутку. Можна было пагадзіцца і з тымі, і з тымі. І ўсё ж нейкае пачуццё падказвала яму: трэба ўцякаць, уцякаць у лес, нават калі гэта звязана з вялікай небяспекай. Тут патрэбна рызыка.

— Вось што,— падняўся ён з месца,— раздумваць і спрачацца тут няма чаго. Пакуль не позна, трэба падавацца ў лес. Перачакаем там некалькі дзён, а пасля будзем бачыць, што рабіць...

І калі ўжо ўсё было вырашана, калі ўсе згадзіліся на тым, што трэба ўцякаць у лес, і вяскоўцы сталі разыходзіцца, Марыя Ламака зірнула на Шчару і абамлела... Вёску акружылі гітлераўцы. Нібыта зграя галодных сабак, фашысты ўрываліся ў хаты і выкідвалі людзей на вуліцу. Жанчыны, наспех апрануўшы дзяцей, самі выходзілі на двор. Адсюль іх пад канвоем зганялі на плошчу да царквы. Карнікі не пакідалі ў доме ніводнай душы. Яны звалаклі з печы 109-гадовую Ганулю Чудзілоўскую. У старой не ставала сіл ісці самой. Карнікі прымусілі Ігната Ламаку і Пятра Шалеснага несці яе на руках. Канстанцін Пузач быў вельмі хворы, яму, можа, заставалася некалькі гадзін да смерці, але і яго не пакінулі ў спакоі, сцягнулі з ложка.



Марыя Чудзілоўская хацела непрыкметна пакінуць у калысцы сваё дзіцё. Гэта заўважылі салдаты, пачалі біць маці.

Змучаныя бяссоннымі начамі, пастаяннымі трывогамі і жахам, людзі ледзь трымаліся на нагах. Дзіўна, але чалавек ніколі не траціць надзеі на выратаванне. Нават цяпер, калі ў вялікавольцаў не заставалася ніякага сумнення, што іх сагналі на верную смерць, яны ў думках спадзяваліся на нейкі «цуд», што іх выратуе. У смерць яны не верылі і не хацелі верыць.

Толькі што прыгнаны на плошчу Ігнат Стырнік сказаў, што карнікі злавілі Андрэя Шалеснага, Аляксандра Рагіновіча, Вікенція Пузача, 15-гадовых хлопчыкаў Мацієўскага і Урбановіча, якія хаваліся ў хмызняку за Вялікай Воляй. Пасля цяжкіх катаванняў іх расстралялі.

Да дванаццаці гадзін дня, калі ўсе вялікавольцы былі сагнаны да царквы, карнікі занялі апусцелую хату Івана Павачкі, якая стаяла побач з царквой, запалілі печку і сталі грэцца. Вяскоўцам жа не дазвалялі ступіць і кроку ў бок. Таго, хто асмельваўся выйсці з натоўпу, карнікі прыкладамі зноў заганялі на месца.

Сярод вялікавольцаў выпадкова аказаліся дзве дзяўчыны з іншых вёсак — Ніна Трагневіч з Пяроніма і Алена Ступчык з Гуты. Папрасілі салдат адпусціць дзяўчат дадому. Але дзе там! Карнікі нават не зірнулі на іх. Яны не хацелі пакідаць сведак сваіх крывавых злачынстваў.

Людзі закалелі ад холаду. Дзеці паціху стагналі на руках бацькоў. Немцы ўвесь час пазіралі ў бок Крупіц. Нарэшце зараўлі недзе маторы. Умінаючы моцнымі скатамі пясок, у Вялікую Волю ўязджала дзевяць грузавікоў з карнікамі.

Грузавікі спыніліся каля хаты Павачкі. Нібы груганы, з іх пачалі саскокваць на гулкую, прамёрзлую зямлю карнікі. Тоўсты афіцэр у цёплым скураным паліто з вітымі срэбранымі пагонамі падаў гучную каманду. Карнікі рынуліся ў натоўп і, пускаючы ў ход прыклады, пачалі выстройваць людзей у адну доўгую калону.



## ЧАЛАВЕК НЕ ЗДАЕЦЦА

Сям'я Івана Павачкі крочыла ў хвасце гэтай незвычайнай працэсіі. Вецер памацнеў. Гнеўна шумелі сосны, размахваючы кашлатымі галінамі. У паветры лёталі сняжынкі.

Карнікі рабілі ўсё моўчкі. Нават каманды падавалі не словамі, а ўзмахамі рук. Грузавікі ехалі наперадзе калоны, за машынамі пад моцнай аховай сунуліся вялікавольцы.

Ля шашы калоне загадалі спыніцца. Карнікі замітусіліся. З грузавікоў пачалі саскокваць салдаты. Некалькі карнікаў, ускінуўшы на плечы ручныя кулямёты, цераз шашу накіраваліся да Шчары. Неўзабаве адзін з іх вярнуўся і падаў рукой знак.

Вялікавольцаў сталі дзяліць на дзве групы.

Адлічыўшы чалавек сто пяцьдзесят ад калоны, карнікі загадалі ім стаяць на месцы, а астатніх павялі далей. Як толькі калона схавалася за паваротам, групу вялікавольцаў павялі праз шашу ў густы параснік. Падвялі да гары, якую называлі Высокія Магліцы. Людзі жахнуліся. Прама перад гарой быў устаноўлен кулямёт, два другія — па баках. За кожным кулямётам прымасціліся па два салдаты.

Маці са слязьмі пачалі развітвацца назаўсёды са сваімі дзецьмі. Лямант жанчын разнёсся па Шчары.

З даўніх часоў ля Высокіх Магліц бралі пясок для рамонту дарог. Тут утварыўся вялікі роў, на адхонах якога параслі маладыя бярозкі, сосны. Людзей пачалі заганяць у гэты роў і класці ніцма адзін да аднаго...

Пакуль карнікі ўкладвалі людзей на халодны пясок Магліц, ад бацькоў адбіліся многія дзеці. Спахапіўшыся, маці сталі клікаць іх, уставалі з зямлі. Як жа паміраць, не зірнуўшы ў апошні раз на родны тварык, не пацалаваць пасінелыя вусны!.. Людзі сходзіліся бліжэй сусед да суседа. І мёртвымі вялікавольцы не жадалі разлучацца адзін з другім.

Іван Павачка апынуўся на самым краі рова. Пад левай рукой, бліжэй да сэрца, ён трымаў сямігадовага сына Міхаську. Справа ляжала тварам да зямлі яго жонка Сцепаніда. Да маці прытулілася дзяўчынка Ніна. Два дні назад ёй споўнілася тры годзікі. Вялікавольцы чакалі стрэлаў, жадалі, каб хутчэй скончыліся іх пакуты. Але каты наўмысна не спяшаліся.

Урэшце свінцовы град сekануў па людзях.

— Перш чым пачуць стрэлы,— успамінае Іван Восіпавіч Павачка, які цудам застаўся жывым,— я адчуў, што мне апякло пальцы на левай руцэ. Спачатку не ўцяміў, што такое. Потым чакаю новых стрэлаў, а іх няма і няма... Кругом цяжка стогнуць людзі. Раптам чую: «Ой, татку, мне ў галоўцы баліць...» Гэта мой паранены сынок. Толькі я паспеў сказаць: «Цярпі, сынку, скора перастане балець», як ударыла новая чарга. Тут я хацеў паварушыцца, каб зірнуць на сыночка, але здранцвелае цела не слухалася. Тады я паклікаў: «Міша, Міша! Ты жывы?» Хлопчык маўчаў. Левы бок пачало залівацць нечым цёплым. Гэта была Міхаськава кроў. Трэцяя чарга. Куля рванула паясніцу. У гарачцы я павярнуўся на бок... Павярнуўся, і цяпер шкадую аб гэтым. Лепш бы мне ляжаць нерухома, тады б я не бачыў пакут сваіх блізкіх. Павярнуўшыся, я ўбачыў, як б'ецца аб зямлю жонка. Побач з ёю, закінуўшы ўгору акрываўлены тварык, ляжыць дзяўчынка. Я быў памкнуўся да іх, але новы страшэнны боль у правай назе ўстрымаў мяне.

Нейкі час я яшчэ чуў стогны людзей, чуў асобныя стрэлы, якімі карнікі дабівалі тых, хто ўзнімаўся на ногі. Потым я нібыта праваліўся ў цёмную бездань. Больш нічога не чуў. Цяпер я здагадваюся, што першай чаргой з кулямёта білі па галовах людзей, другой — па грудзях, трэцяй — па спінах... І тут у гітлераўцаў была свая сістэма.

Стала дужа горача. Не хапала паветра. Адразу ніяк не магу



ўцяміць, дзе знаходжуся, што са мной сталася. Потым у галаве пачалі ўсплываць жудасныя малюнкі расправы. Не веру сабе, што жывы. Але што гэта ціснe на мяне зверху? Паварушыўся, паспрабаваў прыўзняцца. За каўнер пасыпалася зямля, у галаву шыбануў свежы струмень паветра. Дыхаць стала лягчэй. Яшчэ сабраў сілы, прыўзняўся мацней і расхінуў над сабою зямлю... Перадыхнуўшы, стаў выбірацца з магілы.

Была ноч. Прыслухаўся — нідзе нікога. Толькі недзе недалёка жудасна скуголілі сабакі.

Колькі часу мне давялося прабыць пад зямлёй — не памятаю. Калі выбраўся з ямы, то здзівіўся: ноч, а зямля — белая... Спачатку падумаў, што здалося. Не, зямля сапраўды была белая. Памацаў рукой — снег! Нясцерпна пякло ў грудзях. Тварам я ўткнуўся ў снег і пачаў яго есці: хацелася піць. Снегам сцёр з вачэй і твару кроў.

Яшчэ раз услухаўся. Страшэнная цішыня. Ступіў некалькі крокаў і паваліўся. Зашумела ў галаве, я страціў прытомнасць. Праз колькі часу зноў пачуў, што я жывы.

Пачынала світаць. Трэба было хутчэй уцякаць ад гэтага страшнага месца. Мне здавалася, што карнікі абавязкова ўбачаць мяне і даб'юць. Намагаючы апошнія сілы, пасунуўся па пульхным снезе наперад, у Казённы лес. Паўзу, а перад вачыма — акрываўлены тварык Ніны, у вушах слабенькі голас Міхаські: «Татку, баліць...»

Ранак застаў мяне далёка ў лесе. Ісці далей не было ўжо сіл. Я зарыўся ў снег і заціх...

Трое сутак прабыў Іван Восіпавіч у лесе — паранены, знясілены, халодны і галодны. Толькі на чацвёртыя суткі дабраўся да вёскі Капцы. Дачакаўшыся прыцемак, ледзь жывы ўвалокся ў хату Адама Куршука. Гаспадар не адразу прызнаў у акрываўленым, змардаваным чалавеку Івана. У доме Куршукоў яго абагрэлі, перавязалі раны, накармілі, уклалі ў пасцель. На другі дзень Адам па просьбе Павачкі пераправіў яго да Віктара Касача, які даводзіўся Івану Восіпавічу сваяком. Там прабыў шэсць дзён. Крыху ачуняўшы, падаўся ў вёску Заяварка да Фамы Халопіка. па суседству з Фамой жыў Аляксей Копаць, які некалі служыў у польскай арміі санітарам. Ён і лячыў Івана Восіпавіча аж пакуль не прыйшлі партызаны.

На гэтым пакуты Івана Павачкі не скончыліся. Яму давялося вынесці яшчэ нямала цяжкіх выпрабаванняў, бачыць нявінную людскую кроў.

## ЖЫВЫЯ ЗАЙЗДРОСЦЯЦЬ МЁРТВЫМ

Калі карнікі аддзялілі ад агульнай калоны 150 чалавек і павялі іх да Шчары, многія з надзеяй падумалі, што людзі адной з гэтых калон застануцца жыць. Яны не разумелі, навошта карнікам спатрэбілася раздвойваць калону. Аб лёсе 150 вялікавольцаў у той момант ведаў, напэўна, толькі здраднік Валеры Жылінскі.

У суправаджэнні тых жа дзевяці грузавікоў са зграяй карнікаў паўтараста вялікавольцаў прывялі ў Казённы лес. У той самы, куды яны збіраліся ўцякаць ад смерці. Хіба маглі вяскоўцы думаць, што

замест ратунку яны напаткаюць у лесе смерць... Нагледзеўшы падыходзячае месца — невялікі ўзгорак — фашысты затрымалі калону.

Аляксею Ламаку было тады дзесяць год, але ён добра памятае падрабязнасці забойства вялікавольцаў. Вось што расказвае ён, відавочца і ахвяра дзікай расправы гітлераўцаў над безабароннымі людзьмі:

— Спыніўшы калону, карнікі нейкі час чакалі, што ім загадаюць рабіць далей. З кабін грузавікоў павыходзілі афіцэры. Яны нядоўга аб нечым раіліся з немцам у скураным паліто, потым накіраваліся да натоўпу. Выгляд іх быў спакойны: ніколі не падумаеш, што яны рыхтуюцца да такой крывавай расправы. Некаторыя карнікі бралі з кішэняў цукеркі і раздавалі іх дзецям. Адна цукерка дасталася мне, я аддаў яе сваёй малодшай сястры Валі.

Салдаты пачалі адбіраць з калоны мужчын і жанчын і адводзіць убок. Дзяцей і старых пакінулі на месцы. Маці не хацелі выпускаць з рук дзяцей. Вылюдкі сілай вырывалі іх і кідалі на зямлю. Тут узняўся такі лямант, што яго, як затым расказвалі, чулі за чатыры кіламетры ў Малой Волі. Мяне і Валю таксама адагналі ад бацькоў. Я стаяў побач з Ганульяй Чудзілоўскай. Бабулька была вельмі слабая і не разумела, што адбываецца навокал. Нехта з вяскоўцаў яшчэ па дарозе падаў ёй сукаваты кій, з дапамогай якога яна і трымалася на нагах.

Мужчыны і жанчыны, якіх карнікі вывелі з калоны, з жахам чакалі, што будзе далей. А далей было нешта незразумелае. Вялікавольцам раптам загадалі стаць на калені і закрыць твары далонямі рук. Людзі чакалі стрэлаў, але карнікі не стралялі. Расступіўшыся, салдаты прапусцілі наперад чорную крытую машыну. Машына наблізілася да шарэнгі вялікавольцаў і спынілася. Салдаты ў чорным сталі здымаць з яе нейкую апаратуру і наводзіць яе на людзей. Нечакана запаліліся моцныя пражэктары і застракаталі апараты. Так яны паўтарылі некалькі разоў. Карнікі рашылі засведчыць сваю крывавую дзейнасць на кінаплёнцы. (Пазней у Слоніме, Казлоўшчыне, Дзятлаве і другіх гарнізонах акупанты паказвалі кіначасопіс, як «чырвоныя бандыты» здаюцца ў палон. За партызан яны выдавалі вялікавольцаў.)

Машына ад'ехала. Людзям загадалі падняцца. Потым зноў сагналі ўсіх разам і павялі ў лес. Адвёўшы метраў сто ад дарогі, калону спынілі. Салдаты разышліся па ўсім лесе. Амаль на кожным кроку стаялі вартавыя. Я трымаўся за бацьку, маці ўзяла на рукі сямігадовую Валю. Мы не ведалі, што з намі будуць рабіць. Стаялі і чакалі. Думалі, што карнікі пастрашылі, а к вечару возьмуць і адпусцяць людзей.

Да калоны наблізіліся восем салдат з вінтоўкамі. Моўчкі яны бралі з натоўпу па два мужчыны і вялі да ўзгорка, на якім раслі гонкія сосны. Цераз некалькі мінут там грымелі стрэлы, паветра раздзіраў страшэнны крык людзей.

Раптам павалій снег. Чорныя, нібы сажа, камякі кружыліся ў паветры і мякка клаліся на мёрзлую зямлю. Чорны снег! Так здалося людзям.

Зноў з'явіліся тыя ж салдаты, і зноў на шаснаццаць чалавек паменшала калона. Людзі зразумелі, што расправа пачалася. Натоўп заварушыўся, нібы патрывожаны мурашнік. Вялікавольцы гатовы былі накінуцца на забойцаў, біць іх, рваць на часткі. Карнікі адчулі намер людзей, узвялі на баявы ўзвод аўтаматы, насцярожыліся.

Адзін за другім гучалі залпы. Вылюдкі рашылі спачатку распра-







віцца з мужчынамі і падлеткамі, а жанчын і дзяцей пакуль што не чапалі. Плакалі дзеці, прарэзліва галасілі маці...

Браты Валяр'ян і Канстанцін Чудзілоўскія парашылі ўцякаць. Што будзе, тое і будзе, памерці дык у барацьбе за жыццё!.. Разам яны вырваліся з натоўпу аднавяскоўцаў і кінуліся ў розныя бакі. Загрымелі стрэлы. Канстанцін, прабегшы некалькі крокаў, упаў. Валяр'ян усё яшчэ бег. Пакуль што кулі міналі яго. Сцяўшы зубы, забыўшы пра ўласную бяду, людзі назіралі гэтае жахлівае відовішча. Вось ён спатыкнуўся, потым хуценька падняўся і зноў падаўся наперад. Прабег некалькі крокаў і спыніўся, ухапіўшыся рукамі за жывот. Пастаяў, затым намогся ступіць яшчэ некалькі крокаў і рухнуў на зямлю.

Услед за Валяр'янам Чудзілоўскім патупаў і яго чатырохгадовы хлопчык. Ён няўпэўнена перабіраў слабымі ножкамі, абутымі ў рваныя чаравічкі. Маці ўжо не магла яго стрымаць. Яна білася ў страшэнных сутаргах на руках вяскоўцаў. Фашысты зарагаталі. Нейкі час яны забаўляліся, узіраючыся на хлопчыка, які дзе паўзком, дзе на нагах ледзьве прабіраўся па следу бацькі... Калі хлопчык з такой настойлівасцю пераадолеў можа дваццаць метраў, адзін з гітлераўцаў узняў пісталет і прыцэліўся. Людзі войкнулі. Раздаўся сухі стрэл. Хлопчык моўчкі ткнуўся тварыкам у снег. Больш ён не падняўся. Пераадольваючы страх, вялікавольцы былі памкнуліся да хлопчыка, але чарга з аўтамата спыніла іх на месцы.

— Мяне і тату,— расказвае далей Аляксей,— павялі з шостай партыяй. Тата хацеў развітацца з Валяй, узяў яе на рукі, каб пацалаваць, але салдаты выхапілі дзяўчынку з рук. Валя заплакала. Я ўчапіўся мацней за бацьку. Маці памкнулася да мяне, напэўна, развітацца, але карнікі ўдарамі загналі яе ў натоўп. Больш я яе не бачыў...

На месцы, куды нас прывялі, мы ўбачылі забітых вяскоўцаў. Бліжэй да нас ляжалі ў крыві Восіп Чудзілоўскі, Рыгор Альховік, Ігнат, Уладзімір і Міхаіл Ламакі. Уладзімір яшчэ варушыўся. Снег па-ранейшаму буйнымі камякамі клаўся на забітых і адразу чырванеў. Нам загадалі класціся ў адзін рад з мёртвымі, тварам уніз...

Стрэлы мне здаліся дужа моцнымі, нібы выбухі. Запахла гарэлым порахам. Я адчуў, як здрыгануўся тата. Нешта цёплае, непрыемнае палілося мне за каўнер, на твар. Пачуліся стогны, крыкі. Людзі паміралі не адразу. Пасля залпу з вінтовак карнікі з пісталетамі ў руках абыходзілі рады і аглядалі забітых. Таго, хто мог яшчэ выжыць, яны дабівалі з пісталетаў, а астатніх пакідалі на цяжкія пакуты. Я чуў, як Іван Альховік прасіў салдат прыстрэліць яго, але каты прайшлі міма.

Забойцы наблізіліся да нас. Я прыціх. Салдат нагой ткнуў у галаву. Увесь твар мой быў заліты крывёю. Побач ляжаў забіты мой аднагодак Ваня Чудзілоўскі, яго кроў і сцякала на мяне. Кат палічыў мяне мёртвым і адышоў.

У таты былі прастрэлены грудзі. Ён намогся ўстаць на ногі, ды не змог. Тады ён закрычаў, колькі было сілы, каб яго дабілі, пазбавілі пакут.

Жывыя зайздросцілі мёртвым...

Скончыўшы абход трупаў, карнікі накіраваліся па новыя ахвяры. Я паварушыўся.

— Ты жывы, сынок? — пачуўся слабы татаў голас.

— Жывы, толькі страшна,— адказваю я.

— Сынок,— знясілена загаварыў тата.— Я паміраю... Ты ляжы спакойна, не варушыся. Можа не прыкмецяць... Як сцямнее, выбірайся адсюль, ідзі ў лес, жывві... У мяне ў кішэні сцізорык і запальнічка... вазьмі, ты любіў з імі гуляць... Перадай...

Што каму перадаць, ён так і не дагаварыў, перашкодзіла смерць. Я яшчэ доўга чуў стрэлы, перадсмяротныя крыкі людзей, а потым ці страціў прытомнасць, ці заснуў — не памятаю.

Абудзіў мяне ад забыцця моцны крык. Гэта крычаў стары Васіль Ламака. «Хто жывы — уставайце!» Я выбраўся з-пад трупаў і пацягнуўся да старога. Васіль быў паранены ў галаву, на твары і на барадзе застыла кроў. Пачынала цямнець. На белым снезе чарнелі плямы крыві.

Васіль не пераставаў клікаць вяскоўцаў. Хутка да нас далучыліся Аляксей і Сымон Чудзілоўскія, прыпаўзлі Уладзімір Ламака і сямігадовы Родзік Ламака. З магілы выбраліся Марыя Ламака і маленькая Люба Чудзілоўская. Усяго нас сабралася тады восем чалавек. Пазней мы даведаліся, што з кіпцюроў смерці ўдалося вырвацца трынаццаці вялікавольцам.

Забойцы не сталі самі закопваць у зямлю свае ахвяры. Карнікі вярнуліся ў апусцелую цяпер вёску на адпачынак. Наперадзе ў іх былі новыя крывавыя справы.

На другі дзень карнікі з'явіліся ў Малой Волі. Салдаты ўрываліся ў хаты і выкідалі людзей на вуліцу. Дарослым загадвалі браць з сабой рыдлёўкі. Малавольцы яшчэ не ведалі ўсёй трагедыі сваіх суседзяў, але яны прадчувалі, што карнікі зрабілі нешта нядобрае з жыхарамі Вялікай Волі. Стрэлы і жудасныя крыкі людзей яны ўчора чулі не выпадкова. У кожнага была думка, што наступіла іх чарга. Устрывожаныя малавольцы з перапалоханымі дзецьмі на руках ішлі па заснежанай вуліцы. Прыкладамі ў спіну іх падганялі салдаты.

Не паспелі салдаты сагнаць людзей у адно месца, як у Малую Волю з грукатам увайшлі тыя ж дзевяць грузавікоў з карнікамі. І калі вось-вось павінна была прагучаць каманда, да немца ў скураным паліто наблізіўся Валеры Жылінскі. Ускінуўшы два пальцы да галавы, ён нешта доўга тлумачыў свайму гаспадару. Той усё не згаджаўся, потым махнуў рукой. Задаволены здраднік раптам на ўвесь голас, каб чулі малавольцы, стаў «угаворваць» начальніка карнага атрада не чыніць вяскоўцам нічога дрэннага, адпусціць іх да сваіх хат. Ён чамусьці запэўніваў фашыста, што малавольцы ненавідзяць партызан, што тыя ніколі тут не бывалі і г. д. Ад Жылінскага людзі чакалі ўсяго, толькі не гэтага. «Міласэрнасць» здрадніка была ім незразумелая. Нягоднік глядзеў далёка наперад. Ён усяляк хаваў свае злачынствы, не хацеў быць адкрытым ворагам людзей.

Па камандзе немца ў скураным паліто карнікі сталі разганяць вяскоўцаў налева і направа. У адзін бок — старых і малых, у другі — дарослых. Старых з дзецьмі адпусцілі, а дарослых з рыдлёўкамі пад канвоем пагналі ў кірунку Вялікай Волі.

Малавольцаў прывялі ў Казённы лес на тое месца, дзе была ўчынена расправа з іх суседзямі. У людзей памутнела ў вачах ад таго, што давялося ўбачыць. Некалькі жанчын самлела. Усюды, як зглядзець вокам, ляжалі забітыя. Людзі ўсё яшчэ не верылі, думалі, што гэта які-небудзь прывід.

Не даўшы апамятацца, карнікі аддзялілі мужчын ад жанчын. Мужчынам загадалі капаць вялікую яму. У каго не было рыдлёвак, тых салдаты прымусілі зносіць трупы да ямы. Жанчынам жа гітлераўцы далі «лягчэйшую працу» — закідваць зямлёй варонкі з трупамі.

Калі жанчыны наблізіліся да першай варонкі, яны жахнуліся: між акрываўленых трупаў варушыўся год чатырох-пяці хлопчык. Згледзеўшы людзей, ён неяк хуценька прапоўз па трупах, устаў на ножкі і, блытаючыся ў доўгі, не па росту, кажушок, патупаў да жанчын. Ён хацеў есці... Здавалася дзівам, як ён перажыў доўгую зімовую ноч... З вачэй жанчын паліліся слёзы. Схамянуўшыся, яны навыперадкі кінуліся да хлопчыка, каб прытуліць яго, абагрэць, суцешыць...

— Гэта ж Бронік! — ускрыкнула ад нечаканасці адна з жанчын, пазнаўшы хлопчыка.— Бронік Шківанць, Ядвісін сынок...— Яна працягнула рукі, каб узяць хлопчыка.

— Вэк! — грымнуў побач дзікі выкрык. Да Броніка накіроўваўся даўгалыгі карнік, правай рукой ён пацягнуўся да кабуры.

— Застрэліць! — спалохаліся жанчыны. Не дамаўляючыся, яны ўсе разам кінуліся да карніка:

— Паночак, даражэнькі, дазвольце нам узяць хлопчыка да сябе. Ён жа маленькі, нічога не разумее... Дазвольце!

Не звяртаючы ўвагі на жанчын, якія са слязьмі валяліся ля яго ног, кат узнімаў парабелум...

Бронік стаяў на месцы і пазіраў шырока раскрытымі вочкамі то на карніка, то на жанчын. Хлопчык не плакаў.

Суха грымнуў стрэл. Хлопчык, нібы лялька, кульнуўся ў снег... Ён трапятнуўся некалькі разоў, выцягнуўся на халодным снезе і заціх...

Як толькі прагучаў стрэл, які абарваў жыццё чатырохгадовага Броніка Шківанца, непадалёку пачуўся слабы плач дзяўчынкі. Некалькі жанчын паспяшаліся на голас. Але каты апярэдзілі іх.

Гітлераўскія каты баяліся пакінуць жывымі нават дзяцей, баяліся, што яны вырастуць і раскажуць свету пра іх крывавыя злачынствы. Але праўду не заб'еш! Людзі паўставалі з магіл, перамаглі самую смерць, каб расказаць свету трагедыю сваіх аднавяскоўцаў.

Пасля цяжкіх баёў акупанты вымушаны былі зняць блакаду Ліпічанскай пушчы. Войскам трэба было адпраўляцца на фронт, а яны ваявалі з партызанамі ў сваім тыле. Гітлераўцы спешна пакінулі партызанскі раён і хуткім маршам рушылі на ўсход. Партызаны Булака зноў вярнуліся ў Вялікую Волю.

Ніхто з вялікавольцаў не выйшаў насустрач народным мсціўцам. Мёртвая цішыня вісела над апусцелай вёскай. Жудасна скуголілі галодныя сабакі. Убачыўшы чалавека, кідаліся ўбок здзічэлыя кошкі. Акупанты нібы знарок не кранулі будынкі ў Вялікай Волі. Здавалася, што вось-вось адчыняцца дзверы і ўзрадаваныя людзі выйдуць насустрач партызанам, запросяць іх у дамы... Але людзей не было. Сумны выгляд асірацелых дамоў горкім дакорам паліў сэрцы народных мсціўцаў. На месцы забойства вялікавольцаў яны пакляліся адпомсціць ворагу за іх кроў.

Рэдка праходзіў такі дзень, каб на дарогах Слонім — Дзятлава, Казлоўшчына — Дзятлава, Слонім — Зельва і другіх не ўзляталі ў паветра нямецкія машыны з боепрыпасамі і жывой сілай. Народныя мсціўцы падрывалі масты, псавалі сувязь, знішчалі ваенныя склады. З надыходам вясны 1943 года партызанская вайна дасягнула нябачаных дасюль памераў. У змаганні з ворагам раслі і мужнелі рады народных мсціўцаў. Імя Булака па-ранейшаму наводзіла жах на акупантаў і іх наймітаў.

Улетку акупанты ў другі раз павялі наступленне на партызан. Яны зноў уварваліся ў Вялікую Волю. Але больш не знайшлі тут сабе ахвяр. Забіваць не было каго, і вылюдкі падпалілі вёску. На шчасце, пайшоў дождж. Палавіна вёскі ўцалела ад агню. Вялікая Воля засталася жыць.



Праз многа год новаму пакаленню вялікавольцаў стала вядома, імя іх ката. Адольф Хойзінгер! Былы гітлеравец, цяпер генерал НАТО. Гэта па яго загаду знішчаліся безабаронныя людзі, змяталіся з твару зямлі беларускія вёскі, адной з якіх была і Вялікая Воля. Злачынца павінен быць пакараны! Вялікавольцы далучаюць свой гнеўны голас да голасу мільёнаў. Яны маюць на гэта права.

## ПОМНІК НАД ШЧАРАЙ

Адмяцеліла крывавая завіруха. У цяжкім змаганні савецкі народ здабыў перамогу над гітлераўскай Германіяй, знішчыў ненавісны фашызм. Шмат гадоў мінула з тае пары, калі прагрымелі апошнія залпы. Зараўнаваліся траншэі і бліндажы, верасамі і багульнікам зараслі партызанскія зямлянкі, забудаваліся папялішчы, на месцы былых баёў квітнеюць маладыя сады.

Былы партызанскі камбрыг Павел Іванавіч Булак жыве ў вёсцы Дзярэшчына Зельвенскага раёна, загадвае млынам. Адразу неяк не верыцца — баявы камбрыг і, раптам, загадчык млына. Але гэта так. Стаць камбрыгам Паўла Іванавіча прымусіла вайна. У мірныя ж дні ён звычайны, савецкі чалавек. І толькі тады, калі Павел Іванавіч апране святочны касцюм, на лацкане якогаззяюць два ордэны Леніна, ордэн Айчыннай вайны і пяць медаляў, можна меркаваць пра яго баявыя справы.

Васіль Іванавіч Пішчулін і цяпер не пакідае сваёй любімай прафесіі механіка. Ён загадвае майстэрняй дзятлаўскага аб'яднання «Сельгастэхніка». Замест танкаў і браневікоў рамантуе трактары, камбайны, сеялкі. Камуніст Васіль Пішчулін з'яўляецца рацыяналізатарам, перадавіком вытворчасці.

У родным калгасе імя Кірава працуюць «уваскрэсшыя з мёртвых». З трынаццаці іх дажыло да нашых дзён трое. Іван Восіпавіч Павачка ўжо стары чалавек, але не сядзіць без работы. Адным з лепшых працаўнікоў арцелі лічыцца Аляксей Віктаравіч Ламака. Калі яго расстрэльвалі, яму было дзесяць гадоў, а цяпер — трыццаць два. У яго гадуецца дачка.

У цэнтры вёскі над самай Шчарай узвышаецца помнік ахвярам вялікавольскай трагедыі. Трохметравая фігура маці з сынамсувораўцам схілілі свае галовы ў глыбокім смутку. У ціхае надвор'е да помніка даносіцца плёскат хваляў Шчары, пошум бяроз, шматгалосы спеў птушак...



Калі табе, дарагі чытач, натрапіцца быць у Ліпічанскай пушчы, абавязкова наведайся ў Вялікую Волю, пакланіся помніку. Памятай, што тут пахаваны людзі, якія змагаліся за наша сённяшняе шчасце, за шчасце ўсіх людзей на зямлі.

НА АРБІТУ КАМУНІЗМА

Тацяна АРЛОВА

# КАМСАМОЛЬСКІ ХАРАКТАР

**Нарыс**

Гэта расказ пра аднаго чалавека. І не пра аднаго толькі. Гэта расказ пра калектыў. І пра кожнага з яго членаў. Гэта расказ аб зямлі, аб хлебе, аб машынах. Пра дабрату і непрымірымасць. Пра мінулую зіму і вясновую шчодрасць. Пра мужчынскую дружбу. Пра вернасць ідэалам юнацтва і аб прынцыповасці камуніста.

І яшчэ крыху пра каханне.

Хочацца расказаць пра тую велізарную справу, якая даверана старшыні калгаса. І пра тое, што... зусім не ўваходзіць у яго абавязкі. А галоўнае, расказаць пра людзей, якія сталі вачамі, рукамі, розумам і сэрцам калгаснага старшыні, таму што даверылі яму свой лёс.



## ЗА ПЛЯЧЫМА — КАМСАМОЛ

**«25 кастрычніка 1959 г.**
Ведаеш, Толя, ад дзяўчыны ніколі так не чакаў пісьма, як ад

Перад Анатолем Падалянкам шырокія далягляды.
Фота С. Чырэшкіна.

цябе! Атрымаю вестку — і настрой узнімаецца. Галоўнае тое, што ва ўсіх пытаннях я з табою згодзен. Дзяўчаты з райкома кажуць, што ў мяне «падалякаўскі» характар. Пісьмы твае мяне выхоўваюць, і, чытаючы іх, я думаю, як мне яшчэ далёка да цябе. А я ж хачу заўсёды і ва ўсім быць такім, як ты. Таму вось твае пісьмы і прымушаюць мяне брацца за вучобу. Праўда, часу няма. Хацеў да пачатку года падрыхтавацца на завочнае. Але не ведаю, ці атрымаецца што з гэтага. Ты павер мне, Толя, я дома бываю тады, калі сплю, а сплю па пяць-шэсць гадзін. Паглядзіш на непаладкі ў калгасе, б'ешся, б'ешся... А што карысці, калі адны ў калгас цягнуць, а другія заадно са старшынёю — з калгаса. Мабыць, я ўжо моцна перагнуў — ёсць і чэсныя. Вось прыйшла ў кабінет моладзь... Чытаў ім тваё пісьмо, і ўсе вельмі ўважліва слухалі.



Заатэхнік Міхаіл Дзятлаў і аграном Пятро Шашэнка працуюць згодна. Першы — сакратар партарганізацыі калгаса, а другі — намеснік старшыні праўлення. Адзін клопат у іх, адна трывога, адны радасці.

...Быў таварыш з абкома. Правяраў камсамольскую гаспадарку. Зараз мы яе давялі да ладу. Як ты раіў, мы завялі кнігу слаўных спраў калгаснай камсамоліі. Дабавіліся да камсамольскай гаспадаркі яшчэ тры граматы.

Рыхтуюся да паступлення ў партыю».

**«12 лістапада 1959 г.**
Добры дзень, Анатоль! Толькі што вярнуўся з экскурсіі ў Бранскую вобласць. Былі там тры дні. Убачыў жыццё расіян. Дзень другога лістапада быў для мяне самы шчаслівы ў жыцці: мяне прынялі кандыдатам у члены партыі. Назаўсёды запомню гэтую дату. Вельмі шмат гаварылі пра мяне. Ведаеш, Анатоль, радасна жыць, калі адчуваеш, што цябе паважаюць. Тады хочацца зрабіць больш.

Адзінаццатага было пасяджэнне бюро райкома. Замацавалі за членамі бюро брыгадныя камсамольскія арганізацыі. Мне дасталіся тры. Не ведаю, ці спраўлюся. Калі працаваць па-сапраўднаму, то не выцягну. Шамаль, праўда, запэўняў, што спраўлюся. Кажа, работа будзе заключацца ў тым, каб часцей званіць. Але я ад такой «работы» адмаўляюся, таму будзе цяжка».

* * *

**З пратакола № 2 агульнага сходу членаў калгаса імя Куйбышава ад 1 красавіка 1963 года.**

**Выступае Пінчук Я. Ф.:** Што ты хочаш ад Падаляка? Ён нам святло ў вёску правёў? Што ж табе тона бульбы ўпоперак горла стала? Яна ж у абмен на слупы пайшла. Калі толькі Падаляка за гэта будуць папракаць, мы ўсёй вёскай збярэм гэтую тону бульбы.

**Выступае Печань В. Г.:** Старшыня для ўсіх нас стараецца. Ты нагу зламаў і чатыры месяцы ляжаў дома, а Падаляк у такім становішчы праз два тыдні працаваў ужо. З мыліцамі па полі ганяў.

Яшчэ вясною ён абяцаў нам святло, і мы ўсе бачылі, як цяжка было гэта зрабіць, аднак ён слова сваё стрымаў».

**З тэлефоннай размовы Анатоля Падаляка са сваім сябрам Міхаілам Дзятлавым, якую падслухаў карэспандэнт напярэдадні справаздачнага сходу ў калгасе 17 лютага 1964 года.**

«Міша! Сёння ездзіў у Ляшчанку, там на свінаферме надзвычайнае здарэнне — трох свіней не далічыліся. Пачаў я там разбірацца. Міша, а ты за Паповым нічога такога не заўважаў? Нешта ён занадта ўпэўнена адпіраецца. І Мардушкоў і Шаменка не пацвярджаюць. Адзін парсюк прапаў, другога ў накладную не ўпісалі. А трэці? Чорт яго ведае, дзе трэці. Міша, а што гэта за хвароба, якою свіней заражаюць грызуны?

Ты прадумай кандыдатуру на старшыню рэвізійнай камісіі. Не. Гэты гультаяваты. Той не пагодзіцца. Думай яшчэ... А што, калі нашага камсамольскага сакратара Ніну Бокач у рэўкамісію ўвесці? Падтрымліваеш? Ага, вось яшчэ... Нейкае ў мяне нядобрае прадчуванне перад грашовай аплатай. Не дадзім мы маху з гаспадарчым разлікам? Табе тут пісьмо са Жлобіна. З трыма маркамі. Почырк мужчынскі. Можа грошы трэба? Ну, калі ў нас з табой наступнае спатканне?»

* * *

Ёсць штосьці на дзіва прываблівае, крыштальна чыстае ў чалавеку, якому, не баючыся высокіх слоў, можна расказаць пра кожны свой крок, даверыць кожную думку.

Дружба, у якой усё так шчыра і пароўну, напэўна, і ёсць самая сапраўдная. У пісьмах сваіх, якія вы ўжо чыталі ў пачатку гэтага нарыса, Міхаіл Дзятлаў звяртаецца да Анатоля Падаляка, як да самага блізкага чалавека. А гадоў ім абодвум зусім мала. Толькі-толькі пераваліла за дваццаць. Калі Анатоль вырашыў паехаць у адстаючы калгас, першым у таварышы па цяжкай справе ён выбраў Міхаіла. І не памыліўся. Неўзабаве ўжо цяжка было сказаць, хто з іх старэйшы па гадах і па званню. Дзятлаў стаў у калгасе заатэхнікам. Яго выбралі сакратаром партыйнай арганізацыі. За плячыма ў хлопцаў добрая школа — камсамол. Таму і свой калгас імя Куйбышава яны лічаць камсамольскім.

## ЛЮБІЦЬ СТАРШЫНЯ ТЭХНІКУ

Анатоль Падаляк нездарма ганарыцца сваім інжынерным факультэтам сельгасакадэміі. Шмат чаму ён там навучыўся. Усё спатрэбілася на практыцы.

Добра ўрадзіў сёлета лён.



Угнаенне — хлеб палёў. Хлеба гэтага трэба многа. Паглядзеў Падаляк, як куйбышаўцы вазілі торф. Асноўная механізацыя — рыдлёўка. Натужыўся — і падняў, натужыўся — і на воз.

Спачатку поўнасцю механізавалі вывазку торфу, пасля ўборку бульбы, для сенакосу зрабілі «валакушы», а пасля паціху ўзяліся і за фермы. У планах гэтага года запісана механізаваць апрацоўку ільну і цукровых буракоў. А сродкі адкуль? Эканомія і вынаходлівасць. Сваімі сіламі ў калгасе вядуць будаўніцтва, сваімі сіламі рамантуюць тэхніку, сваімі сіламі ўкараняюць усялякія вынаходніцтвы. Любіць старшыня тэхніку. Перадаецца гатая любоў і калгаснікам. Яны ахвотна авалодваюць механізатарскімі прафесіямі і сілы свае спрабуюць на справе.



Валя і Тамара Петранковы, Валя Лук'янава, Аня Петранкова, Галя Хітракова, Рая Мардушкова любяць даглядаць лён.

## ЦІ МНОГА ЧАЛАВЕКУ ТРЭБА?

З калгаса ўцякала дзяўчына. Спачатку яна не выйшла паіць сваіх кароў. Пасля нейкі дзядзька пусціў чутку, што бачыў яе расфуфыраную ў Кіраўску. Кажа, ішла па вуліцы, сумачкай памахвала, сказала, што ферма ўелася ёй у косці, назад не вернецца, у горадзе чыстую работу знайшла.

А Тамара нікуды пакуль што не паехала. Яна прыкідвала: з калгаса пайсці не па-добраму — нязручна. Але і маладосць сваю пражыць у Ляшчанцы не хацелася. Моладзі мала. Адпачыць няма дзе. Заработкі слабыя. Праца цяжкая. Спецыяльнасць? Хібы можна назваць спецыяльнасцю тое, да чаго кожная вясковая дзяўчынка з дзяцінства прывучана.

Напэўна так думалі і Рая, і Галіна, і Ніна, і Таня, і дзесятак іншых калгасных дзяўчат, калі па-свойму паспачувалі Тамары Петранковай. Праца ў горадзе здавалася ім надзвычай лёгкай. Глядзіш, з зарплаты сукенку лішнюю пашыеш, чаравікі на шпільках купіш і вечарам па асфальце цок-цок-цок...

І ўсё-такі яны нікуды не ехалі. Яны бачылі тое, чаго не бачыла Тамара. Умела паілі кароў, прывычна ўставалі ў тры гадзіны ночы, а ўлетку адпрацоўвалі камсамольскія гадзіны на будаўніцтве клуба. Тут, у Ляшчанцы, было сваё, хоць і цяжкое шчасце. Непрыкметна здзяйснялася тое, што вабіла ў горад. Электрычнасць правялі, паявіўся тэлевізар, будаваўся клуб, механізмы выцяснялі ручную працу, заставаліся ў вёсцы хлопцы, якія адслужылі армію, а да лета абяцаў старшыня прывезці з магілёўскага музычнага вучылішча музыканта.

Ужо ніхто не мог транжырыць калгаснае дабро. Радавая камсамолка магла ўчыніць строгую рэвізію самому загадчыку фермы. А пасля з ім была сур'ёзная размова на праўленні. Людзі адчулі сябе гаспадарамі. Гэта даражэй за сукенку з паркалю.



Маладыя льнаводкі Валя Багданава, Маша Гаршкова і Дуся Шашэнка прыслухоўваюцца да парад старэйшых калгаснікаў Рамана Багданавіча Шашэнкава і Захара Карпавіча Сямёнава. За плячыма дзеда Захара восемдзесят тры гады жыцця.

Вясною над Ляшчанкаю надрываліся галкі. Неба над вёскаю ўяўлялася ім бяскрайнім светам, поўным дабра і невядомасці. Дзяўчаты ў гэтую пару пазіралі на неба, на птушак. Як хораша дома!

Тамара Петранкова ўсё-такі з фермы пайшла. Дзяўчаты не закідалі яе каменнем, не часалі дарэмна языкі. Яны, нібы ў страі, калі выбывае воін, шчыльней самкнулі рады.

## РАЗМОВА З ЦЁТКАЙ ВОЛЬКАЙ

Вы памятаеце, цётка Волька, нашу размову ў чырвоным кутку фермы? Мы спыталіся ў вас, чаму дазволілі пайсці Тамары. Чаму вы, маці, не ўтрымалі сваіх сыноў у калгасе?

— Так і трэба. Мы, старыя, за свой век напакутаваліся. Няхай дзеці будуць шчаслівыя...

Вы памятаеце свае словы, цётка Волька? Вас тады шумна падтрымліваў Мікалай Апенька. У той вечар па ферме хадзіў старшыня. Падаляк выкрыў прапажу і дакопваўся да вінаватых. Хто-колечы ў тую часіну адчуваў сябе неспакойна. Вось і храбрыўся Апенька:

— Няхай гарадскія ў вёсцы папрацуюць. А мы ў горад пойдзем. Горад вялікі — усім работа знойдзецца. Няхай бы нам зарплату, як старшыні, плацілі. Дзяржава ў нас багатая — адкуль-небудзь грошы дастане.

Чаму вы тады, цётка Волька, не прыпомнілі гэтаму малайцу, што дзяржава — гэта і вы, і ён, і вашы дзеці? Чаму вы не прыпомнілі, што сам Апенька імкнецца ўвільнуць ад работы, перакласці ўсё на плечы свінарак, а атрымліваць хоча больш за іх? Вам хацелася, цётка Волька, перад чужымі людзьмі апраўдаць сваіх, ляшчанскіх, і вы абаранялі Тамару, забыўшыся на справядлівасць. Так, Петранковым жывецца цяжка. Хворы бацька не памочнік. Ведаюць пра гэта ў калгасе. Сена на зіму карове далі. Калі ў Петранковых вымакла бульба, з калгаснага фонду ім трыццаць сотак выдзелілі. З калгаснага, значыць, з агульнага, з вашага таксама. Лічыце, што і вы памаглі Петранковым у цяжкую часіну, а вам асабіста, цётка Волька, адплаціла Тамара чорнай няўдзячнасцю. Вы, цётка Волька, з даяркамі падзялілі Тамарыных кароў. Бо замяніць жа яе на ферме не было кім.



Пасля школы — у родны калгас. Так парашыла Валя Собалева.

А цяпер пра шчасце. Пасылаеце вы сыноў і дачок па шчасце ў горад. Людзі з дужымі, працавітымі рукамі чапляюцца ў горадзе за выпадковую, нецікавую работу. А ў гэты час вы, цётка Волька, удава, і вашы таварышкі-ўдовы выконваеце цяжкую працу на фермах і ў полі, рана старэеце і ўсё ж не можаце сваімі жаночымі рукамі падняць тую гаспадарку, на якой абавязаны дзеля вас працаваць вашы дзеці.

Калі ў час вайны вы аралі, сеялі, касілі і даілі — вы ведалі, што замяняеце мужа і сына, якія абараняюць Радзіму. Цяпер вы беруцёся за тую ж работу і замяняеце дачку вашай суседкі, якая працуе ў горадзе манікюршай, і сына, які загадвае складам.

«Мы старыя, за свой век напрацаваліся». Было цяжка, таму што ішла вайна. Засталася Ляшчанка ўдовіным сялом. Раскрадваў калгаснае дабро адзін старшыня, разбазарваў — другі, трэці не ўмеў гаспадарыць — глебы бедныя, да іх асаблівы падыход патрэбен. Два гады назад рэкамендаваў райком новага, маладога старшыню Анатоля Падаляка. Дык падайце ж, цётка Волька, на дружбу маладому гаспадару сваю моцную, цяжкую і надзейную руку.

## ПАЧУЦЦЁ ГАСПАДАРА

Некалькі гадоў назад Падаляку — сакратару райкома камсамола — усё гэта ўяўлялася інакш.

Зімою з акна свайго кабінета ён бачыў карціну, напісаную мясцовым мастаком. Наперадзе радаснага натоўпу стаяла жанчына ў лёгкай блакітнай сукенцы. У яе аголеных руках палалі яркія кветкі. За спіною — зубцы крамлёўскай сцяны. Плакат, напісаны масляныммі фарбамі, стаяў насупраць будынка райкома ўлетку, восенню і зімою.

Жанчына ўсміхалася. Фарбы не змываліся дажджом, іх не выпальвала сонца. І толькі гэтай зімою, прыехаўшы па справах у вытворчае ўпраўленне, Падаляк, як і калісьці, зірнуў праз акно на плакат і здзівіўся: многае змянілася ў ім за гэтыя два з лішнім гады. Жанчына па грудзі стаяла ў сумёце. Яе голыя рукі былі пакрыты інеем. На валасах, нібы першая сівізна, ляжаў снег. Анатолю стала не па сабе ад бесклапотнай усмешкі жанчыны. Наіўны твор мясцовага мастака выклікаў раздражненне.

Ён ішоў на сённяшнюю сваю работу, якая стала для яго шчасцем, сэнсам жыцця, як, напэўна, ідуць у атаку. Яго магла дагнаць шалёная куля. Але яна была не страшна. Мозг свідравала адзіная думка — толькі наперад! Ім авалодала і дагэтуль ні на секунду не пакідала жаданне сваімі рукамі падняць слабую гаспадарку, укласці частку сваёй крыві ў справу, неабходную партыі, у радах якой ён знаходзіцца.

Яму было ўсяго дваццаць тры гады. У першыя ж месяцы ўвесь яго немалы чалавечы і камсамольскі вопыт аказаўся маленькай крупінкай побач з цяжкасцямі, якія ўзнікалі на кожным кроку. Давялося быць жорсткім, патрабавальным, дыпламатычным, добрым, кемлівым. Спачатку здавалася: патрэбны калгасу дэталі, лес — выпішы і вазьмі. Цяпер ён зразумеў: умела дастаць, разумна спланаваць — талент. Давялося вучыцца быць гаспадаром.



Скончыў школу і застаўся ў калгасе будаўніком Вася Якаўлеў.

Застаючыся з сябрамі ранейшым «завадным» і чулым Толем, ён зрабіўся строгім, справядлівым, пільным, непахісна прынцыповым старшынёю — Анатолем Навумавічам. Перанёсшы ўсе лепшыя камсамольскія звычкі ў работу, ён, разам з тым, ужо не лічыў, як раней, камсамольскі задор — адзінай рухаючай сілай у справе. Ім не ўдалося стварыць маладзёжны калгас. Ранейшая камсамольская арганізацыя распалася. Хлопцы ішлі ў армію, ехалі вучыцца, жаніліся і таксама выбывалі са строю.

Чаму маладыя людзі ідуць не ў калгас, а з калгаса? Нізкая аплата працы? Нудна? Гэтыя праблемы трэба вырашаць у першую чаргу. Вырас калгасны працадзень, праведзена ва ўсе вёскі электрычнасць, будуецца клуб. Салдатам, якія адслужылі армію, праўленне вырашыла выдаваць грашовую дапамогу, памагаць набыць прафесію. Ляглі першыя рублі камсамольскіх нядзельнікаў на набыццё тэлевізара для клуба. І ўсё ж такі становішча ранейшае.

Таму і ўзнікла цікавейшая праграма-максімум: 1. Выхаваць у моладзі пачуццё гаспадара. Чаму гэта маладых не прымаюць у калгас ва ўрачыстай абстаноўцы, а перадаюць гэтае званне ў спадчыну? 2. Трэба даць маладым механізатарскія прафесіі. 3. Запрасіць іх кіраваць справамі, каб адчувалі адказнасць за лёс гаспадаркі.

Без валакіты — усе пункты праграмы ў жыццё. Вядома, не адразу Масква будавалася. Спатрэбяцца гады і калгасу імя Куйбышава. Падаляк робіць няхітры падлік. Два гады назад у штогадовых зводках здачы прадуктаў дзяржаве куйбышаўцы трывала займалі апошняе месца. Сёлета падняліся на восем месцаў вышэй. Налета перадолеем сярэдзіну. Праз тры гады выйдзем у першую тройку. У гэтым упэўнены старшыня. І па старой звычцы дае... чэснае камсамольскае.

## КАЛІ АНАТОЛЬ ДОМА

Дом старшыні побач з калгасным садам. Вакол дома няма плоту, няма прысядзібнай гаспадаркі. Толькі бясконцыя рады фруктовых дрэў.

У доме старшыні сучасная мэбля, навейшыя грампласцінкі, лямпы дзённага святла, кнігі па спецыяльнасці. Нават у дробязях адчуваецца густ гаспадара. Кнігамі і пласцінкамі карыстаецца кожны, хто праяўляе да іх цікавасць. У тыя кароткія гадзіны, калі старшыня бывае дома, не заціхае музыка.

Дома Анатоля чакае Іна, якая не проста жонка і не проста маці яго дваіх дзяцей. Іна, якой неабходна ўсё расказаць, усім падзяліцца. У яе вельмі сур'ёзная спецыяльнасць. Яна эканаміст. Іна чакае не дачакаецца, пакуль падрасце малодшы Сашка і яна зможа даваць старшыні парады не толькі ў хатняй абстаноўцы, а дэталёва ўнікаць у эканоміку гаспадаркі, будзе, як і Анатоль, хадзіць на работу. А пакуль што побач з пялёнкамі і соскамі заўсёды ляжыць падручнік.

Чытаючы газеты, Анатоль ро-



А якая багатая сёлета садавіна! Адной Машы Печань і не ўправіцца.

біць паметкі і выпіскі. На мастацкую літаратуру проста не хапае часу. Пакуль Анатоль вучыцца, у доме — кнігі па тэхніцы. Ён сцвярджае, што школу псіхалагічных адкрыццяў ён праходзіць не па кніжках, а на практыцы, у калгасе.

## АДЗІНАГАЛОСНА

Раніцай 18 лютага старшыня прачнуўся імяніннікам. Сёння яму споўнілася дваццаць пяць гадоў, а праз некалькі гадзін пачаўся справаздачна-выбарчы агульны сход калгаснікаў сельгасарцелі імя Куйбышава. Анатоль апрануў цёмны касцюм і белую кашулю.

Сёння скончыўся тэрмін рэкамендацыі калгаса, па якой ён быў выбраны старшынёю. З раніцы 18 лютага Падаляк быў радавым членам калгаса. Яго далейшы лёс маглі вырашыць толькі людзі, побач з якімі ён жыў гэтыя гады. Ніякай падтрымкі, акрамя давер'я калгаснікаў, не было ў яго ў гэтае ранне. Што вырашаць людзі?

Сход ішоў па-баявому. Усе гаварылі востра, зацікаўлена. Ні ценю падхалімажу. Толькі аб справе. Так гавораць людзі, якія сабраліся падзяліцца галоўным, выказаць накіпелае. Ён слухаў спакойна і ўважліва. Ён не чакаў пахвальбы. Ён насцярожана чакаў таго моманту, калі каго-небудзь з выступаючых захлісне хваля мінулых крыўд. І не памыліўся.

Калі ў зале пачалі гаварыць зусім ужо несумленныя прамовы аб старшынёўскай зарплаце і наогул аб начальстве, ён маўчаў. Мне здавалася, ён пакутліва стрымлівае сябе, каб не сарвацца, не ўскіпець па-хлапчукоўску. Яго вочы прыжмурыліся пад шкельцамі акуляраў, і самі сабой сціскаліся сківіцы. У гэтыя хвіліны ён выглядаў значна старэй за свае гады. У ім ужо не было нічога ад віхорыстага хлапчука, які дома спяваў песні і падкідваў пад столь сына Сашку.

У тыя мінуты, калі ўсё ў душы кіпела ад нявыказанага абурэння, ён быў Навумавічам, строгім, непахісным, залішне жорсткім Навумавічам. Так мне здавалася. А калі ён устаў і пачаў адказваць, ён гаварыў спакойна, залішне спакойна, з усмешкай, і словы чаканіў з упэўненасцю. І нічога таго, што кіпела на душы, не было ў яго словах. Словы былі скупыя, зразумелыя і справядлівыя. Я міжволі здзіўлялася, адкуль у дваццаць пяць гадоў гэтае валоданне сабой?

Проста ён быў справядлівы. Ён быў справядлівы, калі жорстка пакараў Папова за халатнасць. Ён быў справядлівы, калі хадайнічаў, каб знялі штраф з калгасніцы, якая стала добра працаваць. Ён быў справядлівы, калі ад імя партыі і агульнага сходу калгаснікаў дамогся перагляду рашэння суда па прыватнай справе ў карысць калгаса. Ён быў справядлівы, калі ўвязваўся ў псіхалагічныя баі на пасяджэнні праўлення і беспамылкова разгадваў мужыкову хітрасць. Ён быў справядлівы, калі адмаўляўся ад запрашэнняў на вечарынкі, вяселлі, дні нараджэння і ішоў толькі ў той дом, дзе ад яго не чакалі потым скідак, не карысталіся выпадкам што-небудзь выпрасіць.

Анатоль любіць людзей, з якімі звёў яго лёс. Ён жыве іх клопатамі, радасцямі і горам. Ён добры, калі клопаты гэтых людзей супадаюць з інтарэсамі дзяржавы. Ён жорсткі, калі асабістае бярэ верх над агульным клопатам. Таму ён справядлівы. Людзі не забываюць



крыўды. Доўга абмяркоўвалася на сходзе пытанне пра падаткі на ўтрыманне гусей і качак. Пуховыя падушкі для будучых нявест аказаліся на нейкі момант больш сур'ёзнай справай, чым патравы калгасных пасеваў. Пакрыўджаныя ўладальнікі гусей гразіліся аддаць птушку на харчы для лісаў.

А пасля выступіў электрык Арлоўскі, інтэлігентны чалавек у белым вязаным шаліку і ў акулярах, празваны «чатыры вокі». Ён успомніў выпадак, калі яму старшыня не даў машыну, і за гэта ледзь не змяшаў Падаляка з зямлёю.

Падкінулі частушкі камсамолкі-даяркі:

Сабраліся свінаматкі,
Пішуць нараканне:
«Мілае праўленне,
Зрабі памяшканне».

І шмат яшчэ непрыемных слоў было сказана праўленню і старшыні. Але людзі ніколі не забываюць дабра. Падаляк быў сваім у гэтай зале, дзе віднеліся шэрыя ватоўкі і кажушкі, а на каленях у людзей адпачывалі рукі, цяжкія, чырвоныя, патрэсканыя.

Калі старшыня сходу прывычна і скупа прамовіў: «Якія будуць прапановы аб новым кіраўніку калгаса?», зала заварушылася, пасля замёрла, і адзін голас, нібы ўвабраўшы ў сябе дыханне соцень людзей, адказаў: «Падаляк». Яшчэ раз калыхнуліся ватоўкі, пацягнуліся ўгору цяжкія, працавітыя рукі.

— Супраць? Няма.

— Хто ўстрымаўся? Няма.

— Адзінагалосна.

**Калгас імя Куйбышава**
**Кіраўскага раёна.**



ПОШУКІ, АДКРЫЦЦІ...

# ДЫХАННЕ ВЕЧНАСЦІ



Сальеры ў Пушкіна геаметрыяй забіў музыку.

У нашы дні геаметрыя стала ўзвялічваць. Астраномы накіравалі аптычныя- і радыётэлескопы ў неба і адкрылі бясконцасць — мільярды мільярдаў новых светаў. Левенгук трыста гадоў таму назад склаў некалькі павелічальных шкельцаў, атрымаў мікраскоп і заглыбіўся ў другі свет, не менш гіганцкі, чым макракосмас — у мікракосмас. І перад чалавекам адкрылася неагляднасць, не менш здзіўляючая, чым галактыкі, што раскручваюцца і ўзрываюцца.

У беларускіх біяхімікаў у іх двухпавярховым будынку з доўгімі калідорамі і двухсветлавымі заламі, застаўленымі прабіркамі і хімічнымі рэактывамі, востра пахне ёдаформам, эфірам і «сабачымі» сухарамі. Людзі ў белых халатах за доўгімі сталамі моўчкі над чымсьці варожаць — падобна на тое, як гэта робяць лабаранты ў часе аналізу крыві. Толькі тут варажба больш далікатная — з прымяненнем вялікай колькасці тонкіх і тоўстых шкляных палачак, колбаў, прабірак, шэрых цэнтрыфуг, што бурчаць каласальнай хуткасцю, і пастукваючых апаратаў.

Знаёмства з біяхімікамі пачалося з таго, што мяне здзівіла дробязь. Некалькі чалавек, сабраўшыся разам, разгарнулі пакеты, узялі колбы з празрыстай светла-карычневай вадкасцю, налілі яе ў шклянкі і спакойна пачалі піць, закусваючы бутэрбродамі. Я нават не мог дапусціць, што ў колбах можа быць самы звычайны чай.

Свет быў іншы, новы. Ён пачынаўся з чаю ў колбах.

— Прабачце...

Ад чаю ў колбах паднялася жанчына. У рухах яе была мяккасць: гэтая мяккасць і прывабнасць былі і ў яе цёмных вачах, і ў гладка прычасаных валасах, і ў прыветлівым твары, які адразу выклікаў давер'е.

— Чаркасава.

Гэта — загадчыца біяхімічнай лабараторыі Інстытута фізіялогіі, доктар біялагічных навук Лідзія Сямёнаўна Чаркасава.

— Я спяшаюся ва ўніверсітэт на лекцыі. Коратка я ахарактарызую сутнасць нашых работ...

Пасля я размаўляў з навуковымі супрацоўнікамі.

Перш за ўсё мы з кандыдатам навук Канстанцінам Фамічэнкам прастаялі з гадзіну каля малюнкаў абстракцыяніста. Іх стварыў мастак, які любіць прамыя, пераломленыя пад рэзкімі вугламі лініі. На невялікім стэндзе прышпілена кнопкамі каля дзесятка невялікіх аркушаў. Ламаныя лініі былі тонкія, яны займалі не больш аднаго працэнта ўсёй паперы. І тым не меней яны паспявалі расказаць пра некалькі гадоў працы вялікага навуковага калектыву. Гэта была новая мова новага свету — сістэма каардынат.

Канстанцін Фамічэнка — высокі, сур'ёзны, схільны да паглыбленага філасофскага роздуму малады чалавек. Ён даваў дакладную і шырокую інфармацыю, якая датычыла агульных і канкрэтных пытанняў біяхіміі. «Канкрэтнае» мела адносіны да каардынат, а «агульнае» — да ўсялякай іншай хіміі. Гэтым тэрмінам людзі навукі, пераважна маладога ўзросту, называюць розныя складаныя матэрыі — напрыклад: уласна хімія, матэматычныя выкладкі, жыццядзейныя працэсы і г. д. Словам, усё, што не паддаецца хуткаму і дакладнаму разуменню. Кола пытанняў «нашай хіміі» ахоплівала складанейшыя праблемы жыццядзейнасці клеткі і іх сукупнасці, што складае арганізм.

У гэтую лабараторыю мяне прывялі акольныя дарогі. Я не збіраўся туды трапіць. Я меў даволі цьмянае ўяўленне пра яе існаванне. Мяне зацікавіла пытанне: што такое біяхімія, што гэта за незвычайны гібрыд — біялогія плюс хімія. Але калі я знаёміўся з работай аддзела генетыкі акадэміі, мяне завялі ў лабараторыю і пазнаёмілі з біяхімікам. Так, я пачаў даследаванне пытання адтуль.

Біяхімік быў юнак, у акулярах, з позіркам вельмі сур'ёзным, уважлівым. Адчувалася, што ён унутрана вельмі сабраны і нават суровы да сябе, і, магчыма, нават залішне аскетычны. У ім адчувалася фанатычная прыхільнасць да хіміі. Прозвішча яго Матошка. Ён толькі нядаўна закончыў аспірантуру, кандыдацкую яшчэ не паспеў абараніць, але вынікі сваёй працы ўжо надрукаваў.

У лабараторыі ён быў гаспадар, раней за ўсіх пачаў тут працаваць. Ён заняў сваімі хімічнымі сістэмамі ўсе сталы ля адной сцяны — там былі наладжаны складанейшыя ўзаемаадносіны электраправадоў, гумавых шлангаў для ахалоджвання, шкляных змеевікоў, колбаў, электраплітак. І сярод гэтай плоймы кіпучых, шыпучых, грукаючых і маўклівых прыбораў ён працаваў, як жанглёр: то кідаўся да нейкіх колбаў, то браў прабіркі з вадкасцю і, пазіраючы праз іх на святло, прыўзнімаў згодна з нейкай сваёй думкай адно брыво, то змешваў вадкасці, то надоўга задумваўся, стоячы пасярод пакоя.

(Гл. стар. 97.)



**Чараўніца за работай. Старшая лабарантка Вікторыя Сцяпура днямі прастойвае за найскладанейшымі вопытамі.**

# ФАРБЫ АПАВЯДАЮЦЬ



Адзін за адным абараняліся дыпломнікі. Пра свае работы яны гаварылі мала. Бо словамі наўрад ці выкажаш тое, чаго не дагаварылі фарбы.

Жывапісцаў было чацвёра. Іх стала чацвёра ў гэты дзень. Яшчэ чацвёра даказалі сваю здольнасць карыстацца адметнаю, своеасаблівою моваю фарбаў...

Перш чым гаварыць пра работу кожнага з іх паасобку,— адна агульная заўвага: у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце моладзь досыць паспяхова засвойвае асновы рэалістычнага мастацтва, усё меншае ў іх рабоце ўплыў умоўнага, плоскаснага «дэкаратывізму», які некаторы час лічыўся модай і выдаваўся ледзь ці не за адзіную прыкмету «сучаснага» жывапісу.

Сёлетнія дыпломнікі паказалі сваю сталасць ужо тым, што яны здольныя праз простае паказваць складанае, у звычайных будзённых праявах жыцця бачыць хараство нашай рэчаіснасці.

Усе чатыры работы прысвечаны нашай сучаснасці. І сучаснасць гэтая паказваецца маладымі жывапісцамі праз прызму будучыні.

Вось адно палатно — яно завецца «Рунь».

На першым плане трое — хлапчук і дзве дзяўчынкі — ідуць веснавою сцяжынкаю ў полі, дзе зелянее рунь. Там, далей, на другім плане, дзе сцяжынка хаваецца за ўзгоркам, іх даганяюць яшчэ малыя. Дзеці ідуць у школу. Упэўнена ступаюць па роднай зямлі.

Глядзіш на гэтую карціну, і само сабою прыходзіць адчуванне, што гэтыя малыя — таксама маладая рунь нашай дзяржавы, што крочаць яны ў будучыню, такую светлую і ясную.



Вось так проста і пераканаўча расказаць пра такое ў жывапісным творы — ці ж не сапраўднае шчасце для маладога творцы?.. Імя гэтага творцы — **Яўген КРАСОЎСКІ.**

У карціне «Студэнты-медыкі» таксама паказана будучыня, больш дакладна — адказнасць моладзі перад будучыняй. Адказнасць за сваё месца ў агульным страі. І характарыстыка персанажаў, і рытмічны лад твора, і яго каларыстычнае вырашэнне, і кантраст паміж унутранай сабранасцю будучых медыкаў і ўнутраным неспакоем зімовай прыроды — усё гэта «працуе» на найбольш яркае выражэнне задумы.

Не вельмі проста паказаць анатамічны пакой так, каб ён не выклікаў нейкага неўсвядомленага «жаху». Такую задачу ўмелі вырашаць класікі мінулых стагоддзяў. Не паўтараючы нікога з іх, аўтар палатна **Станіслаў ГАРАЧАЎ** здолеў паспяхова засвоіць іх урокі і вырашыць складаны сюжэт па-свойму. У гэтай карціне нашы сучаснікі, са сваім багаццем унутранага свету, са сваім глыбокім інтэлектам.

Блізкае па тэме, але зусім іншае па агульнаму гучанню палатно **Уладзіміра КОНАША,** прысвечанае архітэктарам. У карціне «Першы праект» інакшы рытмічны лад. Відавочна, будучая прафесія ўжо ў студэнцкія гады накладвае пэўны адбітак на чалавека. Архітэктары — больш экспансіўныя, чым медыкі. Гэтае «адрозненне» тонка заўважылі мастакі.

Героі «Першага праекта» сабраліся ў архітэктурнай майстэрні і абмяркоўваюць працу таварыша. Аўтар праекта — дзяўчына — моцна хвалюецца. І хваляванне гэтае змешана з пачуццём радасці: скончана работа, пра якую неўзабаве павінны шчыра выказацца сябры. Аўтару ўдалося паказаць, як персанажы карціны па-рознаму рэагуюць на праект. І яшчэ адна істотная акалічнасць: з унутранага ладу карціны арганічна вынікае думка пра сілу калектыўнай творчасці.

Традыцыйны сюжэт у карціне **Георгія КРАЎЧУКА** «Над Нёманам». З усіх дыпломаў гэты — найбольш традыцыйны. Тут няма вялікага абагульнення. Ёсць налёт нейкай ілюстрацыйнасці. Малавата ўнутранай сувязі паміж дзяўчатамі-даяркамі, што чакаюць статак, які ідзе з-за Нёмана. Але калі больш пільна ўгледзішся, адчуваеш нейкую ўрачыстасць моманту: на зямлю спакойна апускаецца летні вечар, вакол пануе цішыня, дзяўчаты неяк разам усе змоўклі і слухаюць гэтую цішыню. Мо якраз у такія моманты і нараджаецца ў душы песня. Мо якраз таму кожная з дзяўчат думае пра нешта сваё, запаветнае.



Можа не ўсе дэталі прадуманы ў карціне пра студэнтаў-медыкаў, не аднолькава завершаны ў жывапісных адносінах партрэтныя характарыстыкі архітэктараў, не знойдзены пакуль што другі план у карціне «Над Нёманам», крыху раздражняе неадпаведнасць паміж характарам жывапісу руні і фігуркамі малых у карціне «Рунь». Але важна іншае — у кожным творы ёсць свая думка, сваё жывапіснае вырашэнне. Кожны твор сведчыць аб тым, што дыпломы мастакоў былых студэнты інстытута атрымалі заслужана. Спадзяемся сустрэцца з імі на рэспубліканскіх выстаўках, а значыць, і на старонках часопіса «Маладосць».

**Уладзімір БОЙКА.**

---

Ён таксама паказаў мне «графічныя» вынікі сваёй працы — сістэму каардынат. І тады, разглядаючы гэтыя лініі, назіраючы за выразам яго твару, я раптам зразумеў велізарнае напружанне гэтых ліній.

Увогуле гэта была дзіўная лабараторыя. Сумная. Людзі ў ёй працавалі моўчкі, нахмурыўшыся. Тут не было ўсмешак. І вочы Матошкі, калі я прыходзіў і гаварыў з ім, неяк дзіўна бегалі за шкельцамі акуляраў, нібы ён чагосьці саромеўся.

Выпадкова кінутая фраза адной супрацоўніцы аддзела раптам усё расшыфравала:

— Ён усё замыкае на замок, гаворыць толькі з роўным...

Мне стала сумна сядзець у гэтай лабараторыі.

Матошка даў мне з вялікай перасцярогай кнігу «Вачыма вучонага». Мне здалося, што кніга таксама замкнута на замок, і гэты замок нельга адамкнуць — і я, не чытаючы, акуратна загарнуў кнігу ў газету, вярнуў гаспадару.

Ён біяхімік, але гэта не сучасная навука! Ён спазніўся мінімум на стагоддзе. Час вучоных-адзіночак прайшоў. Ёсць калектыў. Вучоны-калектыў. Гэта непадзельная адзінка, накшталт арганізма — са сваёй думкай, у выглядзе аднаго або некалькіх вучоных-тэарэтыкаў, са сваімі Рабочымі органамі ў выглядзе эксперыментатараў — кандыдатаў навук і іх паплечнікаў-лабарантаў, са сваімі тэхнічнымі і гаспадарчымі Службамі, у выглядзе інжынераў, тэхнікаў і загадчыкаў гаспадаркі.



Позірк кандыдата навук Канстанціна Фамічэнкі пранікае ў глыбіню клеткі.

У гаспадарцы доктара навук Чаркасавай я адразу адчуў, што трапіў у сучасны навуковы калектыў. Аб гэтым сведчылі ўсмешкі. У вялікай двухсветлавай зале і прымыкаючых да яе невялікіх пакоях працавалі маладыя людзі ў белых халатах, і ў кожнага, нават па свайму характару самага сур'ёзнага, хоць раз у дзень на твары з'яўлялася ўсмешка. У Фамічэнкі была сур'ёзная ўсмешка і крыху паблажлівая. Паблажлівасці ў ёй было мала. Гэтым я ў душы ганарыўся. Амаль так вучоны адной спецыяльнасці адносіцца, вытлумачваючы свой свет, да вучонага другой спецыяльнасці. Праўда, другой спецыяльнасці ў мяне не было, але я дасканала вывучыў сутнасць праблемы, над якой працуюць біяхімікі.

Я раскрыў тоўстыя кнігі са шматлікімі ілюстрацыямі, хімічнымі формуламі, сістэмамі каардынат і матэматычнымі выкладкамі. Я паглыбіўся ў іх вывучэнне і пры такім дэталёвым знаёмстве выявіў, што гэтыя сумныя на першы погляд кнігі куды больш займальныя, чым самы «закручаны» дэтэктыў.

Біяхімія — наука, якая з дапамогай хіміі займаецца біялогіяй. Яна даследуе, якія хімічныя працэсы працякаюць у жывых істотах — вірусах, раслінах, жывёлах. Найвялікшай падзеяй мінулага стагоддзя было адкрыццё клеткавай будовы жывых арганізмаў — усё жывое складаецца з клетак. І вось з таго часу і да нашых дзён вучоныя ўсё сіляцца пранікнуць у святую святых жыцця — у клетку, разгадаць яе работу. Сёння навука аб клетцы дасягнула дзівосных вынікаў. Мы даведаліся вельмі шмат. Але гэтае шмат, як ні дзіўна, дае вучоным права заяўляць:

— Калі я вучылася ў інстытуце, мне здавалася ўсё ясным, калі я была ў аспірантуры — гэтая яснасць пачала знікаць, цяпер мне здаецца — я нічога не разумею.

Гэта сказала маладая жанчына з прыемнай усмешкай, кандыдат навук Таццяна Міронава.

Але веды, здабытыя самаадданай працай тысяч вучоных, якія імкнуцца пранікнуць у клетку, дазволілі калі не расшыфраваць яе работу, то атрымаць магчымасць адчуць грандыёзнасць яе жыцця. Нездарма гэта названа мікракосмасам. Гэта сапраўды Космас.

Перада мною сучасны малюнак клеткі. Я ўглядваюся ў яго, і клетка пачынае нагадваць Галактыку. Позірк імкнецца ў бясконцасць і не можа яе дасягнуць. Тут гэтак жа, як і ў Галактыцы, ёсць ядро, тут, нібы міжзоркавы эфір, ёсць унутрыклеткавая вадкасць, і, нібы зоркі, планеты і туманнасці, плаваюць у гэтым «эфіры» мітахандрыі, лізосомы, кінстасомы, цэнтрасомы, апараты Гольджы, рыбасомы, а калі зірнуць яшчэ больш дакладнымі апаратамі ў глыбіні — мы ўбачым мільёны мільёнаў малекул: бялковых, вугляводных, тлушчавых, вялікіх, гіганцкіх, актыўных, пасіўных, а яшчэ глыбей пойдуць з'явы, звязаныя з электронамі, пратонамі, фатонамі і іншай атамнай начынкай.

Я чытаю біяхімічныя кнігі і разглядваю клетку-галактыку. Яна ўскладняецца ўсё больш, яна пачынае пераўзыходзіць сваёй складанасцю зорныя сістэмы — па сутнасці, простыя, яны толькі велізарныя. А тут, у клетцы, складанейшыя ўзаемадзеянні. Тут ёсць хімічныя камбінаты — такога тыпу дасканалай вытворчасці яшчэ не дасягнулі мы, людзі. Мы будуем гіганцкія аўтаклавы, каб трымаць ціск, вакуум-камеры, каб ствараць разрэджаную атмасферу, апараты, за якімі трэба пільна сачыць, каб у іх не было ніводнай малекулы кіслароду і вады, тэрмічныя камеры — для падтрымання высокай тэмпературы, абліцоўваем усё кіслотаўпорнымі матэрыяламі, спальваем вугаль і нафту, выкарыстоўваючы пры гэтым толькі працэнтаў дзесяць-пятнаццаць затоенай у іх энергіі. А тут, у гэтай мікраскапічнай федэрацыі, тысячы складанейшых хімічных рэакцый, узнавіць якія чалавек яшчэ не ў сілах, ідуць пры нармальным ціску і тэмпературы ў водным асяроддзі, без наяўнасці кіслотаўпорных матэрыялаў і з небывалым каэфіцыентам карыснага дзеяння — пяцьдзесят-шэсцьдзесят працэнтаў. І тут ёсць гіганцкія бібліятэкі, якія захоўваюць велізарную колькасць інфармацыі. Гэтая інфармацыя сканцэнтравана ў ядрах, дакладней — у храмасомах, у дэзаксірыбануклеінавай кіслаце, скарочана ДНК. У ДНК асобым трохзначным кодам запісана, што рыба, якая вырастае з адной клеткі, з ікрынкі, павінна быць рыбай: з зубамі, з сэрцам, жабрамі, вачыма і іншымі шматлікімі органамі, функцыі якіх такія разнастайныя; парастак, прарослы з жолуда, павінен быць дубам — іменна такой велічыні, моцнасці і формы, як і яго продкі, і ад маці павінен нарадзіцца сын, падобны на маці і бацьку. У ДНК, згодна сучасных уяўленняў, запісана шырокая праграма работы хімічных заводаў клеткі, якія могуць адначасова выпускаць тысячы — тысячы! — розных рэчываў. Калі ДНК усіх клетак чалавека выцягнуць у адну лінію, яна працягнецца праз усю сонечную сістэму.

І ў клетцы ёсць склады, і ёсць чыгункі, і ёсць падобныя да высакавольтных ліній пераносчыкі энергіі, і ёсць дэтэктывы, якія

## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Сярод млекакормячых чэмпіёнам па скачках у вышыню лічыцца паўднёваафрыканская антылопа **арэатрагус.** У час небяспекі яна можа з месца скочыць на сем метраў у вышыню.

## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



У памірскім ледніку быў знойдзены **трытон.** Калі яго адагрэлі, ён апрытомнеў і пражыў некалькі гадзін.

Ва ўсім гэтым не было б нічога дзіўнага, калі б не тое, што лёд, у якім знайшлі жывёліну, утварыўся 5 тысячагоддзяў таму назад...

распазнаюць адно рэчыва з многіх тысяч, і грузавікі, якія перавозяць гэтае рэчыва да хімічных камбінатаў, і дакладна працуе сістэма каналізацыі, што выводзіць адыходы, і ёсць помпы, што перапампоўваюць іёны калію і натрыю то ў клетку, то з клеткі, і электрычныя імпульсы, якія пры гэтым утвараюцца нібы па радыёрэлейнай лініі, ідуць па нервовых валокнах ад пальцаў да мозгу і ад мозгу да пальцаў.

І калі паглыбіцца ў гэты дзівосны свет, у якім, у адрозненне ад нашага, іншыя органы пачуццяў — тут і вачыма і вушамі, і пальцамі служаць хімічныя рэчывы, станоўчыя і адмоўныя зарады і яшчэ нешта невядомае, што выклікае здзіўленне сучасных вучоных. У гэтым свеце іншыя адлегласці: прыблізна тое, што ў нас метр — тут ангстрэм, адна дзесяцімільённая доля міліметра. Сцены гэтай дзяржавы-крэпасці даволі тоўстыя — сто ангстрэм, і ў сценах зроблены спецыяльныя вароты для ўездаў, ледзь не з ірвамі і падвяснымі мастамі: настолькі асцярожна і пераборліва клетка ўпускае ў свае межы новых пастаяльцаў; а ў самой клетцы створана сістэма больш тонкіх сцен. Гэтыя сцены перагароджваюць усю прастору — і вось калі ісці ўсё далей і далей у глыбіні клеткі, даведвацца пра падрабязнасці яе работы, то мы ўсё часцей і часцей будзем вымаўляць бяссільныя словы: «Асноўнае, пастаўленае тут пытанне аб тым, як клеткі спецыялізуюцца, засталося без адказу». Гэта пішуць вучоныя М. Фішбер і А. Блеклер. «У працэсе эмбрыянальнага развіцця з цела нервовай клеткі вырастае доўгі адростак аксон, які нейкім невядомым чынам расце да вызначанай яму кропкі на перыферыі для таго, каб уступіць у кантакт з мышцай або скурай». Гэта піша Б. Катц. Такіх сведчанняў буйных вучоных можна прывесці шмат. Паглыбленне ведаў прыводзіць да таго, што таямніц з'яўляецца ўсё больш і больш. Мікракосмас робіцца ўсё больш грандыёзны.

І вось пра асобныя пытанні гэтай «хіміі» мы і гутарылі з Фамічэнкам, стоячы каля сістэмы каардынат, якая ўмяшчала ў сябе некалькі гадоў працы вялікага навуковага калектыву. Кожная найдрабнейшая кропка гэтых ліній...

Вось яны, гэтыя кропкі, рассеяныя па ўсёй лабараторыі, увасобленыя ў людзях, у іхніх думках, рухах іхніх рук, у працы прыбораў. Яны пачынаюць сваё развіццё знізу, з першага паверху. Там знаходзіцца віварый, там у шматлікіх скрынках-клетках трымаецца матэрыял для даследавання — сабакі і белыя пацукі.

Лабарантка пайшла ўніз і прынесла на падносах снег і штосьці яшчэ. У гэты час я скончыў асэнсоўваць класічны прыбор для вызначэння акіслення і фасфарліравання. Тут, у гэтым маленькім пакоі, два навуковыя супрацоўнікі — Веранікa Кукушкіна і Марк Тайц — даследавалі «сілавыя станцыі» жывых арганізмаў, працэс дыхання, ці акісленне. Гэта тыя


**Вопыт удаўся. Навуковыя супрацоўнікі Марк Тайц і Веранікa Кукушкіна задаволены.**

самыя станцыі, дзякуючы якім нам цёпла ў самы люты мароз, і мы можам рухацца, думаць, гаварыць.

Гэтыя станцыі дастаўляюць арганізму энергію, спальваючы глюкозу. У прынцыпе іх работа не адрозніваецца ад звычайнай ТЭЦ — і там і тут вызваляецца энергія пры разбурэнні, акісленні складаных арганічных рэчываў, якія ператвараюцца ў вуглякіслы газ. Толькі ў топцы электрастанцыі тэмпература каля 900 градусаў, а ў нашым целе 36,6, і наша цела выкарыстоўвае паліва ў пяць разоў эканамічней. Вось бы стварыць такую электрастанцыю! І яе не трэба прыдумваць, проста даведацца, як гэта робіць прырода.

У апошні час вучоныя ўсё часцей здзіўляюцца: усё, што яны адкрылі цаной вялікіх намаганняў, — усё гэта ёсць у целе жывёліны. І радыёлакацыя, і Эйфелева вежа, і цудоўныя аэрадынамічныя ўласцівасці, і мініяцюрныя фотаэлементы, і мікраскапічныя паўправаднікі, і шмат чаго іншага, чаму можа толькі пазайздросціць сучасная тэхніка, якая дасягнула бліскучых поспехаў.

Як клетка бярэ з паліва пяцьдзесят працэнтаў энергіі?

У Марка вялікі лоб, тонкія губы і шэрыя ўважлівыя вочы. Ён крыху прыўзнімае бровы — нібы хоча выпусціць з сябе тыя думкі, якія ён не проста вычытаў, а ў якіх

## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Нядаўнія даследаванні буйнага метэарыта, які ўпаў у 1864 годзе ва Францыі, паказалі, што ў ім прысутнічаюць складаныя арганічныя злучэнні — **парафін і цытазін.** Апошні з'яўляецца неад'емнай часткай кожнай жывой клеткі.

Гэтыя даныя — намёк на заселенасць космасу.



## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ




Калі растапіць усе ільды **Антарктыкі,** то ўзровень вады ў сусветным акіяне павысіцца амаль на 50 метраў.

пераканаўся сам, пры дапамозе эксперыментаў. Яго тонкія губы складваюцца ў ледзь прыкметную ўсмешку.

— Уся справа ў ферментах. Ферменты — гэта бялковыя рэчывы, якія выпрацоўваюцца ў клетцы, — ён гаворыць раздзельна і выразна. — З дапамогаю ферментаў клеткі і сінтэзуюць і разбураюць рэчывы. Ферменты могуць зрабіць так, што больш энергіі будзе траціцца на цяпло, і так, што больш энергіі будзе звязвацца ў пераносчыках энергіі — АТФ.

Рэакцыя акіслення ідзе ў мяккіх умовах. Ферменты раскладваюць глюкозу. Якія ж ёсць ферменты, як яны працуюць і чаму ўтвараюцца іменна ў даны момант?

Марк яшчэ вышэй прыўзнімае бровы, цяпер ён пачынае даказваць, што гэтае пытанне з'яўляецца пакуль адкрытым.

— Як я вывучаю ферменты? — Ён зноў ледзь прыкметна ўсміхнуўся. — Мы ўжываем класічны спосаб — (Я ўспомніў з кнігі: «Класічныя метады аналізу ўдалося прыстасаваць цяпер для даследавання колькасцей і аб'ёмаў у тысячу разоў меншых, чым тыя, якія ўдалося вызначыць раней. Вучоныя атрымалі магчымасць вымяраць інтэнсіўнасць дыхання некалькіх амёб... або вызначыць утрыманне ў іх ферментаў». Іменна расшыфроўку гэтай цытаты і пачаў рабіць Марк.) — Ферменту так мала, што ўзважыць яго немагчыма. Але мы, груба кажучы, ухітрыліся паштучна падлічыць, колькі ў ім атамаў вадароду. Калі фермент «працуе», ён свой вадарод далучае да рэчыва. А мы падсоўваем гэтаму ферменту замест яго рэчыва — адно хімічнае злучэнне. Яно валодае цудоўнай уласцівасцю — па-рознаму афарбоўвацца ў сувязі з рознымі колькасцямі ферменту. Пасля на фотаэлектракаларыметры мы вызначаем інтэнсіўнасць колеру. Складаем графік і бачым, колькі малекул ферменту ўтрымліваецца.

— А чысты фермент можна вылучыць?

Марк чомкнуў губамі.

— Ого! Кілаграм чыстага ферменту каштуе часам мільён рублёў.

Яму падабалася гэтая лічба — мільён рублёў, ён паўтарыў яе некалькі разоў з захапленнем і павагай.

Марк працягваў штосьці пераліваць з прабіркі ў прабірку, як раптам пачуўся тонкі піск. Лабарантка Ліда Галака стаяла каля ракавіны. У адной руцэ ў яе былі звычайныя канцылярскія нажніцы, у другой яна трымала пацука.

Неўзабаве пацучыныя галовы і тушкі ляжалі на падносе і Марк маленькімі нажніцамі ўскрываў чарапы.

— Дакладна гэтак жа і ў чалавека робяць, пры аперацыі.

Ён падрэзваў дзесьці збоку і знімаў крышкі чарапоў.

— Гэта мазжачок, а гэта — вялікія паўшар'і. А зараз мы дастанем печань і возьмем крыху мышцы. Усё трэба рабіць на холадзе, каб затармазіць жыццёвыя працэсы. Інакш малюнак будзе недакладны...

Пасля яны ўтраіх сядзелі каля стала і расціралі ў маленькіх фарфоравых місачках мазгі і печань. Марк рабіў усю гэтую работу з асаблівай уважлівасцю. Яго, здаецца, ніколькі не бянтэжыла, што яго занятак — суцэльнае разбурэнне. Ён з асаблівай стараннасцю расціраў мазгі і гаварыў:

— Клеткі мікраскапічныя, іх трэба разбурыць.

Вось яны, біяхімікі! Каб вывучыць работу жывой клеткі, яны спачатку бязлітасна яе разбураюць. Яны падобны на дзівакоў-майстроў гадзіннікавых спраў. Яны не разбіраюць, а разбіваюць гадзіннік, а пасля хочуць даведацца, для чаго служыць кожная з соцень рассыпаных дэталек.

Гэтая бітва за пазнанне таямніц прыроды ў шмат разоў больш складаная, чым барацьба Геракла з дзевяцігаловаю лернейскаю гідраю! Але Марк спакойна адносіцца да гэтай звышгеркулесаўскай праблемы. Разбураць дык разбураць! І ён расцірае фарфоравым таўкачыкам жывыя тканкі так, каб разбурыць усе клеткі, каб паштучна злічыць усе атамы фосфару, азоту, вадароду, каб на гэтых уцалелых ад разгрому «дэталях» пабудаваць лагічную сістэму, якая растлумачыць прызначэнне кожнага элемента. Не так? Практыка не пацвярджае? Што ж, зробім яшчэ 15 518 доследаў, складзем новыя крывыя, яшчэ больш дэталёва даведаемся пра гэтыя «дэталькі» і складзем новую рабочую гіпотэзу. Можа і вы прымеце ўдзел? Нават калі б усе тры мільярды людзей зямнога шара сталі біяхімікамі, ім хапіла б справы на многія гады.

Але самае цікавае ў тым, што ў сваіх апошніх глыбінях, там, дзе працуюць атамы, жыццё на дзіва простае. Так мяркуюць вучоныя. І гэтае «простае жыццё» яшчэ раз пацвярджае класічны афарызм Ньютана — «прырода простая». Праўда, сёння мы яшчэ акружаны суцэльнымі таямніцамі.

Дзяўчына ўсміхаецца. Гэта ўсміхаюцца тысячы таямніц яе цела, разбуджаныя вясновым сонцам. Я імкнуся зразумець яе ўсмешку. І не магу. Я не магу зразумець усмешку Марка і яго спакойныя рухі. Усё гэта значна больш за простае пераціранне клетак і філасофскія разважанні. Значна больш. У гэтым адчуваецца дыханне вечнасці. І ў вачах Марка мільгае яе водбліск.

Ніводная эпоха не магла пахваліцца такім грандыёзным пранікненнем у новыя касмічныя светы. Ніводная. Што ў параўнанні з гэтым салёныя пырскі акіяна і адкрыццё новых астравоў! Там жа мы адкрывалі толькі зямны шар, а тут — Космас!

**Віктар ГОВАР.**

Фота **Ю. Іванова.**

## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Усё большае ўжыванне знаходзяць **ратавальныя паясы...** для дамоў. Гэтыя паясы ахоўваюць дамы ад разбурэння ў часе землетрасенняў. У СССР плануецца забяспечыць такімі паясамі ўсе будынкі ў сярэднеазіяцкіх вёсках.



## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Пад ціскам у **10 тысяч атмасфер** мяса можна згатаваць і пры хатняй тэмпературы на працягу некалькіх мінут.



*Міхаіл Юр'евіч Лермантаў*

*1814—1964*

# ЦВІЦЕ ЧАРЭШНЯ

...Міхайлаўскае я наведаў пазалетась, у канцы жніўня, мокрым і яшчэ бязлюдным раннем. Лена перачырыкваліся вераб'і. Голле яблыняў, каб не безліч падпорак, так і палегла б на траву. Пах флоксаў, якіх на сядзібе, абапал дарожак, было ненатуральна шмат, упіраўся ў пахмурнае неба, густы, прытарны, нават нейкі нахабны...

Гэты бязлітасна шчодры, відаць, непрадуманы флоксавы пах успомніўся мне ў Пяцігорску, сёлета вясной, каля дома, у якім прайшлі апошнія дні другой нашай любві, другога друга, мудрага і сардэчнага.



Дом-музей Лермантава ў Пяцігорску. Мал. Б. Рыбчанкава. Аловак. 1940 г.

Чаму ж успомніўся?

Бо там, каля белага нізкага доміка, у сонцы поўдня цвіла старая чарэшня. Сціпла і вельмі патрэбна. Шчасліва, ненаіўна верыцца, што яна — тая самая, адна з тых самых, пра якія было калісьці тут, у гэтым доміку, напісана:

«Галіны квітнеючых чарэшань глядзяць мне ў вокны, і вецер засыпае часам мой пісьмовы стол іх белымі пялёсткамі».



Каля Пяцігорска. Малюнак М. Ю. Лермантава. Аловак.

Святое, невыказнае хваляванне! Зноў дакранешся душой да тых пачуццяў, якія ўздымалі і ачышчалі яе ў родным доме Талстога, каля хаты, дзе нарадзіўся Купала, на гары, дзе магіла Шаўчэнкі, у лесе, нячутна напоўненым песняй Міцкевіча...

Пісьмовы стол, на зялёным сукне якога, як на траве, адпачывалі быстрыя і нястомныя рукі, што тут вось пры дапамозе гэтага гусінага пяра, увекавечылі на паперы «Тамань» і «Выхожу один я на дорогу...» Тут, каля гэтага стала, я задрыжаў душой, жыва, да слёз адчувальна ўспомніў аслонены мокрымі дрэвамі шэры домік Радзівонаўны і словы — золатам на мармуры:

> Подруга дней моих суровых,
> Голубка дряхлая моя!..

Словы — поўныя той чалавечнай, высокай пяшчотнасці, на якую здольная толькі сапраўдная сіла, сапраўдная мужнасць. Тая сіла і мужнасць, тая радасць жыцця і змагання за Чалавека, тая крыніца несмяротнасці, з якое непераможна, чароўна струменіць і разліваецца морам сапраўды руская, сапраўды народная і сапраўды агульналюдская паэзія двух геніяў.

Пушкін і Лермантаў. Лермантаў і Пушкін. Толькі падумаеш пра аднаго — у памяці ўстае другі... Так яно ідзе, бясконца паўтараецца з тых дзён, калі ты ўпершыню зазірнуў у казачна-дзівоснае царства іх слова. Асабліва ж моцна і непаўторна адчуваецца гэта на Каўказе. На тым Каўказе, што быў іх карай, іх натхненнем, што стаў для аднаго з іх магілай.

З вяршыні Машука відаць і маляўнічы Пяцігорск, што сотнямі дамоў і садзікаў разбегся па нізіне, і паасобныя горы, што абкружаюць горад зялёна-шэрымі пірамідамі, і горны хрыбет, што снежна бялее на прываблівым, лёгкім і радасным даляглядзе.



Помнік на месцы дуэлі ў ваколіцах Пяцігорска. Збудаван у 1915 г. па праекту скульптара Мікешына. Пазней былі дададзены агароджа і чатыры грыфы па кутках, як сімвал смутку.

Фота А. Глінскага.

Відаць і месца пад гарой, дзе варожая куля так дзіка, недаравальна абарвала жыццё таго мілага Мішанькі, што са слязьмі на вачах, з нажом у дзіцячай руцэ кідаўся абараняць дваровага мужыка, якога білі па гаспадарскаму загаду ўладнай бабулі-прыгонніцы. Таго бясконца абаяльнага і роднага Міхаіла Юр'евіча, якому было толькі дваццаць шэсць, калі і на ягоныя вусны лягла халодная пячаць маўчання.

Часта гаворыцца, што справу, пачатую Пушкіным, прадоўжыў Лермантаў. Хтосьці пісаў, што страту Лермантава лёс кампенсаваў Расіі Львом Талстым, маладосць якога і пачатак творчасці таксама звязаны з Каўказам.

Гэта — перш за ўсё — слова пра несмяротнасць паэзіі, пра веліч і неўміручасць народа, што нараджае паэтаў, пра хараство зямлі, што іх натхняе.

У Пяцігорску — і гэта зусім натуральна — найбольш і думаеш, і чуеш пра аднаго, пра наймалодшага з вялікай тройкі. Тут яго хочацца перачытваць зноў і зноў, бо тут ён гучыць па-новаму свежа. І тут яго перачытваюць, вядома ж, не толькі літаратары.

У Пяцігорску пачыналася вясна. Я сустракаў яе там упершыню на Каўказе. І я ўпэўнены, што не была б яна, мая каўказская вясна, такой раскошна сонечнай і прывольнай, не прымушала б яна так глыбока, шчасліва задумвацца, каб не Пячорын, не Бэла, не добры Максім Максімыч, не палымяны паслушнік Мцыры, каб не песні пра тое, як плывуць па блакіце белыя хмаркі, вечныя выгнанніцы, як гавораць высокія зоры... І яшчэ — каб не звычайны казацкі домік у белым гушчары другіх нізкіх, утульных дамоў, домік, праз вокны якога відаць і Машук, і Бештау, і старая чарэшня. Сціплая, вельмі патрэбная, з пяшчотнымі белымі кветкамі...

**Янка БРЫЛЬ.**

# ПЕРШАЯ ЛЮБОЎ

Я мстил за Пушкина под Перекопом,
Я Пушкина через Урал пронёс,
Я с Пушкиным шатался по окопам,
Покрытый вшами,
голоден и бос!
И сердце колотилось безотчётно,
И вольный пламень в сердце закипал,
И в свисте пуль,
за песней пулемётной —
Я вдохновенно Пушкина читал...

Эдуард **БАГРЫЦКІ.**

Мне ўспамінаюцца гэтыя радкі, калі я думаю пра Лермантава. Пры чым тут Пушкін?.. Не таму, што Лермантаў у літаратуры пачаўся з Пушкіна... Не. Таму, што да мяне ён прыйшоў менавіта дзякуючы Пушкіну, прыйшоў своеасаблівым шляхам.

За Лермантава я з «Кацюшай» жорстка помсціў ворагам, праўда, не пад Перакопам, а на Волхаве. У цяжкі час я пранёс Лермантава



цераз Урал, бадзяўся з ім па свеце. Лермантаў быў разам са мной у фашысцкай няволі на чужыне, дзе ад аднаго ўсведамлення гэтага мацней білася маё сэрца, у якім «вольный пламень закипал».

Лермантаў!..

Я не першы і не апошні з пашанай станаўлюся перад ім на калені. Не адзін я, а тысячы людзей улюбёны ў яго паэзію. І кожны з іх любіць яе па-свойму.

Я раскажу толькі пра свае сустрэчы з паэзіяй Лермантава. Раскажу пра тое, як любоў да Лермантава затлела ў маім сэрцы і як яна ў хвіліны роспачы балюча смылела ў маёй душы, а ў часіны радасці разгаралася зыркім полымем.

Некалі мясцовая пані пашкадавала вясковую дзяўчыну, бацька якой, качагар панскага бровара, стаў алкаголікам, і ўзяла яе наймічкай у маёнтак. Дзяўчына, якая перад тым дзве зімы вучылася ў царкоўна-прыхадской школе, з зайздрасцю паглядала на кнігі ў руках панскіх дзяцей. Аднойчы да яе трапіла кніга, якую, як казалі, напісаў дзед Наталлі Аляксандраўны. Дзяўчына не раз бачыла Наталлю Аляксандраўну — гаспадыню суседняга маёнтка ў Вавулічах. Наймічка лічыла, што кнігі пішуць нейкія незвычайныя людзі. І таму яна была ўражана, што такую дзіўную кнігу напісаў дзед суседняй пані.

Так мая будучая маці пазнаёмілася з творамі Пушкіна.

Вядома, што пры такіх абставінах дзяўчына не магла не прачытаць пра гібель Пушкіна і верш Лермантава «Смерць паэта». Мабыць, тады на ўсё жыццё прычасцілася яна іх паэзіяй, бо пазней, незаўважна для сябе, прычашчала ёю з маленства і мяне. У душы я ганаруся тым, што не ўсемагутны бог, а два гэтыя апосталы паэзіі ахрысцілі ў сваю веру ўражлівую вясковую дзяўчыну ў змрочную пару яе маладосці.

Значыць, паэтычнае слова мацнейшае за святую малітву. Маці засталася абыякавай да рэлігіі, хоць побач, у суседняй вёсцы, стаяла прыгожая, вядомая ў наваколлі, цагляная царква, пабудаваная на сродкі той жа ўнучкі Пушкіна Наталлі Аляксандраўны і яе мужа.

Мяне, народжанага зусім у іншы час, гэтая царква не магла ўжо, вядома, нічым прывабіць. Хоць бабуля аднойчы і звадзіла туды ўнука прычашчацца, але святы айцец Сяргей (дарэчы, таксама Пушкін, і, як казалі, нібыта далёкі нашчадак Аляксандра Сяргеевіча) не здолеў мяне прычасціць рэлігіяй так, як маці прычасціла паэзіяй вялікага рускага генія.

Помню, пасярод нашай прасторнай хаты паліцца бляшаная печка. Манатонна паскрыпвае самапрадка, на якой маці прадзе кудзелю. Мы, малыя, сама што раздурэліся на падлозе.

Раптам маці спыняе самапрадку і кажа:

— Супакойцеся... Не апячыцеся аб печку. Чуеце, што робіцца на двары...— І яна расказвае, як там бура то вые, як звер, то плача, як дзіця, то стукае ў акно, як запознены падарожнік...

Мы сціхаем і прыслухоўваемся. Чуваць, як у печцы час ад часу страляюць дровы, а на двары сапраўды хтосьці то вые, як звер, то плача, як дзіця. Здаецца, што запознены падарожнік нясмела стукае ў шыбу. Я ўглядаюся ў акно, але нічога не магу разглядзець, бо на шыбах мароз намаляваў дзівосныя дрэвы і кусты. Гэта было акно ў нейкі казачны свет.

Маці вельмі складна расказвала казкі. То пра зялёны дуб, каля якога на залатым ланцугу ўдзень і ўночы ходзіць вучоны кот, а побач блукае лясун і на галлі сядзіць русалка. То пра князя, што сустрэў сваю смерць, наступіўшы на конскі чэрап, з якога выпаўзла змяя. То пра мужыка, які, дазнаўшыся ад дзяцей, што іх сеці «прыцягнулі мерцвяка», пайшоў і адпіхнуў вяслом у раку тапельца. То пра тры гордыя пальмы, што раслі над крыніцай у пустыні і былі ссечаны і спалены жорсткімі людзьмі з вандроўнага каравана.

Колькі таямнічасці і загадкавасці было ў гэтых казках!..

Затаіўшы дыханне, адчуваючы біццё свайго сэрца, слухаў я казку пра тое, як родная маці выганяе з дому сына, які згубіў зброю і ўцёк з бітвы, не адпомсціўшы ворагам за смерць бацькі і двух братоў.

У пачатковай школе настаўніца павяла нас аднойчы на станцыю слухаць радыё. Тады яно было ў нас вялікай навінай. Разявіўшы ад здзіўлення раты, доўга слухалі мы ў зале невыразны, хрыплы голас, што скрозь шум і трэск даносіўся з нейкай чорнай талеркі, якая стаяла бокам на насценнай палічцы.

Калі вярталіся дадому, сябра завёў мяне на пошту.

На століку, перад драцяной агароджай, ляжала некалькі кніг.

— Ну што, хлопцы, купляць кнігі прыйшлі? — з усмешкай запытаў нізкі дзядзька ў акулярах.— Выбірайце...

Я ўзяў тонкую кніжачку і пачаў чытаць там, дзе разгарнулася:

И наконец удар кинжала
Пресёк несчастного позор...
И мать поутру увидала...
И хладно отвернула взор.
И труп, от праведных изгнанный,
Никто к кладбищу не отнёс,
И кровь с его глубокой раны
Лизал рыча домашний пёс...

Я адразу ж пазнаў у гэтым вершы казку, якую часта расказвала маці.

Пазней, чытаючы «Зімовы вечар», уступ да «Руслана і Людмілы», «Песню пра вешчага Алега», «Тапельца» Пушкіна і «Тры пальмы» Лермантава, я са здзіўленнем пазнаваў у іх складныя матчыны «казкі». Для мяне яны былі першымі «казкамі», пачутымі ў жыцці.

Так, у маленстве з навакольнага таямнічага свету Пушкін і Лермантаў, як два незнаёмыя вандроўнікі, настойліва стукалі ў акно і ў маё сэрца.

Але здарылася так, што я спачатку пазнаёміўся па-сапраўднаму з Лермантавым. За пятнаццаць капеек я купіў тады на пошце невялікую кніжачку і ляцеў дадому, як на крылах, не адчуваючы пад сабой ног. Час ад часу разгортваў, засопшыся, кнігу і чытаў то адзін, то другі верш:

Тучки небесные, вечные странники!
Степью лазурною, цепью жемчужною
Мчитесь вы...

Я быў зачараваны гэтай прыгажосцю... Задзіраў угару галаву, узіраўся ў неба і здзіўляўся, што мне яно ніколі не здавалася «стэпам блакітным», а хмаркі, якія праплывалі па ім, ніколі не нагадвалі «жамчужны ланцуг».

Усё лета я не расставаўся з гэтай кніжкай, і многія вершы з яе ведаў ужо на памяць. За дзень набегаўшыся на пашы за каровай, стомлены, лажыўся ў пасцель і ўспамінаў такія простыя і блізкія мне радкі:

Горные вершины
Спят во тьме ночной;
Тихие долины
Полны свежей мглой;
Не пылит дорога,
Не дрожат листы...
Подожди немного,
Отдохнёшь и ты.

Помню, як моцна забілася маё сэрца, калі ў сямігодцы ў руках Людачкі, якая сядзела перада мной на парце, я ўбачыў тоўстую кнігу: «Сочинения Лермонтова, том первый». На некалькі дзён я выпрасіў у аднакласніцы кнігу, і пасля таго, як вярнуў яе Людачцы, дзяўчына прынесла мне яшчэ і другі том.

Тады ўпершыню прачытаў я амаль усяго Лермантава. Захапляўся «Ашык-Керыбам», не мог адарвацца ад «Бэлы» і «Тамані». «Вадзім» зрабіў на мяне наймацнейшае ўражанне з усяго прачытанага ў сямігодцы. Але асабліва палюбіліся вершы і паэмы Лермантава. У вершах «Дары Церака», «Марская царэўна», «Паветраны карабель» я пазнаў яшчэ некаторыя матчыны «казкі».

Вечарамі пры цьмяным святле газоўкі перапісаў я з таго двухтомніка многія вершы, запоўніўшы імі некалькі вучнёўскіх сшыткаў.

Неяк раз мы паехалі на кані ў горад. Бацька застаўся на ўскраіне пытляваць у млыне пшаніцу, а маці ўзяла мяне з сабой. Апынуліся мы з ёй у нейкай цеснай, цёмнай кватэры.

— Нам сказалі, што вы прадаеце поўныя зборы твораў Пушкіна і Лермантава,— спытала маці ў гаспадыні.

— Прадаю,— адказала тая, недаверліва аглядзела нас з ног да галавы, пайшла некуды ў бакоўку і вынесла адтуль вялікую тоўстую кнігу.

— Вось поўны збор твораў Лермантава выдання Сыціна, і ёсць яшчэ такі ж Пушкін.

— І колькі вы просіце за іх?

— Па два пуды мукі за кожную кнігу.

У тыя гады ўсё ацэньвалася не грашыма, а мукой. Маці задумалася. Мабыць, прыкідвала ў думках, на колькі хопіць для нас тых чатырох пудоў мукі. Потым яна неахвотна працягнула жанчыне кнігу і няўпэўнена сказала, што мы зойдзем пазней.

«Ці не засыта запрасіла яна за таго Сыціна»,— думаў я, калі мы ехалі ўвечары дадому.

Над лесам у туманнай смузе плыў месяц. Мне чамусьці ўспомніўся лермантаўскі верш:

Посреди небесных тел
Лик луны туманный.
Как он кругл и как он бел,
Точно блин с сметаной.
Кажду ночь она в лучах
Путь проходит млечный,
Видно, там на небесах
Масленица вечно!

Пазней, у юнацтве я здзіўляўся, чаму маці не дадумалася тады зайсці ў кнігарню і купіць там гэтыя кнігі. Відаць, і ў думках яна не дапускала нават, што ў тагачаснай кнігарні маглі быць поўныя зборы твораў Пушкіна і Лермантава, якіх яе сын «праходзіў» тады ў школе, як дваранскіх пісьменнікаў. Тым больш, што пад вокнамі нашай сямігодкі, на цвінтары перад царквой, у якой айцец Сяргей


Парус.

Белеет парус одинокой
В тумане моря голубом!..
Что ищет он в стране далёкой?
Что кинул он в краю родном?..

Играют волны, ветр свищет,
И мачта гнётся и скрыпит...
Увы, он счастия не ищет,
И не от счастия бежит!

Под ним струя светлей лазури,
Над ним луч солнца золотой...
А он, мятежный, просит бури,
Как будто в бурях есть покой!

Аўтограф М. Ю. Лермантава. 1832 г.

служыў малебны, сярод магіл знатных паноў ляжала пліта, дзе было высечана: «Наталля Аляксандраўна Пушкіна, па мужу...» і напісана прозвішча мясцовага памешчыка.

У апраўданне сваёй любві да Лермантава я нясмела паўтараў тады сам сабе радкі аднаго з савецкіх паэтаў: «Из юнкеров я Лермонтова лишь любил».

Гэта маленькае лірычнае адступленне, ці лепш сказаць, мая споведзь перад часам, які выпраўляе промахі гісторыі. У маіх родных мясцінах людзі пазабывалі прозвішчы навакольных памешчыкаў. Даўным-даўно ніхто не ходзіць маліцца ў царкву, з якой скінуты крыжы. А на цвінтары не засталося ніякіх слядоў ад памешчыцкіх магіл. І толькі перад вокнамі школы, цяпер ужо не сямігодкі, а дзесяцігодкі, непадалёк ад бальніцы, беражна захоўваецца абнесеная агароджай сціплая магіла Наталлі Аляксандраўны Пушкінай, унучкі вялікага рускага паэта.

Я не спыняўся б тут на такім недарэчным вывучэнні літаратуры ў тагачаснай школе, калі б яно не абакрала духоўна на ўсё жыццё некаторых маіх аднагодкаў, якім «мечты поэзии, создания искусства восторгом сладостным... ум не шевелят...» Можа таму і палюбіў я так Лермантава, што мне пашчаслівілася пазнаёміцца з ім яшчэ да таго, як мы «прайшлі» ў школе творчасць «дваранскіх» пісьменнікаў.

Хаця я пасябраваў з Лермантавым задоўга да знаёмства са сваімі нацыянальнымі паэтамі, я перакананы, што толькі дзякуючы яму вельмі рана ўспрыняў блізка да сэрца творчасць Максіма Багдановіча.

У юнацтве мяне захапляла натуральнасць і незвычайная разнастайнасць лермантаўскіх вобразаў:

Луна катится в зимних облаках,
Как щит варяжский или сыр голландской,

іх гукавая і зрокавая дакладнасць:

Заскрипели
Полозья по сугробам, как резец
По мрамору...

Спачатку мяне, беларуса, бянтэжыў дзіўнаваты зварот вялікага рускага паэта да Расіі, якую ён называў «нямытай». Толькі пасля таго, як я многа разоў перачытаў яго творы, лісты і артыкулы пра ягонае жыццё, я зразумеў глыбокі сэнс шчырага лермантаўскага прызнання:

Люблю отчизну я, но странною любовью!

За абуджэнне ў маёй душы пачуцця сыноўняй вернасці радзіме я перш за ўсё абавязаны Лермантаву, у прыватнасці горскай легендзе «Уцякач».



Яшчэ ў маленстве Лермантаў пазнаёміў мяне з маляўнічымі краявідамі Расіі. Упершыню я адчуў гэта ўлетку 1941 года, пехатой ідучы па яе цэнтральных абласцях. У тую суровую пару не раз успаміналіся лермантаўскія радкі аб радзіме:

...я люблю — за что не знаю сам? —
Её степей холодное молчанье,
Её лесов безбрежных колыханье,
Разливы рек её подобные морям...
Просёлочным путем люблю скакать в телеге,
И, взором медленным пронзая ночи тень,
Встречать по сторонам, вздыхая о ночлеге,
Дрожащие огни печальных деревень;
Люблю дымок спаленной жнивы,
В степи ночующий обоз,
И на холме средь желтой нивы
Чету белеющих берёз.

Калі ад сумных вестак і ад ветру затуманьваліся слязьмі вочы, гэтай «четой белеющих берез» здавалася кожнае дрэва на Арлоўшчыне ці ў вёсках Тамбоўшчыны.

Фашысцкія зграі рваліся да Масквы. Мы адыходзілі на ўсход па дарогах Пензеншчыны, набліжаючыся да лермантаўскіх мясцін. Аднойчы ў другой палове дня з галавы калоны, якая расцягнулася на маршы, імгненна перадаўся па радах вокліч: «Лермантава! Лермантава!»

Як па камандзе, адразу ж выпраствалі плечы і выцягвалі шыі стомленыя паходам былыя беларускія студэнты, трымаючы раўненне на рускае сяло, дахі якога відаць былі ў нізіне, воддаль ад шляху. Не адзін я тады шкадаваў у душы, што дарога пралягла міма гэтай свяшчэннай мясціны.

Прайшоўшы яшчэ кіламетраў дванаццаць, мы спыніліся ў вёсцы на прывал. Я даведаўся, што тут застанемся начаваць, і папрасіў свайго малодшага камандзіра дазволіць мне збегаць у Лермантава. Ён далажыў пра гэта камандзіру дывізіёна. Цяпер я ўяўляю, якой незвычайнай і дзёрзкай была па тым часе мая просьба.

Мяне выклікаў камандзір дывізіёна. Калі я ўвайшоў у хату, ён устаў з-за стала (прафесійная звычка былога дырэктара сярэдняй школы: мы ведалі, што наш камандзір да пачатку вайны працаваў дырэктарам школы ў Арле і выкладаў гісторыю).

— Дык ты, Аўрамчык, хочаш збегаць у Лермантава?..

Я разгубіўся і не памятаю, што адказаў яму.

— Ты беларус...— ужо не пытаючы, а сцвярджаючы, паціху прамовіў ён і, адвярнуўшы твар, паглядзеў у акно.

Я заўважыў, што вочы яго павільгатнелі.

Журботнымі вачыма на мяне глядзела цяпер сама Расія.

— А што, калі цябе затрымаюць?.. Палічаць дызертырам... Дый для мяне будуць непрыемнасці...— зноў парушыў цяжкое маўчанне камандзір.

Пальцы яго левай рукі нервова барабанілі па стале. Раптам ён падняў руку, глянуў на гадзіннік і спачатку неяк няўпэўнена сказаў: «Пазнавата», а потым больш рашуча:

— Ну, што ж, ідзі!.. Толькі будзь асцярожны...

Я зайшоў у хату, дзе мы прыпыніліся, з рэчавага мяшка ўзяў у кішэню адзіны мой дакумент — студэнцкую заліковую кніжку і не пайшоў, а пабег назад бальшаком, па якім нядаўна прайшла наша калона.

Бег, нідзе не спыняючыся, аж да самага павароту дарогі на

Лермантава. Толькі тут прыпыніўся, каб перавесці дух. І адразу ж успомнілася, з даўно вычытанага, што некалі на гэтым павароце дарогі тарханаўскія сяляне знялі з воза труну, запаяную ў цяжкую свінцовую скрыню, і адсюль неслі на руках у сяло астанкі Лермантава.

Вось ён, дарагі майму сэрцу куток радзімы, дзе прайшло маленства любімага паэта. Сюды ён прыязджаў у госці да бабулі. Тут яго магіла.

Паабапал маленькай рачулкі, якая перад плацінай разлілася ў вялікую сажалку, цягнуцца дзве вясковыя вуліцы. На пагорку за сялом — стары парк і ў ім высокі дом з мезанінам і балконам на калонах. Мімаволі прыгадваюцца словы паэта:

...высокий барский дом
И сад с разрушенной теплицей;
Зелёной сетью трав подёрнут спящий пруд,
А за прудом село дымится — и встают
Вдали туманы над полями.

Падыходжу да будынка. На ганку сядзіць стары. Я вітаюся і пытаю, як зайсці ў музей.

— Позна ўжо, сынок... Музей зачынены...

Стары з нейкай цікаўнасцю аглядае мяне з ног да галавы. Відаць, у яго выклікаў спачуванне разгублены выраз майго твару і выгляд салдата ў зашмальцаванай кавалерыйскай куртцы.

— Адкуль ты ідзеш, сынок?

Я называю вёску, у якой мы спыніліся.

— Ажно адтуль ішоў, каб толькі паглядзець музей?! — здзіўляецца ён і пасля некатарага роздуму дастае ключ, нерашуча адмыкае дзверы.

— Зайдзі, сынок... Толькі асабліва доўга не бадзя...

Я нясмела пераступаю парог. Спачатку мне ўсё здаецца, што дзесьці тут за сцяной працуе ў гэты час гаспадар. Потым я, нарэшце, смялею, адчуўшы сябе адзіным наведвальнікам гэтага дома, у якім ад усяго павявае веліччу і вечнасцю.



Лермантава (Тарханы). Ставок.
Фота **Д. Шварцмана** (1938 г.).

Мне могуць пазайздросціць многія. Відаць, рэдка каму ў жыцці пашчаслівілася так, як мне, быць адзін на адзін сярод дарагіх сэрцу рэліквій.

П'яны ад шчасця, я забыў нават, што ў музеях забаронена кратаць рукамі экспанаты, і не толькі аглядаю з усіх бакоў карціны, намаляваныя Лермантавым і фотакопіі яго твораў, але і прабую навобмацак рэчы, да якіх некалі дакранаўся паэт.

З вялікай сталовай, абсталяванай мэбляй з карэльскай бярозы, дзе ў прасценках размешчаны партрэты Лермантава і яго родных, я пераходжу ва ўтульны гасціны пакой са шклянымі дзвярыма на веранду. Усё ў ім расказвае пра жыццё паэта ў Пецярбурзе. Тут ужо мяккая лакіраваная мэбля з пазалочанай аздобай і блакітнай абіўкай.

Побач з гасціным пакоем невялікая спальня, у якой партрэты і карціны, намаляваныя Лермантавым, нагадваюць пра яго высылку на Каўказ. Значнае месца тут адведзена экспазіцыі «Барадзіно». Сярод карцін, гравюр і літаграфій з адлюстраваннем Масквы, Барадзінскай бітвы, асобных эпізодаў вайны 1812 года і яе герояў — словы Лермантава:

Уж постоим мы головою
За родину свою!

Мне здаецца, што Лермантаў толькі нядаўна пакінуў гэты пакой, каб стаць побач з абаронцамі Масквы.

Мы долго молча отступали,
Досадно было, боя ждали...

І я адчуваю сябе ніякавата. Мы ж і цяпер усё яшчэ адыходзім на ўсход...

Думка пра старога, які сядзіць на ганку, прымушае мяне спахапіцца: ён жа прасіў, каб я асабліва доўга не затрымліваўся... І я хутчэй пераходжу ў былую чайную, дзе прадаўжаецца расказ аб знаходжанні паэта ў Пецярбурзе, а потым — у былы класны пакой з экспазіцыяй «Дуэль і смерць Лермантава».

Спяшаючыся, падымаюся па лесвіцы ў мезанін, дзе размешчаны яшчэ два невялікія пакоі Лермантава і два пакоі Арсеньевай. Ужо зусім наспех аглядаю іх і подбегам вяртаюся на ганак.

— Не спяшайся...— кажа стары.— Вярніся яшчэ і добра агледзь усё...

Пазней не раз, бывала, я з удзячнасцю прыгадваў іх абодвух — камандзіра дывізіёна і старога вартаўніка музея — двух простых і чулых рускіх людзей, якія, як быццам бы прадчуваючы, што мяне чакае жахлівае выпрабаванне на чужыне, хацелі паказаць мне гэтую святыню, каб я нідзе не забываў яе і заўсёды бачыў перад вачыма сваю Радзіму.

Я зноў уваходжу ў дом. Паспешліва абыходжу залы ўнізе і ўважліва аглядаю пакоі ў мезаніне.

Больш за ўсё затрымліваюся ў кабінеце паэта. Вокны адсюль выходзяць у парк. У гэтым пакоі захоўваюцца асабістыя рэчы Лермантава і яго родных. Падоўгу разглядаю аўтографы вершаў, напісаных у Тарханах. З хваляваннем стаю перад шкляной шафай з юнкерскім мундзірам Лермантава, пісталетамі і шаблямі. Аглядаю шкатулку з арэхавага дрэва, у якой Лермантаў захоўваў свае дакументы. Перад пляцоўкай з выхадам на лесвіцу заўважаю на стале высокі стос вялікіх карычневых паштовак з партрэтам Лермантава. Відаць, паштоўкі прадаюцца на ўспамін наведвальнікам музея... Але няма прадаўца, дый у мяне ў кішэнях пуста.

Пасля кароткага роздуму бяру адну паштоўку, згінаю яе ў дзве столкі і кладу ў залікову кніжку. Я не думаў тады, выходзячы з музея, што мне давядзецца на чужыне насіць каля свайго сэрца гэтую дарагую рэліквію, як маленькую часцінку далёкай Радзімы.

Абыходжу стары парк, які зарос акацыямі і бэзам. Мала ў ім засталося стогадовых дрэў. Але замест іх выраслі маладыя клёны і вязы. А вось і даўняя ліпавая алея. Мабыць, гэта тая самая алея, пад ценем якой любіў гуляць Лермантаў. Пад маімі нагамі шамаціць жоўтае лісце.

В аллею тёмную вхожу я; сквозь кусты
Глядит вечерний луч, и жёлтые листы
Шумят под робкими шагами...

Усё гэтак жа, як у часы Лермантава, над сажалкай шумяць «прыбярэжныя вербы». Каля самага берагу расце волат-дуб, пасаджаны некалі паэтам.

У сярэдзіне сяла побач з царквой знаходзіцца капліца, а пад ёй склеп сям'і Арсеньевых. Тут пахаваны Лермантаў. Над капліцай шуміць вячысты дуб. Нейчая клапатлівая рука пасадзіла яго, выконваючы жаданне Лермантава:

Надо мной чтоб вечно зеленея
Тёмный дуб склонялся и шумел.

Капліца зачынена. У ёй не закончаны падрыхтоўчыя работы да стагоддзя з дня смерці Лермантава.

Як вялікую культурную падзею збіраўся адзначыць савецкі народ гэтую дату. Урад прыняў спецыяльную пастанову аб увекавечанні памяці Лермантава, аб збудаванні яму помнікаў у Маскве і Ленінградзе. Быў адліты лермантаўскі юбілейны мядаль, выпушчана серыя паштовых марак, падрыхтавана юбілейнае выданне кніг. Але за месяц да гэтай даты гітлераўскія зграі напалі на нашу краіну.

Перад тым як пакінуць гэтыя мясціны, я яшчэ раз акідваю позіркам сажалку, сяло, парк, дом-музей...

И странная тоска теснит уж грудь мою...

Адсюль я панёс Лермантава за Урал.

У Какчатаве, дзе размясцілася наша часць, я дастаў два тамы яго вершаў і паэм. Кожны дзень пасля вучэбных заняткаў у стэпе, накідваўся ў казарме на гэтыя кнігі, як сасмяглы падарожнік накідваецца на ваду. Але надыходзіла раніца, і зноў не радавалі ні свежыя навіны, ні выгляд бяскрайніх стэпаў вакол гарадка. З аднаго боку яго маркотна шапоча над замерзлым возерам чарот, а з другога — над сопкай

...стоит одиноко
На голой вершине сосна
И дремлет, качаясь, и снегом сыпучим
Одета как ризой она.

Толькі мне здавалася, што гэтай сасне сніцца не «прыгожая пальма», якая расце «ў пустыні далёкай, у тым краі, дзе сонца усход», а наш гаманлівы беларускі бор.

У казахстанскіх стэпах, ад Какчатава да Акмолінска, я не раз прыгадваў родныя сасновыя бары. Але да іх трэба было прайсці нялёгкі шлях. Я не падазраваў нават, што для мяне ён будзе намнога даўжэйшы і пакутлівейшы, чым для іншых маіх землякоў, і што на працягу ўсяго яго са мной нязменна будзе ісці побач Лермантаў.

Мая дарога ў Беларусь пралягла праз Маскву. Пад Масквой толькі што былі разгромлены фашысцкія зграі. Увесь свет захапляўся гераізмам савецкіх войск. На вуліцах горада стаялі яшчэ супрацьтанкавыя «яжы». Тады я не ведаў, што героі-панфілаўцы, якія сваімі целамі перагарадзілі фашысцкім танкам шлях да Масквы, спявалі лермантаўскае «Барадзіно».

Наўрад ці гучалі ў тую пару так па-сучаснаму яшчэ чые-небудзь словы з тваіх вялікіх песняроў, Радзіма, як гучалі радкі Лермантава, якія былі на вуснах многіх тваіх разнамоўных сыноў:

Москва, Москва!.. люблю тебя, как сын,
Как русский,— сильно, пламенно и нежно!



Люблю священный блеск твоих седин
И этот Кремль зубчатый, безмятежный.
Напрасно думал чуждый властелин
С тобой, столетним русским великаном,
Померяться главою и обманом
Тебя низвергнуть. Тщетно поражал
Тебя пришлец: ты вздрогнул — он упал!
Вселенная замолкла... Величавый,
Один ты жив, наследник нашей славы.

Масква благаславіла мяне ў бой за Беларусь. Масква ўручыла мне новую грозную зброю.

Калі мы, вызваляючы ад фашысцкай нечысці рускія вёскі, апынуліся каля Селішча, за якім раскінуліся «вдали лесистые равнины... и Волхов за лесом шумел», я не мог не думаць пра Лермантава і пра сваю Беларусь: у Селішчы некалі служыў паэт у лейб-гвардыі Гродзенскім гусарскім палку. Казармы ў Селішчы былі разбураны, а дом, у якім жыў Лермантаў, знішчаны.

«За Лермантава!», «За Беларусь!» — паўтараў я тады сам сабе, падвешваючы да «Кацюшы» снарад за снарадам. І ў гуле снарадаў, услед за грозным голасам «Кацюшы» натхнёна чытаў Лермантава.

І пасля ўсяго гэтага дваццацідвухгадоваму юнаку апынуцца ў фашысцкім палоне! Ды яшчэ дзе б вы думалі... у Ноўгарадзе?!. У горадзе, які з маленства быў для мяне ўвасабленнем непакорлівасці і рускай вольнасці. У горадзе, які сустракаў, як пераможцу, Аляксандра Неўскага пасля разгрому нямецкіх псоў-рыцараў.

Я знаў, што Ноўгарад наведваў Лермантаў. Як быццам бы толькі што былі сказаны ім словы:

Приветствую тебя, воинственных славян
Святая колыбель!..
. . . . . . . . . . . . . . .
...где вольности одной
Служил тот колокол на башне вечевой,
Который отзвонил её уничтоженье
И сколько гордых душ увлёк в своё паденье!..
— Скажи мне, Новгород, ужель их больше нет?
Ужели Волхов твой не Волхов прежних лет?

Балюча было глядзець на гэты бязлюдны, дарэшты зруйнаваны горад, на яго старадаўні Крэмль, у варотах якога стаяла фашысцкая ахова. Сэрца аблівалася гарачай крывёй. На шашы за горадам сялянкі, усхліпваючы, выціралі слёзы, калі гітлераўцы прыстрэльвалі знясіленых палонных.

То хацелася крычаць на ўвесь голас:

Паденье одного бойца
Не может погубить мой край:
И так уж он у ног чужих,
Забыв победы дней былых!..
Новогородцы! обо мне
Не плачьте...

То раптам, як заклінанне, вусны шапталі:

Краснея догорает день
В тумане. Пусть он никогда
Не озарит лучом своим
Густой новогородский дым...

І тады, як страшны папрок нам, успрымаліся словы Лермантава:

Сыны снегов, сыны славян,
Зачем вы мужеством упали?

Аднойчы да глыбіні душы ўзрушыў мяне сваёй натуральнасцю і праўдападобнасцю адзін лермантаўскі вобраз, якому ніколі да гэта-

га я не аддаваў належнай увагі. На абочыне дарогі ляжала змяя, на якой сярэбраным адлівам блішчэла луска, як блішчыць «разбитый меч, оставленный бойцом, в густой траве на поле роковом».

Нідзе я не адчуваў так побач з сабой Лермантава, як у няволі, на чужыне. У гэтых абставінах асабліва абвострана ў чалавека пачуццё да бацькаўшчыны, ад якой ён сілком адарваны. Усе яго думы цяпер толькі пра яе, далёкую і непаўторна прыгожую. Не раз, гледзячы на купку чорных ад копаці нязграбных, пакручастых хваінак, што раслі непадалёк ад шахцёрскага лагера ў Руры, я з журбой прыгадваў гонкія сосны роднага краю. Непрывычаены да чужой гнілой зімы з волкім снегам і дажджом, я ў душы мроіў аб нашых маразах і завеях, паўтараючы ўслед за Лермантавым:

Прекрасны вы, поля земли родной,
Ещё прекрасней ваши непогоды...

Мне чамусьці ўяўлялася, як там прагнай ганнёю бягуць ваўкі «на место битвы роковой», дзе чорны груган ужо чысціць крыважэрную дзюбу аб жорсткія сукі дрэва.

У памяці ажывала родная Беларусь, яе зімовыя пейзажы... Я адчуваў, як там блукаюць па загуменні галодныя ваўкі і ў простым і ў пераносным сэнсе слова.

Зима. Из глубины снегов
Встают чернея пни дерев,
Как призраки, склонясь челом
Над замерзающим Днепром.
Глядится тусклый день в стекло
Прозрачных льдин — и занесло
Овраги снегом.

Родны край паўставаў перада мной не толькі таму, што ў гэтых радках я пазнаваў знаёмыя з маленства краявіды... Ажывала ў памяці Беларусь і таму, што ў змрочнае падзямелле Рура, за тысячы кіламетраў далятала да нас водгулле яе гераічных спраў. Нават там, на чужыне, было вядома, як грозна ашчацініліся яе дрымучыя лясы, з-за якіх «огнём горя, выходит красная заря». Да нас даносіліся чуткі, што ў беларускіх барах

Отчизны верные сыны
Ещё надеждою полны.

Я ведаў, што яны пакінулі родныя вёскі і гарады,

Чтоб не промчалися их дни
Под самовластием чужим,
Чтоб не склоняться вечно в прах,
Чтоб тени предков, из земли
Восстав, с упрёком на устах,
Тревожить сон их не пришли!..

Зайздросцячы ім, я са шкадаваннем мог толькі сказаць сам сабе:

Дай поклониться мне Днепру...
Там я родился — там умру!

Дух гордасці і мяцежнай непакорлівасці, якім прасякнута лермантаўская паэзія, асабліва блізкі чалавеку ў няволі.

Сустракаючы здраднікаў, якія, як нелюдзі, выслужваліся перад нямецкімі фашыстамі, страціўшы ўсялякае пачуццё чалавечай годнасці, прыгадваліся словы вялікага паэта:

...с рабским униженьем,
Прикрыв мундиром сердце подлеца,—



Искать чинов, мирясь с людским презреньем,
И поклоняться немцам до конца...

Каб толькі як-небудзь апраўдаць сваю здраду, гэтыя нелюдзі распаўсюджвалі чуткі пра тое, што бацькаўшчына жорстка пакарае сваіх сыноў, якія трапілі ў палон. Часам пасля гэтага ў душу закрадваліся сумненне і разгубленасць. Тады побач з'яўляўся Лермантаў, ужо зусім інакшы:

Гляжу на будущность с боязнью,
Гляжу на прошлое с тоской
И, как преступник перед казнью,
Ищу кругом души родной.

Але ў цёмным штрэку малады канагон быў адзін на адзін з канём, які нават не разумеў на чужой мове воклічаў «тпру» і «но». Адзінокага юнака апаноўвала роспач:

И скушно и грустно! — и некому руку подать
В минуту душевной невзгоды...
Желанья... что пользы напрасно и вечно желать?
А годы проходят — все лучшие годы!

Надыходзіла нейкае незразумелае здранцвенне. Усё было абыякава. Прытупляліся ўсялякія пачуцці. Мне здавалася, што ніхто не перадаў так трапна, як Лермантаў, гэты стан чалавечай душы:

Есть время — леденеет быстрый ум;
Есть сумерки души, когда предмет
Желаний мрачен: усыпленье дум;
Меж радостью и горем полусвет;
Душа сама собою стеснена,
Жизнь ненавистна, но и смерть страшна...

Потым марудна праяснялася думка, імкліва ўздымалася паводка пачуццяў. Здаецца, апраўдваўся б нямаведама перад кім:

Меня могила не страшит.
Там, говорят, страданье спит
В холодной вечной тишине,
Но с жизнью жаль расстаться мне;
Я молод — молод,— знал ли ты,
Что значит молодость, мечты?

І тут ужо напрошвалася само сабою:

И если б не ждал я счастливого дня,
Давно не дышала бы грудь у меня!

А паводка пачуццяў цераз край захліствала душу. Хацелася «дерзко бросить... в глаза» кожнаму сустрэчнаму гітлераўцу лермантаўскі «железный стих, облитый горечью и злостью»:

Но знай, что жизни мне не жаль,
А жаль лишь то, что час мой бил,
Покуда я не отомстил;
Что не могу поднять меча.
Что на руках моих, сплеча
Омытых кровью до локтей
Злодеев родины моей,
Ни капли крови нет твоей!..

Калі беларускага юнака, які праз лермантаўскія пераклады некалі ўпершыню пазнаёміўся з «Горнымі вяршынямі» Гётэ і «Сасной» Гейнэ, на радзіме гэтых паэтаў ад імя «вялікай Германіі» бязлітасна лупцавалі іх суайчыннікі — штайгеры і канваіры, пад смех самаздаволеных нямецкіх бюргераў, ён, абражаны і пакрыўджаны, не мог

не прыгадаць сабе радкі Лермантава, у якіх паэт як быццам бы звяртаўся да нямецкага народа:

Мне хочется сказать великому народу:
Ты жалкий и пустой народ!
Ты жалок потому, что Вера, Слава, Гений,
Всё, всё великое, священное земли,
С насмешкой глупою ребяческих сомнений
Тобой растоптано в пыли.
Из Славы сделал ты игрушку лицемерья,
Из вольности — орудье палача...

Як у дажджавой кроплі пад промнямі сонца адлюстроўваецца ўсімі фарбамі вясёлкі навакольны свет, так у шматграннай паэзіі Лермантава адлюстроўваліся на чужыне настрой і пачуцці нявольніка. Яна пранікла ва ўсе тайнікі душы, абуджала думкі, падтрымлівала веру, жывіла мары.

Верш «Малітва» найлепш ахарактарызаваў бы ўсю цудадзейную сілу лермантаўскай паэзіі ў няволі. Нездарма я не раз паўтараў сам сабе гэты верш, як набожны шэпча святую малітву.

Паэзія Лермантава сваімі разнастайнымі адценнямі асвятляла самыя розныя падзеі, характарызавала з'явы, давала адказ на хвалюючыя пытанні.

Калі на захадзе марудзілі з адкрыццём другога фронту, успамінаўся з горкай іроніяй радок:

Союзники сбирались потаенно.

Калі адчувалася, як у хадзе падзей спее на зямлі помста фашызму, прыгадваліся словы:

Меж тем летят за годом годы,
Готовят мщение народы,
И пятый год уж настаёт...

На працягу пяці гадоў вайны, праз усе нягоды і выпрабаванні я пранёс партрэт Лермантава, які ўзяў у доме-музеі. Да яго ніколі не дакранулася на чужыне ніводная брудная рука. Ён захоўваўся ў сумцы ад савецкага працівагазу, паднятай на ланцугу пад столь шахцёрскай раздзявальні. Часам я перакладаў яго ў кішэню спяцоўкі і ў змрочным штрэку пры цьмяным святле шахцёркі разглядаў знаёмыя рысы дарагога твару.

Среди волнений жизни трудной,
Как талисман таинственный и чудный,

я захоўваў гэты партрэт. Я не веру ў прымхі, і, вядома, гэты «талисман таинственный и чудный» не прынёс мне ўдачы ў няволі. Але ў нейкай ступені ён сапраўды надзяляў мяне цудадзейнай сілай, напамінаючы аб далёкай Радзіме. З ім я адчуваў сябе ўладаром невычэрпнага багацця, якое нават у нявольніка не мог адабраць вораг і якім заўсёды можна было шчодра дзяліцца з таварышамі і аднадумцамі.

Я гляджу цяпер на гэтую карычневую гравюру з партрэта работы Гарбунова. Яна пажоўкла не столькі ад часу, колькі ад салёнай вільгаці рурскага падзямелля і цёплай пары шахцёрскай раздзявальні...

Мабыць, не адзін я сярод шматлікіх гарачых прыхільнікаў Лермантава з хваляваннем і замілаваннем успамінаю першае пасляваеннае выданне поўнага збору яго твораў у кардоннай вокладцы зялёнага колеру. Пазней былі іншыя, значна прыгажэйшыя выданні. Але мне чамусьці запала ў памяць менавіта першае пасляваеннае выданне. Яго зялёная вокладка і рамка па краях яе нагадваюць мне колер сасновых бароў роднага краю і тое акно, з якога я ў маленстве ўпершыню глянуў у свет лермантаўскай паэзіі.



А на светлым карэньчыку цёмна-зялёнае аконца, иадзеленае залатымі радкамі слоў на пяць шыбін, як быццам бы напамінае пра пяць доўгіх гадоў вайны, якія адарвалі мяне ад гэтага роднага краю, але не здолелі адлучыць ад Лермантава.

Пасля затхлага падзямелля няволі трапіўшы на Каўказ, я асабліва адчуў, як вольна дыхаюць лёгкія свежым горным паветрам і як загойваюцца раны сэрца. Як скрозь прызму глядзеў я на прыроду Каўказа праз вершы Лермантава, і мне зразумелы быў прыўзняты настрой паэта:

Вдали я видел сквозь туман
В снегах, горящих как алмаз,
Седой незыблемый Кавказ;
И было сердцу моему
Легко, не знаю почему.

Кожны раз, бываючы на Каўказе, я наведваў знаёмыя да драбніц лермантаўскія мясціны. Часта сядзеў каля помніка паэту ў Пяцігорску, любуючыся далёкім горным ланцугом, над якім пануе двухгаловая аснежаная вяршыня Эльбруса. Падоўгу прастойваў у журбе перад помнікам на месцы дуэлі паэта. Узбіраўся на вяршыню Машука і слухаў легенды пра Лермантава, якія расказвала стогадовая бабуля, што збірала зёлкі і паказвала ўнізе на магільніку месца, дзе спачатку быў пахаваны паэт.

У такія дні я, звычайна, зноў і зноў перачытваў творы Лермантава — і кожны раз успрымаў іх тут зусім па-інакшаму, пазнаючы ўсё новыя і новыя сцяжыны, па якіх некалі хадзіў паэт і яго героі. То паміж Машуком і Бештау, сярод сівога камення і вінаграднікаў, шукаў позіркам рэштні аула Бастунджы, то спыняўся перад галерэяй каля кісласернай крыніцы, дзе некалі княжна Мэры падняла і падала Грушніцкаму ўпушчаную ім шклянку.

Мабыць, нідзе на свеце не адчуеш так усю чароўнасць паэзіі Лермантава, як на Каўказе.

Не ведаю, як каму, а мне, калі я толькі ўбачу, як хмарка затрымліваецца на горнай вяршыні ці як мільгне ветразь у марской сінечы, адразу ж успамінаюцца радкі:

Ночевала тучка золотая
На груди утеса-великана,

або:

Белеет парус одинокой
В тумане моря голубом...

Кажуць, мілей усяго, хто любіць каго.

Лермантаў — мая першая любоў. А першая любоў запамінаецца на ўсё жыццё.

**Мікола АЎРАМЧЫК.**




Віталі **ВОЛЬСКІ**

# НА МАРАКАНСКАЙ ЗЯМЛІ

**ТАНЖЭР.** Над Міжземным морам вісела шэрая заслона.

Усе гэтыя дні было пахмурна. Паветра насычана халоднай вільгаццю. Але сёння раніцай, ледзь толькі мы прайшлі Гібралтарскі праліў, з'явілася раптам сонца. Над сінімі хвалямі бліскучае сіняе неба.

Атлантычны акіян сустрэў нас лагодна. І мы гэта ацанілі ў належнай меры. На тварах узніклі ўсмешкі. Сярод пасажыраў, якія выйшлі на палубу, запанаваў добры настрой.

Каля дванаццаці гадзін мы ўбачылі зямлю. З кожнай хвілінай яна ўсё бліжэй і бліжэй. Зямля «Эль Махрыба»!..

Па-арабску «Махрыб» значыць — «Захад». Раней пад гэтай назвай разумелі ўсе тры краіны Паўночна-Заходняй Афрыкі — і Туніс, і Алжыр, і Марока. Цяпер «Махрыбам» усё часцей называюць толькі Марока.

З трох братніх краін Марока — самая заходняя. Да яе берагоў і набліжаецца наш цеплаход.

Вырастаюць узгоркі з белымі будынкамі, зялёнымі пальмамі. Шматпавярховыя дамы спускаюцца па схілах да самай вады. На беразе каля набярэжнай стаяць радамі серабрыстыя цыстэрны.

Танжэр!

Я гляджу на сінюю бухту, на белы горад сярод жоўта-зялёных узгоркаў, на бязмежныя прасторы акіяна.

Пра гэтыя мясціны я чуў яшчэ ў школе. Назва Танжэра часта мільгала ў той час на газетных старонках у сувязі з міжнароднымі канфліктамі. Яна ўпаміналася і дома, у размовах дарослых. І нарэшце — антычныя міфы, якія мы вывучалі ў першых класах гімназіі.



Гэта ж тут, у ваколіцах Танжэра, які старажытныя грэкі называлі Тынгісам, знаходзіўся на беразе акіяна славуты «сад Гесперыд» з нямены славутымі «залатымі яблыкамі». Цяпер мы разумеем, што «залатыя яблыкі» былі, напэўна, звычайнымі апельсінамі. У старажытнай Грэцыі іх у той час яшчэ не ведалі. Чулі толькі розныя байкі ад выпадковых падарожнікаў. Байкі абуджалі фантазію народа, і вось плады, вядомыя цяпер кожнаму, набылі ў грэчаскіх міфах цудоўны, казачны характар.

У ваколіцах Танжэра дзейнічаў міфічны герой Геркулес. Тут жылі ў пячорах і хацінах, складзеных з каменняў, дзікія людзі, апранутыя ў звярыныя шкуры. Іх цару Аніцыю асілак Геркулес разбіў галаву доўбняй. Пра гэта таксама гавораць міфы.

На зары гісторыі Танжэр быў гандлёвым горадам, калоніяй фінікійцаў. Ён належаў Карфагену. У далейшым Танжэр знаходзіўся пад уладаю вестготаў, вандалаў, візантыйцаў, арабаў, партугальцаў, іспанцаў. У XVII стагоддзі яго прысвоіла Англія. З канца XVII і да XX стагоддзя Танжэр уваходзіў у склад Марока.

Стратэгічнае і эканамічнае значэнне Танжэра як міжнароднага порта ля ўваходу з Атлантычнага акіяна ў Міжземнае мора, на сутыку Еўропы і Афрыкі, увесь час узрастала. Барацьба і спрэчкі дзяржаў вакол Танжэра не спыняліся на працягу стагоддзяў. Нарэшце, у 1923 годзе ў Парыжы быў падпісан трактат, які абвясціў Танжэр і навакольную мясцовасць міжнароднай зонай з рэжымам адвечнага нейтралітэту. Фармальна Танжэр заставаўся пад суверэнітэтам Марока. У 1940 годзе іспанскія войскі акупіравалі Танжэр, але праз пяць год у горадзе была адноўлена міжнародная адміністрацыя. У 1956 годзе, пасля абвяшчэння незалежнасці Марока і ліквідацыі іспанскай зоны, Танжэр зноў увайшоў у склад уз'яднанай мараканскай дзяржавы.

Музаю далёкіх падарожжаў адзначаны гэты горад, так даўно вядомы гісторыі. Якія толькі судны не спыняліся ў танжэрскай бухце, пачынаючы ад галер фінікійцаў, старажытных грэкаў і рымлян, і да сучасных акіянскіх лайнераў. Вуліцы Танжэра нібы расчынены ў бясконцую далечыню, у шырокі свет.

Нездарма нарадзіўся ў гэтым горадзе Ібн-Батута, вялікі географ, нястомны даследчык і падарожнік, гонар арабскай сярэдневяковай навукі. Адсюль пачаліся яго далёкія і небяспечныя падарожжы. Пад канец жыцця ён пасяліўся ў мараканскім горадзе Фесе, дзе працаваў над запіскамі аб сваіх трыццацігадовых падарожжах. Ібн-Батута памёр у 1377 годзе, але працы гэтага славутага танжэрца засталіся цікавымі і для нашага часу.

**СЦЭНА НА МОЛЕ.** Пакуль я пра ўсё гэта думаў, стоячы на палубе і любуючыся прыгожай панарамай горада і порта, наш цеплаход прычаліў.

Па шырокаму молу, даўжынёю ў тысячу метраў, ехала некалькі машын. Вось яны спыніліся. З іх выскачылі людзі з бронзавымі тварамі, у высокіх ярка-чырвоных фесках і ў доўгіх карычневых бурносах з капюшонамі. Толькі адзін з іх у еўрапейскім касцюме.

Мараканцы спяшаюцца да нашага судна, на хаду аб нечым спрачаюцца і ажыўлена жэстыкулююць. Гэта — першыя мараканцы, якіх я бачу ў сваім жыцці. Схапіўшы фотаапарат, я здымаю іх зверху, з палубы.



Танжэр. Гасцей сустракае тут мараканскі аркестр.

Хочацца хутчэй на бераг, але наперадзе яшчэ непазбежныя таможныя працэдуры.

Унізе на моле з'явіўся мараканскі аркестр з чатырох чалавек. Музыканты ў белых чалмах і паласатых бурносах граюць на двух невялікіх дудках, накшталт флейты, і двух барабанах. Перад імі танцуе на асфальце босы юнак.

Ля трапа тоўпяцца пасажыры. Тут ідзе праверка заграніčных пашпартоў і міжнародных сертыфікатаў аб медыцынскіх прывіўках. Усім не церпіцца атрымаць пасведчанне на права высадкі. Трэба сказаць, што робіцца ўсе гэта даволі хутка.

Пасажыры спускаюцца ўніз, збіраюцца вакол музыкантаў. Шчоўкаюць затворы фотаапаратаў. Вулічная забава цягнецца даволі доўга.

На змену першаму аркестру з'явіўся другі. Гэтыя музыканты апрануты ва ўсё белае. «Узброеныя» кастаньетамі, яны то імкліва кідаюцца наперад у бурным, ваяўнічым тэмпе, то павольна адступаюць. У некаторых з музыкантаў чорныя твары неграў, другія падобны на жыхароў Паўднёвай Еўропы.

Тым часам падышлі аўтобусы. Яны спыніліся недалёка ад штабялёў з карою коркавага дуба. На аўтобусах надпісы арабскімі і лацінскімі літарамі:

«Тэтуан—Сеута».

Прывабна гучаць гэтыя словы! У аўтобусах нам трэба ехаць з порта ў горад.

**ЧЫКА, ЧЫКА...** Перад самым ад'ездам у машыну ўскочыў спрытны чалавек невялікага росту ў высокай ярка-чырвонай фесцы і карычневым бурносе паверх еўрапейскага касцюма.

— Бонжур, месье!.. Добры дзень, панове! — бойка сказаў ён з найграным паклонам.— Дазвольце адрэкамендавацца. Я — ваш гід. Мяне завуць Чыка. Абсалям Чыка!..

Чалавек у фесцы агледзеў прысутных хітраватым, дапытлівым позіркам цёмных вачэй і паўтарыў, усміхаючыся і падміргваючы:

— Чыка!.. Ведаеце?.. Чыка!..



Са штучным ажыўленнем ён раптам заспяваў джазавую мелодыю:

Чико, Чико
Из Порто-Рико...
Ты попробуй-ка
Такого поищи-ка...

Напяваючы куплеты, чалавек у фесцы сам сабе і дырыжыраваў. Я не верыў сваім вушам. Няўжо і тут «Чыка»?

Справа ў тым, што летась мне давялося жыць па-суседству з домам адпачынку. На танцпляцоўцы патэфон бясконца іграў гэтую пласцінку да позняй ночы. З таго часу прайшло больш паўгода. Я забыў неадчэпную мелодыю. І раптам зноў яе чую. І дзе ж? Не пад Мінскам, на танцпляцоўцы, а ў мараканскім горадзе!

Між тым, бестурботны гід спяваў далей, мімікай і жэстамі запрашаючы пасажыраў далучыцца:

Ах, Чико, Чико
Из Порто-Рико...

Пасажыры слухалі сур'ёзна. Ніхто не засмяяўся, ніхто не падхапіў. Можа таму, што не ўсе разумелі французскую мову, але Абсаляма Чыка гэта ніколькі не бянтэжыла.

— Вы прыехалі, панове, у Танжэр,— заявіў ён з апломбам.— Цудоўны горад! Дзвесце тысяч жыхароў! Міжнародны порт! Кожны кран можа падняць адначасова да дзесяці тон грузу! У мінулым — горад шпіёнаў і авантурыстаў, горад сусветных здзелак і смелых махінацый! Цяпер — гэта вароты ў нашу дзівосную, казачную краіну! Танжэр — горад кантрастаў, панове!.. Усход і Захад у розных спалучэннях! Горад спакуслівых прыгод! Яркае сонца, цудоўныя пляжы, выдатныя гасцініцы і пансіёны, ажыўлены гандаль! У Танжэры вы зможаце набыць каштоўныя мастацкія вырабы, унікальныя сувеніры! Хто цікавіцца, прашу звяртацца да мяне асабіста. Я ўсё растлумачу. Я ахвотна памагу кожнаму з шаноўных гасцей паасобку.

Машыны крануліся з месца пад акампанемент рэкламнага красамоўства нашага спрытнага гіда.

**ПЕРШЫЯ ЎРАЖАННІ.** Танжэр заліты сонцам. Усе дамы белага ці светла-жоўтага колеру. Вуліцы асфальтаваны, шырокія тратуары абсаджаны пальмамі, каля дамоў прысады.

На цэнтральных вуліцах размясціліся банкі, канторы гандлёвых прадпрыемстваў, кінатэатры. На ўскраінах — рыбакансервавыя, тэкстыльныя і скураныя заводы, тытунёвыя фабрыкі.

На знешнім абліччы Танжэра, буйнейшага горада на паўночным узбярэжжы Марока, адчуваецца ўплыў сучаснай цывілізацыі. Аднак на гэтых чыстых, еўрапейскіх з выгляду, вуліцах на кожным кроку сустракаюцца жанчыны ў цёмных чадрах, закручаныя з галавы да ног у белае адзенне, нібы ў прасціны.

Гараджанкі ў чадрах вядуць за руку дзяцей у еўрапейскіх касцюмчыках. Некаторыя жанчыны апрануты таксама па-еўрапейску, але твар усё роўна заслонены. Чадра, хоць і невялікая, лёгкая і тонкая, але ўсё ж такі чадра, і традыцыя фармальна захоўваецца.

— Прыгажосць мараканскай жанчыны не для ўсіх,— развязна і самаздаволена заяўляе Чыка.— Яна недаступна нясціпламу позірку. Прашу звярнуць увагу: чадра да самых вачэй — у дзяўчат і ўдоў. Чадра да носа — у замужніх жанчын.



Маці на вуліцы Танжэра.

З цікавасцю прыглядаюся я да мясцовых жыхароў. Тут шмат прыгожых людзей. Невялікі арліны нос, поўныя губы, смуглы, матавага адцення, авальны твар. Правільныя, высакародныя рысы. На дзіва яркія і выразныя вочы з мяккім вільготным бляскам.

Сустракаюцца часам і твары з вельмі цёмнай скурай. Аднак гэта зусім не негры. Гэта — мараканцы, сярод продкаў якіх былі негры. Іх называюць «чорнымі мараканцамі». Ад усіх іншых мараканцаў яны нічым не адрозніваюцца, акрамя колеру скуры, але на гэта ніхто не звяртае ўвагі. Гэта не мае ніякага значэння ні для іх саміх, ні для іх суседзяў, знаёмых і сваякоў са светлай скурай. «Чорныя мараканцы» лічаць сябе не горшымі за іх. Гэтак жа лічаць і ўсе іншыя.

На вуліцах Танжэра цікава ўсё. Кожны прахожы прыцягвае ўвагу. Хочацца фатаграфаваць усё, што трапляе ў поле зроку: і вулічны рух, і людзей, і будынкі.

З варот дома выходзіць маладая жанчына з хлопчыкам за спіною. Побач з ёю дзве дзяўчынкі.

— Мадам, дазвольце вас сфатаграфаваць? — пытаемся мы, набраўшыся смеласці.

Мараканка не пярэчыць. Яна спынілася з дзецьмі і цярпліва чакае. Цёмная чадра засланяе твар, але вочы глядзяць весела і прыветліва.

Малы ўтаропіўся ў аб'ектыў з выглядам поўнай абыякавасці. Дзяўчынка не адыходзіць ад маці, яна крыху ўстрывожана. Хіба не падобны гэтыя мараканскія дзеці, апранутыя па-еўрапейску, на дзяцей, якіх можна бачыць і на вуліцах Мінска?

Мы дзякуем жанчыне.

Такія шчаслівыя выпадкі здараюцца не вельмі часта. Звычайна, мараканкі не дазваляюць сябе фатаграфаваць. Вось, напрыклад, ідуць насустрач нам тры жанчыны. Твары ў дзвюх пад чадрамі. Адна нясе на руках дзіця. Трэцяя апранута па-еўрапейску, і твар у яе адкрыты. Заўважыўшы, што я ўзяўся за апарат, усе тры прыспешылі крок і, нібы па камандзе, павярнулі галовы ў другі бок.

З-за рогу суседняй вуліцы выходзіць яшчэ адна жанчына. З-пад шырокага белага пакрывала з таго боку, дзе павінна быць правая рука, вісіць сумка. Левай рукой жанчына прытрымлівае пакрывала так, каб ніжняя частка твару была заслонена. Следам за жанчынай ідзе сівабароды стары ў карычневым прасторным бурносе з капюшонам на галаве.

У горадзе шмат старых, паважных і самавітых. Амаль усе яны ў белых чалмах і карычневых бурносах. Рухі ў іх павольныя, нетаропкія, поўныя стрыманасці, пачуцця ўласнай годнасці. Наогул, тут ніхто і нікуды не спяшаецца.



**МАРАКАНСКІ ЧАЙ.** У кафэ «Султан Рыяд» гучаць мяккія, пяшчотныя мелодыі. Музыканты ў фесках сядзяць пасярод невялікага памяшкання. Вакол нізенькія столікі і канапкі на трох-чатырох чалавек.

На сценах вісяць старажытныя арабскія стрэльбы з даўжэзнымі ствaламі і перламутравымі інкрустацыямі на прыкладах, крывыя шаблі, кінжалы, гліняныя і драўляныя блюды.

Афіцыянт у белым адзенні і чырвонай фесцы прыносіць невялікія вузкія шклянкі з зялёным чаем. У кожнай шклянцы лісточкі мяты. Вельмі салодкі і духмяны мараканскі чай прыемна асвяжае рот і горла.

Абсалям Чыка тлумачыць нам, як трэба гатаваць чай па-мараканску. У медны чайнік засыпаецца зялёны чай і кладзецца столькі цукру, колькі можа змясціцца ў чайніку. Усё гэта заварваецца і настойваецца. Перад тым, як піць густы і гарачы сіроп, кідаюць у чайнік свежыя лісты мяты. У шклянку перад тым, як наліць чай, таксама кладуць мяту. Пасля таго, як выпіты першыя шклянкі, у чайнік кладзецца новая порцыя цукру і новыя лісткі мяты, наліваецца свежы вар. Чай больш не падсыпаецца.

Прыгатаваны такім спосабам чай з'яўляецца любімым нацыянальным напіткам.

Мараканцы ў кафэ пазіраюць на нас. Яны гучна сёрбаюць мятны чай, выцягнуўшы наперад губы і прыцмокваюць з вялікім задавальненнем. Мы п'ём з найменшай асалодай. Нам падабаецца мараканскі чай.

**ЗАКЛІНАЛЬНІК ЗМЕЙ.** На двары кафэ з'явіўся пажылы бербер з худым тварам, у бруднай белай чалме і карычневым бурносе. На плячах ён нясе на жэрдцы, нібы на каромысле, два круглыя плеценыя кошыкі. Яго суправаджаюць жанчына з бубнам і малады хлопец.

Бербер кладзе кошыкі на зямлю, здымае з аднаго з іх века і выцягвае адтуль змяю. Жанчына застукала ў бубен, спачатку павольна, потым усё хутчэй. Аднастайнае трапятанне бубна ў яе карычневых худых і брудных руках поўна нейкага нервовага напружання, трывожнага чакання, і гэтае пачуццё перадаецца прысутным.

Узяўшы змяю за шыю каля самай галавы, заклінальнік трымае яе ў выцягнутай руцэ. Павольна паварочваючыся ва ўсе бакі, ён паказвае змяю. Па выгляду гэта — гадзюка. Хвост яе сутаргава віхляецца. Раздвоены язычок высоўваецца з пашчы і трапечацца ў безупынным руху.

Заклінальнік наблізіў галаву змяі да свайго твару. Некалькі імгненняў змяя і яе гаспадар праніклівa глядзяць адзін аднаму ў вочы.

Нечаканы выпад змяі. Заклінальнік даў гадзюцы ўкусіць сябе за нос. На носе з'явілася ранка. Скура вакол гэтага месца пачырванела.

Бербер узяў пучок сухой травы і прыклаў да носа. Потым, трымаючы траву на далоні, падзьмуў на яе. Трава задымілася. Заклінальнік дзьмухнуў яшчэ раз. Трава ўспыхнула і згарэла на далоні перад тварам заклінальніка. Ён дзьмухнуў ізноў, і попел развеяўся ў паветры.

Бербер усміхнуўся і паказаў пальцам на свой нос. Са здзіўленнем



Танжэр. Заклінальнік змей.

мы пераканаліся ў тым, што ранка ад укусу змяі загаілася, нават пачырваненне на тым месцы знікла.

Усе заклінальнікі змей у Мароко — берберы, якія належаць да асобнай секты, ці брацтва. Яны лечаць мясцовых жыхароў ад змяіных укусаў, выступаюць на берберскіх народных святах. Паказваюць не толькі розныя фокусы, але і танцуюць з дзікім крыкам у шалёным тэмпе, пад акампанемент бубна, са змеямі ў руках і вакол шыі. Танцы са змеямі, відаць, перажытак нейкага старадаўняга рэлігійнага культу.

Забава тым часам скончылася. Бербер паклаў змяю ў кошык, закрыў яе векам.

Жанчына заўважыла, што я здымаю гэтую сцэну, і паспешна затуліла твар бубнам.

— Панове,— пачуўся голас Абсаляма.— Гэта не фокуснік. Гэта хакім, народны лекар, у суправаджэнні сваіх асістэнтаў, жонкі і сына. Ён дэманструе сваё прафесійнае майстэрства. Ён паказвае публіцы свае медыцынскія прыёмы, сваё ўменне залечваць і абясшкоджваць раны ад змяіных укусаў.

Гэта была першая і апошняя заўвага, зробленая нашым гідам дарэчы. На двары кафэ «Султан Рыяд» Абсалям Чыка з намі развітаўся.

— О рэвуар, месье,— сказаў ён, дакрануўшыся рукою да фескі.— Да пабачэння, панове! Мае абавязкі вычарпаны. Жадаю прыемна правесці вечар!

Мы выйшлі на вуліцу, і Абсалям нас пакінуў. Ён пайшоў у адзін бок, мы ў другі. Больш мы яго не бачылі.

За час сумеснай паездкі па горадзе Чыка нам вельмі надакучыў. Трымаўся наш гід больш чым вольна. Яго тлумачэнні і заўвагі былі амаль заўсёды банальныя і блытаныя, а часам проста недарэчныя і невуцкія. Сваёй балбатнёй ён часта перашкаджаў засяродзіцца, адхіляў увагу ад асноўнага, ад таго, чым сапраўды варта было пацікавіцца. Затое безупынна і настойліва рэкамендаваў асобных гандляроў і праз меру выхваляў іх тавары.

Мы развіталіся з нашым гідам не без задавальнення. Нарэшце можна будзе пахадзіць па вуліцах Танжэра самастойна, як сам захочаш, без надакучлівага і мітуслівага правадніка.

**НА ВЯЧЭРНІХ ВУЛІЦАХ.** Набліжаецца канец дня.

Уздоўж белай мураванай сцяны, за якой цямнеюць апельсінавыя



дрэвы, ідзе па асфальце мул. На ім сядзіць высока на нейкіх скрутках і мяшках жанчына. Узрост яе вызначыць немагчыма, бо яна, закручаная з галавы да ног у нешта цёмнае, сама вельмі нагадвае нейкі нерухомы скрутак. Твар яе заслонены пакрывалам.

За мулам ідуць маленькі ослік з кошыкамі па баках і малады высокі мужчына ў кароткім карычневым плашчы і белай чалме, канцы якой закручаны вакол шыі. На хударлявых, голых да калень нагах мужчыны — вялікія лямцавыя пантофлі.

Гэта — фелахі, сяляне з прыгараднай вёскі, якія спяшаюцца дамоў. У той момант, калі я іх здымаў, з-за сцяны на павароце вуліцы з'явілася ў мяккім вячэрнім змроку маладая жанчына ў паласатых штанах і пантофлях з загнутымі ўверх насамі. Белае пакрывала накінута на галаву і плечы, але твар адкрыты. Гэта было вельмі дарэчы, бо жанчына трапіла ў адзін кадр з сялянамі. Заўважыўшы нас, яна шпарка закрыла твар краем пакрывала, але спазнілася. Затвор фотаапарата шчоўкнуў раней.

Запаліліся каляровыя агні неонавых рэклам.

Магазіны поўны тавараў. Зіхацяць вітрыны. Прадаўцы ветлівыя і паслужлівыя. Гандаль ідзе і на мараканскія дургамы, і на французскія новыя франкі, і на амерыканскія долары — іх бяруць асабліва ахвотна. Але цэны тут вельмі высокія. У магазінах не відаць мясцовых жыхароў.

Міма бліскучых вітрын ідуць і едуць на аслах і мулах мараканцы, якія вяртаюцца з горада ў свае вёскі, але ніводзін з іх не спыняецца. Нікога не вабіць зманлівае багацце тавараў. Ніхто не заходзіць у гасцінна расчыненыя дзверы. Мясцовыя жыхары добра ведаюць, што ўсё гэта пакуль што не для іх. Раскошныя магазіны на цэнтральных вуліцах разлічаны больш на еўрапейцаў і амерыканцаў. Фелахі купляюць усё, што ім трэба, у маленькіх крамках на базары.

Да позняй ночы бадзяемся мы па вячэрніх вуліцах Танжэра. Яны жывуць сваім яркім, адменным, непрывычным для нас жыццём. Шкада з імі развітвацца, хаця б і на кароткі час, але адпачыць усё ж такі трэба.

Заўтра раніцою мы едзем у Тэтуан, галоўны горад былой іспанскай зоны Марока, які знаходзіцца за шэсцьдзесят кіламетраў ад Танжэра.

**РЫФСКІЯ ГОРЫ.** Сустрэчны грузавік вязе ў горад кару коркавага дуба. Мы часта бачылі гэты груз, які мае ў эканоміцы Марока даволі вялікае значэнне, і на дарогах і ў порце Танжэра. Кару коркавага дуба вывозяць у шмат якія краіны свету.

Абарваны хлапчук у белай лямцавай шапачцы на густых чорных валасах пасе на зялёным узгорку кароў. Часта сустракаюцца невялікія статкі авечак і коз. Сярод іх паходжваюць цыбатыя буслы.

Дробны белы рамонак і пушыстыя адуванчыкі бялеюць у сухой афрыканскай стэпавай траве. Выходзіць, што яны растуць і тут, на мараканскай зямлі!

Раней мы ехалі па хвалістай раўніне. Цяпер дарога ідзе ўгару, пачынае віцца зігзагамі. Машына падымаецца ўсё вышэй і вышэй. Робячы крутыя павароты, дарога перапаўзае цераз заходнія адгор'і Рыфскага хрыбта.

Мы набліжаемся да Тэтуана. Былая сталіца іспанскай зоны Ма-

рока знаходзіцца на ўзвышаным плато сярод гор, ля падножжа Джэбель Дэрса, за дзесяць кіламетраў ад Міжземнага мора. Горы абступілі Тэтуан з усіх бакоў.

Рыфскія горы!.. Гэта яны перад намі са сваімі вострымі вяршынямі, падобнымі на вярхушкі арабскіх шатроў, са схіламі, пакрытымі густым хмызняком.

Рыф... Гэтае слова значыць па-арабску — «пярэдні край», «граніца», «бераг». Так называлі арабы крайнія шатры свайго лагера, якія знаходзіліся на тым баку, адкуль можна было чакаць нападу ворагаў.

Назва «Рыф» замацавалася за ўсім Паўночным Марока, востры край якога выступае наперад ледзь не да самай Іспаніі. Гэтая горная мясцовасць, якая цягнецца ўздоўж узбярэжжа Міжземнага мора, служыла для жыхароў «Эль Махрыба» натуральным бар'ерам, першай лініяй абароны супраць навалы з Еўропы.

Я выходжу з машыны. Абапал дарогі растуць калючыя агавы і апунцыі. Завезеныя сюды некалькі стагоддзяў назад з Мексікі, гэтыя віды кактусаў добра прыжыліся ў Паўночнай Афрыцы. Іх даўно ўжо лічаць мясцовымі раслінамі.

Унізе пад намі аліўкавыя і апельсінавыя дрэвы. Струменіць плыткая, але імклівая горная рэчка, поўная светлых каменьчыкаў. Летам такія рэчкі перасыхаюць, і тады мясцовыя жыхары часта ходзяць і ездзяць па сухіх камяністых рэчышчах, як па дарогах.

Ранішні туман яшчэ не развеяўся. У шараватай смузе мігцяць дзе-нідзе па схілах гор светлыя кропкі. Гэта не пагаслі яшчэ агеньчыкі ў асобных доміках горнага паселішча, раскіданых даволі далёка адзін ад аднаго. Складзеныя з пабеленых каменняў, змацаваных глінаю, з пласкімі дахамі, яны выглядаюць здалёку, нібы белыя кубікі.

**ТЭТУАН.** У Тэтуане пануе белы колер. Бліскуча белыя дамы пад чыстым, бязвоблачным сінім небам. Белыя чалмы, белыя хусткі, белае прасторнае адзенне жанчын. І над усім — яркае сонца! Гэта надае гораду своеасаблівую чароўнасць.

У параўнанні з Танжэрам Тэтуан больш самабытны. Усходні каларыт адчуваецца тут значна мацней. Праўда, і тут у цэнтры горада — шырокія асфальтаваныя вуліцы з тратуарамі, з сучаснымі еўрапейскага тыпу будынкамі. І тут аўтамабілі розных марак, у тым ліку і нашы «Пабеды» і «Масквічы», магазіны з шыльдамі на арабскай і іспанскай мовах, з бліскучымі вітрынамі, з еўрапейскімі і амерыканскімі таварамі. І тут, нібы ў Парыжы, маленькія кафэ — столікі і крэслы стаяць пад тэнтам проста на тратуары.

Але варта адысці крыху ўбок, і вы адразу забываецеся на сучасную цывілізацыю. Перад вамі вузкія вулачкі з невысокімі белымі домікамі ў старадаўнім усходнім стылі: з пласкімі дахамі, з глухімі тоўстымі сценамі, з маленькімі аконцамі, якія глядзяць ва ўнутраны двор.

У Тэтуане, як і ў іншых гарадах Паўночнай Афрыкі, мінарэты шматлікіх мячэцяў не высокія, тонкія і вострыя, нібы іглы, як, напрыклад, у Стамбуле, а шырокія і чатырохкутныя, багата аздобленыя каляровай мазаікай.

У раёне «сук» (так называецца мясціна, што прылягае да базару) вуліцы нагадваюць галерэі, над імі, каб не дакучала бязлітаснае сонца, зроблены паветкі з бамбуку і трысця.



У цесным лабірынце гэтых вулачак пахне дублёнай скурай, кіслым малаком, аўчынай, часнаком, баранінай і апельсінамі. Тут прадаецца ўсё — і свежае мяса, і гатовыя гарачыя шашлыкі, нанізаныя на дроцікі, і алей, і цукар, і тканіны, і абутак, і гліняныя збаны, міскі, талеркі, медныя чайнікі, конаўкі.

Мараканцы — цудоўныя майстры па апрацоўцы скуры, па чаканцы металу. Тут вялікі выбар жаночага абутку, сумак і капшукоў з каляровай цісненай скуры, а таксама розных упрыгожанняў.

Вялікія кашы з фінікамі, фігамі, пладамі апунцыі, гранатамі, апельсінамі і ўсялякай гароднінай стаяць на бруку.

Стракаты, яркі, шматкаляровы натоўп запаўняе вуліцы. Жанчыны, закрытыя чадрой, едуць на аслах і мулах. Мужчыны ў белых і карычневых бурносах і джылабі, у белых чалмах і чырвоных феcках. На босых нагах і ў мужчын і ў жанчын — «бабушы», вялізныя пантофлі з загнутымі ўверх насамі. Гандляры запрашаюць пакупнікоў, хапаюць прахожых за рукі, за адзенне, крычаць і расхвальваюць свой тавар на ўсе лады. Гучаць арабская, берберская і іспанская мовы. Вельмі часта гучаць выразы «о, дона міа!» (о, пані мая!) і «о, ала!» (о, божа!), якімі багата перасыпаюць сваю гаворку тэтуанскія гандляры.

На гэтым маляўнічым, казачным фоне нейкімі чужароднымі здаюцца постаці маладых людзей каля матацыклаў. У іх чорныя вусікі, чорныя скураныя курткі, шлемы і крагі. Гэта — мараканская матарызаваная паліцыя. Пільна пазіраюць яны па баках, заўсёды гатовыя апынуцца там, дзе ўзнік непарадак ці парушэнне закону.

Часам праходзяць па вуліцах салдаты ў паходных камбінезонах, у зялёных ці малінавых берэтах. У іх таксама выгляд зусім сучасны.

На чатырохкутным мінарэце бліжэйшай да нас мячэці з'явіўся муэдзін, хударлявы стары з сівой казлінай барадою. Прыклаўшы рупарам рукі да вуснаў, ён прарэзлівым старэчым голасам закрычаў:

— Ля ілах іль ала, вэ Мухамед расуль ала! (Няма бога, акрамя бога, і Мухамед яго прарок!)

У Стамбуле, дзе я ўпершыню пачуў «азан», заклік муэдзіна, справа гэтая даўно механізавана. Там муэдзін і не думае з'яўляцца на мінарэце. Замест яго дзейнічае магнітафон з запісам голасу на плёнцы. Але ў Тэтуане заклік да малітвы робіцца добрасумленна, як у старыя часы. Крык муэдзіна гучыць над нашымі галовамі настойліва, патрабавальна.

На ўсіх тэтуанскіх мінарэтах з'явіліся ў тую ж хвіліну такія ж муэдзіны, сапраўдныя, з чорнымі і сівымі барадамі, і на ўсе галасы, у каторы ўжо раз, пракрычалі ўсё тыя ж словы.

Пяць разоў на дзень, у дакладна вызначаную гадзіну, павінен маліцца мусульманін. Гэта — малітвы «ас-субх» ці «аль-фаджр» на зары, «аз зухр» у поўдзень, «аль-аср» у другой палове дня, «аль-махрыб» пры заходзе сонца і «аль-ішаа» ў пачатку ночы.

І кожны дзень кожны прававерны спяшаецца ў мячэць. Калі ж ён не можа туды пайсці, то апускаецца на калені, дзе б яго ні застаў заклік, і, павярнуўшыся тварам да ўсходу, дзе знаходзіцца Мека, чытае ўголас адпаведную малітву, адбівае зямныя паклоны. Шум і гаман на вуліцах «сука» сціхае. Рух часова спыняецца.

Але вось прайшоў час малітвы. Людзі выходзяць з мячэці, узнімаюцца з калень, і ўсё зноў ажывае. Вуліцы зноў запоўніліся маляўнічым натоўпам. Усё тыя ж чалмы, фескі, бурносы, чадры, белыя пакрывалы...

Многія з прахожых нібы толькі што сышлі з даўно перагорнутых старонак гісторыі. Ці не з часоў халіфа Гаруна эр-Рашыда ходзіць па вузкіх вуліцах сярод белых дамоў пад зялёнымі пальмамі гэты вялікасны стары з барадою, белай, як снег, у белай чалме і белым бурносе?

А гэты яўрэй у чорнай лямцавай ярмолцы і карычневым бурносе з авечай шэрсці? Яму, напэўна, не менш, як тысяча год! Ён схіліўся над ганчарным начыннем, выстаўленым на зямлі, і выбірае сабе збан. Пастукае пальцамі па дне і прыкладзе збан да вуха. Чорныя з сівізною пэйсы, завітыя штопарам, звешваюцца над запалымі шчокамі. Адначасова пакупнік дамаўляецца аб нечым з прадаўцом-мусульманінам, апранутым у такі ж самы шырокі карычневы бурнос і з такімі ж бабушамі на босых нагах. Толькі на галаве ў прадаўца не чорная ярмолка, а чырвоная феска. Каб не гэта і каб не пэйсы, іх нельга было б адрозніць адзін ад аднаго. Яны выглядаюць як два браты.

У бабушах тут ходзяць амаль усе. Дзіўна, як гэтыя вялізныя пантофлі не падаюць з ног, асабліва калі гаспадар такога абутку сядзіць на асле ці на вярблюдзе. У бабушах не пабяжыш! Добра, што тут ніхто ніколі і нікуды не спяшаецца. Тэмп жыцця павольны.

Павольна рухаюцца людзі. Павольна ідуць аслы, мулы і вярблюды. Здаецца, што і час у Тэтуане цячэ павольна і непрыкметна, як плынь спакойнай, глыбокай і паўнаводнай ракі.

**БЕРБЕРЫ РЫФА.** Чадру носяць у Тэтуане толькі гарадскія жанчыны. Сялянкі з рыфскіх вёсак твар не закрываюць.

Вось едзе на шэрым осліку жанчына з адкрытым тварам, захутаная ў белыя пакрывалы. Ногі ў жанчыны абкручаны мяккай скурай, абвязанай стужкамі. На галаве — вялізны саламяны капялюш, упрыгожаны шнурамі з рознакаляровай шэрсці. За жанчынай едзе пажылы рыф у такім самым вялізным саламяным капелюшы, толькі без шнуроў. Гэтым мужчынскія капелюшы адрозніваюцца ад жаночых. Белая хустка асабліва адцяняе здаровы залацiста-ружовы загар, які пакрывае твар жанчыны. Вочы ў яе — нябесны блакіт.

Сярод вясковага насельніцтва Рыфскіх гор сустракаецца нямала бландынаў і шатэнаў з блакітнымі і шэрымі вачыма. Хто ведае, быць можа гэта — адзінае, што засталося тут ад вандалаў, якія прыйшлі сюды з берагоў Балтыйскага мора і дзяржава якіх праіснавала ў Паўночнай Афрыцы з 439 по 533 год? Самі вандалы зніклі ў віры далейшых гістарычных падзей, у змене дзяржаўных пераўтварэнняў, растварыліся ў масе мясцовага і без таго мяшанага насельніцтва.

Становішча рыфскай жанчыны адрозніваецца ад становішча жанчыны ў традыцыйным гарадскім мусульманскім асяроддзі Усходу. У сямейным жыцці рыфская сялянка мае роўныя правы з мужчынам — бацькам, мужам, братам.

Рыфы займаюцца садоўніцтвам і жывёлагадоўляй. Каля рыфскіх вёсак растуць вінаграднікі, аліўкавыя і фігавыя сады. Па схілах гор пасуцца авечкі і козы.

Грамадскі ўклад рыфаў застаўся нязменным і непарушным на працягу стагоддзяў. Панаванне ў Паўночнай Афрыцы фінікійцаў, рымлян, вандалаў, візантыйцаў, туркаў, французаў, іспанцаў у іх гістарычнай паслядоўнасці мала адбілася на ўнутраным жыцці і побыце свабодалюбівых горных плямён Рыфа.

У рыфскіх берберау існуюць з даўніх часоў свае традыцыйныя



законы. Племя падзяляецца на асобныя групы па месцу жыхарства, на роды і сем'і. Важныя пытанні абмяркоўваюцца на агульных сходах.

Калісьці рыфы былі язычнікамі, потым прынялі хрысціянства. Пасля заваявання Паўночнай Афрыкі арабамі рыфы, як і ўсё іншае берберскае насельніцтва, сталі мусульманамі.

Сярод рыфскіх плямён да гэтага часу існуе старадаўні звычай кроўнай помсты. Ад гэтага звычаю гіне нямала мужчын у поўным росквіце сіл. Толькі такія важныя для ўсяго народа падзеі, як вайна супраць чужаземцаў, часова перапыняюць кроўную помсту. На гэты час старыя спрэчкі і разлікі паміж асобнымі родамі і сем'ямі забываюцца і ўсе рыфскія плямёны аб'ядноўваюцца для сумесных дзеянняў.

У 1919 годзе пачалося паўстанне горных плямён Рыфа супраць улады іспанскіх каланізатараў. Неўзабаве гэтае паўстанне ўзначаліў Абд-эль Керым. Ён разграміў іспанскія войскі і быў выбраны кіраўніком створанай паўстанцамі незалежнай дзяржавы Рыф. Сталіцай дзяржавы стаў акружаны садамі горад Шэшаўэн, які знаходзіцца ў маладаступнай горнай мясцовасці.

Каланізатары занепакоіліся. На дапамогу іспанскім войскам, якія не маглі адны ўправіцца з адважнымі рыфамі, прыйшлі французскія. Перад тварам агульнай небяспекі канкурэнты аб'ядналіся. Пасля сямігадовай зацятай барацьбы рыфы былі ў 1926 годзе разбіты. Войскі каланізатараў узялі Шэшаўэн. Абд-эль Керым трапіў у палон і быў высланы французскімі ўладамі на востраў Рэюньён у Індыйскім акіяне. Правадыр рыфаў памёр у лютым 1963 года ў Каіры, дзе ён жыў у апошні час. Яму быў восемдзесят адзін год.

**КАСБА, МЕДЫНА І МЕЛАХ.** Тэтуан падзяляецца, як і кожны старажытны паўночна-афрыканскі горад, на тры асноўныя часткі — «касбу», «медыну» і «мелах».

«Касба» размешчана на ўзвышшы, крыху ў баку ад жылых кварталаў. Тут знаходзяцца рэзідэнцыя мясцовага начальства, адміністратыўныя ўстановы, ваенныя казармы. Гэтая ўмацаваная, акружаная мураванаю сцяною з вежамі частка горада адпавядала старадаўняму рускаму Крамлю. Пачатковае значэнне слова «касба» — умацаванае паселішча, замак.

У непасрэдным суседстве з «касбой» знаходзіцца «медына» — жылыя кварталы горада з мусульманскім насельніцтвам. Гэтыя асноўныя часткі горада былі ў старыя часы ізаляваны высокімі сценамі і злучаліся між сабою брамамі, якія называюцца па-арабску — «баб». Такія брамы — высокія і прыгожыя, багата аздобленыя каляровай керамікай — захаваліся ў старых мараканскіх гарадах, асабліва такіх, як Тэтуан, Шэшаўэн, Маракеш, Фес, Рабат, у даволі вялікай колькасці. Цяпер гэтыя брамы маюць значэнне толькі як гістарычныя помнікі. Многія з іх з'яўляюцца сапраўдным цудам архітэктурнага майстэрства, таксама як і шматлікія мячэці і фантаны з цудоўнай мазаікай.

Да «медыны» прымыкае «мелах» — частка горада, у якой жывуць яўрэі. У Тэтуане яўрэйскі раён мала чым адрозніваецца ад мусульманскага. Тыя ж вузкія вуліцы, тыя ж невялікія, старадаўняга тыпу дамы. На людзях тыя ж бурносы, джылабі і бабушы. Толькі на галаве замест чалмы ці фескі — чорная ярмолка. Людзей, апрану-

тых па-еўрапейску, на вуліцах «мелаха» значна больш, чым у мусульманскай частцы горада.

Тут жыве шмат выдатных майстроў — шаўцоў, краўцоў, кавалёў, меднікаў, апрацоўшчыкаў металу, будаўнікоў, ювеліраў. Адны працуюць на розных дробных прадпрыемствах, другія ў сваіх уласных майстэрнях, трэція ў шматлікіх крамках на базары.

На вуліцах «мелаха» часта гучыць іспанская мова, бо продкі тэтуанскіх яўрэяў перасяліліся сюды з Іспаніі.

На старых яўрэйскіх дамах прыбіты да вушакоў уваходных дзвярэй «мезузы» — бляшаныя пласцінкі, пад якімі знаходзяцца кавалкі пергаменту з біблейскім тэкстам. На сценах дамоў, дзе жывуць іспанцы, прымацаваны крыжы. На мусульманскіх дамах нічога няма. Такім чынам, адразу відаць, каму належыць дом: яўрэю, католіку ці мусульманіну. У Тэтуане пяцьдзесят мячэцяў, восем сінагог і тры касцёлы.

Гарадское насельніцтва Тэтуана ў асноўным андалузскага паходжання. Іх так і называюць — «андалузцы». Продкі іх перасяліліся з Андалузіі, паўднёвай Іспаніі.

З прычыны праследаванняў перасялілася ў Марока з Іспаніі і значная частка яўрэяў. Хоць гэта і было некалькі стагоддзяў назад, але бытавой мовай яўрэяў у гарадах Марока застаўся і да гэтага часу «эспаньёль». Толькі ў далёкіх вёсках яўрэі гавораць між сабой па-арабску ці па-берберску. Іх продкі перасяліліся сюды з Палестыны значна раней, пасля разбурэння Іерусаліма рымскім імператарам Цітам. Яны нічым, акрамя рэлігіі, не адрозніваюцца ад мараканцаў. У Тэтуане яўрэі складаюць адну дзесятую частку ўсяго насельніцтва горада.

Побач з «касбой» і «медынай» узнік у нядаўнія часы і еўрапейскі раён Тэтуана, пабудаваны іспанскімі каланізатарамі. У гэтым новым горадзе чыстыя шырокія вуліцы, сучасныя, добраўпарадкаваныя будынкі.

**ШКОЛА І ПАЛАЦ.** У Марока падтрымліваюцца і заахвочваюцца традыцыі старадаўняга народнага мастацтва.

Мы наведалі ў Тэтуане школу прыкладнога мастацтва. Тут вучацца ткаць цудоўныя дываны, вырабляць кераміку і выразваць па дрэву.

Керамічнае мастацтва дасягнула ў Марока яшчэ ў старадаўнія часы вельмі высокага ўзроўню. Бліскучыя каляровыя кафлі, якімі аздабляюцца ўсе будынкі, захоўваюць свой колер на працягу трохсот-чатырохсот год.

У школе на сцяне вісіць вялізны дыван. Адзін з настаўнікаў тлумачыць нам, што гэты дыван зрабілі чатыры вучні старэйшых класаў на працягу трох месяцаў.

У школе вучацца дзеці ва ўзросце ад шасці да пятнаццаці год. Рабочы дзень вучня — чатыры гадзіны. Астатні час прысвечаны агульнаадукацыйным прадметам і гульням. Гэтая школа — адзіная ў Марока. З яе выходзяць высокакваліфікаваныя майстры.

У высокім майстэрстве выкладчыкаў школы мы асабліва пераканаліся, наведаўшы каралеўскі палац у Тэтуане. Нядаўна яшчэ гэта была рэзідэнцыя халіфа. Так называўся намеснік караля ў іспанскай зоне Марока. Ён прызначаўся каралём па ўзгадненню з іспанскімі ўладамі. Пасля ўз'яднання Марока разам з ліквідацыяй іспанскай зоны была скасавана і пасада халіфа. Цяпер палац з'яўляецца каралеўскім. У ім спыняецца кароль, калі прыязджае ў Тэтуан. Калі кароль адсутнічае, палац адкрыты для прыватных наведвальнікаў. Ля ўваходу стаіць вартавы — вялізны чорны мараканец у гвардзейскай форме.

Палац быў пабудаваны ў семнаццатым стагоддзі, але пасля абвяшчэння незалежнасці Марока афармленне ўнутраных памяшканняў было нанова створана рукамі выкладчыкаў тэтуанскай школы прыкладнога мастацтва.

Асабліва моцнае ўражанне зрабіла на нас афармленне троннай залы. Кераміка цудоўна спалучаецца з асаблівасцямі мясцовага архітэктурнага стылю, вядомага пад назваю «маўрытанскага», з яго тонкімі і лёгкімі калонамі, высокімі стрэльчатымі аркамі. Тут няма нічога лішняга, цяжкага, пампезнага. Усё грацыёзна, зграбна, далікатна. Ніякіх малюнкаў, ніякіх дзяржаўных сімвалаў, толькі арнаментальнае аздабленне, высакароднае і простае.

Дзівішся і забываеш, што перад табою толькі гліна, дрэва і алебастр. Здаецца, што гэта карункі — лёгкія, празрыстыя. Здаецца, дыхнеш — і яны зварухнуцца.

**ХТО ТАКІЯ МАРАКАНЦЫ?** Мараканскі народ, гэта — арабы і берберы.

У Марока берберау больш, чым арабаў. Берберы з'яўляюцца карэнным, старажытным насельніцтвам Паўночнай Афрыкі, якую называюць часам Берберыяй. У Марока, Алжыры і Тунісе берберы жывуць з незапомных часоў. Яны жылі тут задоўга да фінікійцаў і рымлян.

Сучасныя мараканцы, гэта — арабы і берберы, якія часткова змяшаліся між сабой. Арабская мова і арабская культура з'яўляюцца агульнымі для ўсяго насельніцтва Паўночнай Афрыкі. Арабская мова — дзяржаўная мова, але ёсць берберскія плямёны, якія гавораць толькі па-берберску.

Старажытныя егіпцяне і грэкі называлі берберау «лівійцамі», а рымляне — «нумідыйцамі». Самі сябе берберы называюць — «імазірэн», а сваю мову — «тамазірт».

Лінгвісты адносяць берберскую мову да групы так званых хаміцкіх моў. Берберская мова, як піша французскі географ О. Бернар, «знаходзіцца ў сваяцтве з копцкай мовай, якая ў сваю чаргу мае падабенства са старажытнай егіпецкай, а таксама з несеміцкімі дыялектамі Эфіопіі і Нубіі. Аднак між берберскімі дыялектамі і семіцкімі мовамі таксама існуе вялікае падабенства, нібы гэта галіны аднаго ствала, якія раздзяліліся ў далёкія часы і паступова аддаліліся адна ад адной... Берберскі слоўнік адлюстроўвае гісторыю гэтай мовы: ён захоўвае сляды разнастайных напластаванняў — егіпецкага, фінікійскага, арабскага».

Некаторыя берберскія плямёны гавораць па-арабску, некаторыя толькі па-берберску. Ёсць і такія, што гавораць на абедзвюх мовах. У горных мясцовасцях пераважае берберская мова, у раўнінных — арабская. У гарадах часам даволі цяжка адрозніць бербера ад араба. Апроч таго, у паўднёвых раёнах прыкметна змяшэнне і арабаў, і берберау з неграмі.

У мінулым усіх іх аб'ядноўвала агульная прыналежнасць да ісламу. Калісьці на пытанне аб нацыянальнасці часцей за ўсё тут

можна было пачуць адказ: «мусульманін». Усякія спробы удакладніць пытанне выклікалі толькі неўразуменне. Цяпер у насельніцтва Марока расце пачуццё нацыянальнай самасвядомасці і дзяржаўнага адзінства. Паняцці «араб», «бербер», «мусульманін» цяпер часта замяняюцца агульным паняццем — «мараканец». Але гэта працэс складаны, ён яшчэ не знайшоў свайго завяршэння.

Што датычыцца назвы краіны — Марока, то яна паходзіць ад назвы горада Маракеша, першай гістарычнай сталіцы мараканскай дзяржавы. Па-арабску гэты горад называецца «Мракш». Іспанцы перарабілі гэтае слова на свой лад — у «Маруэкас». Адсюль і пайшла назва, якая распаўсюдзілася на ўсю краіну — Марока, і на ўвесь народ — мараканцы.

У саракавых гадах нашай эры тэрыторыю сучаснага Марока заваявалі рымляне. Краіна ўвайшла ў склад Рымскай імперыі. У пятым стагоддзі Паўночная Афрыка была захоплена вандаламі, на змену якім прыйшлі візантыйцы. У канцы сёмага і пачатку восьмага стагоддзя Паўночную Афрыку заваявалі арабы. Яны прынеслі з сабою іслам, сілаю зброі распаўсюдзілі і замацавалі яго сярод мясцовага насельніцтва.

Антычная культура ў Паўночнай Афрыцы знікла. Ад яе засталіся шматлікія помнікі: мазаічныя кампазіцыі, цудоўныя па сваёй рэалістычнай выразнасці, па колеру, па вялікаму майстэрству і тэхнічнай дасканаласці, руіны рымскіх храмаў, палацаў, тэатраў, трыумфальных арак, лазняў.

Мы дзівіліся іх памерам, велічнай прыгажосцю іх архітэктурных форм і трываласцю. У Марока і Тунісе яшчэ захаваліся рэшткі рымскага вадаправода і забрукаваных рымлянамі дарог.

Па іх яшчэ і да гэтага часу ездзяць машыны!

**ПА ДАРОГАХ МАРОКА.** Мы на крайнім захадзе Марока, у раўніне ля ўзбярэжжа Атлантычнага акіяна.

Ласкава свеціць сонца ў сінім небе. У паветры прыемная, лагодная цеплыня. Клімат тут не такі рэзкі, як у суровых гарах поўначы і сухіх стэпах і пустынях поўдня. Сельская гаспадарка ва ўмовах мяккага і вільготнага клімату развіта больш, чым у іншых раёнах краіны.

Мы часта бачым у гэтай мясцовасці апельсінавыя сады і рысавыя палі. Тут увесь год свежая садавіна, яркія кветкі. Тут сустракаюцца і першакласныя, добра абсталяваныя фермы, і маладыя, створаныя нядаўна кааператывы па сумеснай апрацоўцы зямлі, у той час як па ўсёй краіне пераважаюць прымітыўныя гаспадаркі з драўлянай сахой.

Дарогі ў Марока добрыя. Асноўныя магістралі асфальтаваны, другарадныя — забрукаваны шчабёнкай.

Вакол — прыгожыя краявіды. Горы з вострымі вяршынямі. Унізе па схілах — дубы, клёны, сосны і кедры. Часам сустракаюцца цэлыя лясы коркавага дуба.

Зямля тут жоўтая, месцамі нават чырванаватая.

Па пыльных дарогах ідуць босыя людзі ў шарсцяных карычневых бурносах і белых чалмах, падганяючы нагружаных аслоў і мулаў. Едуць вярхом жанчыны, захутаныя з галавою ў шырокія і прасторныя пакрывалы.

Асёл і мул тут асноўны від транспарту. Цяпер да іх далучыўся на мараканскіх дарогах яшчэ і аўтобус, заўсёды перапоўнены. На поўдні, бліжэй да спякотнага подыху Сахары, на змену аслу і мулу прыходзіць вярблюд. На аслах, мулах і вярблюдах мараканскія сяляне перавозяць грузы. Фурманак тут ніколі не ведалі і не ведаюць.

На раўніне жывуць у асноўным сяляне арабскага паходжання. Гавораць тут па-арабску, а на ўсходніх схілах Рыфа — па-берберску.

Сярод хвалістай раўніны з сухой травой сустракаюцца асобныя сядзібы.

Вось перад намі белы домік з плоскім дахам, пакрыты саломай і трысцём, з нізенькімі прыбудовамі.

Непадалёку ад сядзібы гаспадар у белай джылабі і кароткіх штанах арэ зямлю. Вярблюд павольна перастаўляе доўгія ногі. Селянін, худы, з бронзавым ад загару тварам, націскае на саху, якая толькі разрыхляе сухую зямлю, а не пераварочвае пласты, як плуг.

Селянін арэ, а следам за ім ідзе каля дваццаці маленькіх чапляў. Падобна да нашых гракоў, яны ўважліва аглядаюць узараную зямлю, дбайна выбіраюць лічынкі жукоў. Гэтым белыя чаплі робяць фелаху добрую паслугу.

Саха захавалася тут у сваім прымітыўным выглядзе, без усялякіх змен, мабыць, з часоў фінікійцаў і рымлян. Плуга тут яшчэ не ведаюць. Культура земляробства пакуль яшчэ вельмі нізкая.

Запасаў корму для жывёлы мараканскі селянін не робіць. Жывёла корміцца і летам і зімою толькі тым, што сама знаходзіць пад нагамі ў полі. Не мае жывёла і даху над галавою. Дзень і ноч, і ў пагоду і ў дрэннае надвор'е, вярблюды, аслы, каровы, авечкі і козы знаходзяцца пад адкрытым небам. У час засухі жывёла часта гіне ад бяскорміцы і недахопу вады. Каб знайсці падножны корм, козы і авечкі робяць вялікія пераходы і па нізіне, і па гарах.

Авечкі лазяць па крутых схілах. Козы ўзбіраюцца па скрыўленых суччах аж да самай вяршыні каржакаватых дрэў і аб'ядаюць там лісце. Лёгка пераскокваюць яны з выступу на выступ скалы. Коз тут асабліва многа. Яны маюць вялікае значэнне ў жыцці мараканскага селяніна, але прыносяць і вялікую шкоду, знішчаючы лісце і парасткі дрэў. Козы бязлітасна агаляюць зямлю. Цэлыя раёны апустошваюцца гэтымі спрытнымі і пражорлівымі жывёламі. Дзе прайшоў статак коз, там не застаецца ніводнага лісточка, ніводнай галінкі, ніводнага кусціка. Козы не скубуць траву, а вырываюць яе з коранем, выгрызаюць з-пад зямлі насенне. Ад коз гінуць мараканскія лясы, калісьці вялікія, а цяпер зусім рэдкія.

Каля сядзібы мы заўважылі нейкае дзіўнае драўлянае збудаванне. Вакол яго ходзіць па кругу асёл. Ходзіць і ходзіць, цярпліва і няўхільна, усё ў адным кірунку, як стрэлка па цыферблату гадзінніка. Галава ў асла абкручана анучай.

Гэта — вясковы калодзеж, «норыя». Гліняныя чарпакі, прымацаваныя да канатаў, круцяцца ў адным напрамку разам з вялікім драўляным колам. Яны зачэрпваюць і паднімаюць ваду, якая выліваецца па жолабу ў маленькі вадазборны басейн.

Асёл, ходзячы вакол калодзежа, рухае калаўротам усю гэтую скрыпучую махіну. Галава ў яго абкручана для таго, каб ён нічога не бачыў і каб яго ўсцерагчы ад сонечнага ўдару.

(Далей будзе.)

*Нашы землякі*

# СМЕЛЫ СОКАЛ

Такую мянушку дало студэнцтва ў дзевяцісотыя гады рэвалюцыянеру-марксісту Пятру Уладзіміравічу Карповічу. Яго імем у Гомелі яшчэ ў першыя гады Савецкай улады названа вуліца, на якой ён жыў. Відаць, нямногія з гамяльчан, хто цяпер жыве на гэтай вуліцы, ведаюць пра гэтага бясстрашнага чалавека.

З кастрычніка 1874 года на хутары Воранава Гута Новазыбкаўскага павету Чарнігаўскай губерні ў маёнтку памешчыка Савельева ў эканомкі Агаты Піліпаўны нарадзіўся сын, якому далі імя Пятро. Да таго, як яна стала эканомкай у памешчыцкім доме, Агата Піліпаўна была замужам за чыноўнікам Карповічам. Але гэтае замуства скончылася тым, што яна са сваёй дачкой Любай пакінула дэспата-мужа, які не мог прымірыцца з тым, што яго жонка спачувае паўстанцам Кастуся Каліноўскага і шые для іх адзенне.

Неўзабаве Агата Піліпаўна стала не толькі гаспадыняй дома, але і жонкай памешчыка Савельева. Да дванаццаці гадоў Пятро Карповіч жыў у доме Савельева і часта чуў тут адкрытае абурэнне царскімі парадкамі, расказы аб народавольцах, аб тым, як Вера Засуліч страляла ў генерала Трэпава. Пазней, калі Карповіч вучыўся ў гомельскай гімназіі, ён чуў тыя ж вольналюбівыя размовы, тое ж нездавальненне манархічным рэжымам.

У 1895 годзе Пятро Карповіч паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Не прайшоў і год яго жыцця ў Маскве, як за ўдзел у палітычнай маніфестацыі на Хадынскім полі Пятро Карповіч быў выключаны з універсітэта і высланы ў Чарнігаўскую губерню. Жыў ён на хутары Вілы ў маёнтку маці, які падарыў ёй памешчык Савельеў. Тут ён працаваў на полі нароўні з батракамі, і навакольныя сяляне вельмі любілі яго. Хатняя абстаноўка ў маёнтку мала адрознівалася ад хаты сярэдняга селяніна, і гэта выклікала прыхільнасць да маладога гаспадара маёнтка. Сяляне даверліва дзяліліся з Карповічам самымі патаемнымі думкамі і знаходзілі ў яго не толькі спачуванне, але і падтрымку.

Летам 1897 года Пятро Карповіч прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі сацыял-дэмакратычнага аб'яднання ў Гомелі. У сувязі з ростам прамысловага пралетарыяту к гэтаму часу тут з'явіліся падпольныя групы, якія мелі нават друкарні. Палескія сацыял-дэмакратычныя аб'яднанні ўзначалілі чыгуначны рабочы Д. П. Казіміраў, студэнт П. У. Карповіч і выкладчык Л. Х. Драгунскі. Яны спачатку займаліся прапагандай марксізма, потым перайшлі да масавай палітычнай агітацыі — друкавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, у якіх раскрывалі вочы народу на прычыны цяжкога жыцця рабочых.

У красавіцкіх лістоўках 1898 года, напрыклад, адзначалася, што рэвалюцыянеры перакаваліся ў бескарыснасці тэрарыстычнай барацьбы з царом і галоўны сродак барацьбы бачылі ў свядомым згуртаванні рабочых мас для рашучага штурму царызму. Арганізатары сацыял-дэмакратычнага аб'яднання наладжвалі падпольныя сходы рабочых, падрыхтавалі стачку на Лібава-Роменскай чыгунцы. Для барацьбы з паліцыяй былі арганізаваны баявыя атрады рабочых.

Карповіч быў добрым прамоўцам і з натхненнем выступаў на сходах перад рабочымі, якія лічылі яго сваім разумным сябрам. Карповіч многа чытаў, падтрымліваў сувязь з пецярбургскімі і кіеўскімі групамі «Вызваленне працы» і быў, такім чынам, звязаны з агульнай барацьбой марксістаў за рэвалюцыйнае пераўтварэнне Расіі.

У 1898 годзе Пятро Карповіч паступіў у Юр'еўскі ўніверсітэт. Праз год яго выключылі адтуль за ўдзел у студэнцкіх беспарадках і супрацоўніцтва ў тайным «Саюзным Савеце аб'яднаных зямляцтваў і арганізацый». У тыя гады студэнцтва было вялікай рэвалюцыйнай сілай, якая вяла актыўную палітычную барацьбу за навуку, за адукацыю, супраць тыраніі і дэспатызму. Царскі ўрад не мог перасадзіць усіх студэнтаў у турмы і таму прыняў рашэнне аб аддачы студэнтаў у салдаты.

Пятра Карповіча выключылі з Юр'еўскага ўніверсітэта, і ён працягваў вучобу ў Берлінскім універсітэце.

Пачуўшы аб тым, што царскі ўрад узмацняе рэпрэсіі супраць студэнтаў, Пятро Карповіч прыехаў з Берліна ў Пецярбург, каб пагутарыць з міністрам асветы Багалепавым. 14 лютага 1901 года Карповіч з'явіўся да міністра на прыём. З кабінета выйшаў нейкі гарадскі чалавек, якому Багалепаў адмовіў адкрыць гімназію на сродкі горада. Гэта, відаць, і штурхнула Карповіча на расправу з душыцелямі народнай адукацыі: абураны студэнт стрэліў у патыліцу міністру.

Ні на судзе, ні на следстве Карповіч не раскайваўся ў сваім учынку. Ён заявіў, што забіў міністра свядома, абдумана, каб абараніць гонар студэнтаў. І сапраўды, цар вымушаны быў, каб папярэдзіць новыя хваляванні, адмяніць закон пра аддачу студэнтаў у салдаты.

Студэнцтва Расіі прызвала Пятра Карповіча «Смелым сокалам» і з трывогай сачыла за яго лёсам. У прыдворных колах было вырашана павесіць Пятра Карповіча. Маці Пятра пасля доўгіх спроб дабілася ўсё ж прыёму ў міністра юстыцыі. Спачатку міністр заявіў, каб яна і не прасіла, таму што яе сын усё роўна не міне смяротнага пакарання. Тады, смелая жанчына звярнулася да бацькоўскіх пачуццяў дзяржаўнага мужа: «Вы, пан міністр, бацька, а я маці. У вас таксама ёсць дзеці. Можа, настане такі час, калі мой сын спатрэбіцца вашым дзецям». Міністр апусціў галаву і пайшоў да сябе ў кабінет. Праз паўгадзіны выйшаў да Карповічавай маці і сказаў: «Едзь, старая, дамоў. Сын не будзе павешаны».

Пасля суда Карповіча пасадзілі ў Шлісельбургскую крэпасць, дзе ён прасядзеў шэсць гадоў. Паводле ўспамінаў Веры Фігнер, Карповіч прыйшоў у турму, калі яму было 27 гадоў. Але ён выдаваў яшчэ маладзейшым. Росту быў вышэй сярэдняга. Прыгожыя вялікія шэрыя вочы, сарамліва апушчаныя доўгія вейкі. Твар бледны, добры, мяккі. І за ўсім гэтым хавалася сурова-рашучая натура. Калі Пятро Карповіч вымушаны быў бяздзейнічаць, то злаваў. І ў турме ён рабіў многа клопатаў адміністрацыі: паводзіў сябе не толькі неспакойна, але задзірліва, асабліва першыя два гады, калі яму не давалі ніякай работы і пазбавілі нават магчымасці займацца самаадукацыяй. Карповіч два разы аб'яўляў галадоўку без згоды астатніх зняволеных.

Хутка было дазволена пабудаваць у турме кузню. Карповіч з ахвотаю працаваў у ёй і з дапамогай зняволенага каваля Антонава стаў выдатным майстрам. Ён зрабіў добра адпаліраваныя шчыпцы для цукру і падарыў іх маці.

Карповіч прынёс у шлісельбургскія казематы свежы струмень і сваёю натхнёнасцю ўваскрасіў надзеі вязняў на рэвалюцыю. Турэмныя ўлады дазволілі нарэшце Карповічу заняцца літаратурнай працай. І першае, што ён піша, гэта артыкул пра непазбежную блізкасць рэвалюцыі. У артыкуле ён даказваў, што рэвалюцыя ў Расіі павінна адбыцца праз пяць гадоў. Памыліўся Карповіч толькі на адзін год.



Калі пачалася рэвалюцыя 1905 года, цар выдаў маніфест пра палітычных зняволеных. Разам з іншымі таварышамі Карповіча перавялі з Шлісельбурга ў Акатуй, а потым на пасяленне ў Алгачы. На адным з паўстанкаў Сібіры Карповіч уцёк у Пецярбург, а потым за мяжу.

У 1908 годзе Карповіч задумаў быў расправіцца з царом Мікалаем II таксама, як расправіўся з міністрам Багалепавым, лічачы, што гэта паскорыць працэс выспявання сацыялістычнай рэвалюцыі. Але пасля выкрыцця правакатара Азефа — аднаго з лідэраў эсэраў — Карповіч адышоў часова ад актыўнай рэвалюцыйнай дзейнасці.

Застаўшыся без сродкаў да існавання, Пятро Карповіч і за мяжой захаваў свае прынцыпова адмоўныя адносіны да пануючых класаў. Зарабляючы сабе на жыццё лекавым масажом, ён адмовіўся абслугоўваць лордаў, якія абяцалі яму самую высокую плату. Затое за вельмі сціплыя грошы і нават бясплатна ён прымаў простых людзей у адной з бальніц для рабочых Лондана.

Калі пачалася першая сусветная вайна, Карповіч убачыў новыя перспектывы і магчымасці для ўздыму рэвалюцыйнага руху ў Расіі. Ён стаў зноў цікавіцца па-

літыкай, выступаць на сходах. Выступленні Карповіча насілі марксісцкі характар. У пісьмах з Лондана сваёй сястры Л. В. Масквічовай ён пісаў: «Не патрэбна народам гэтая вайна, і нікому яна не патрэбна, апрача капіталістаў. Не павінна моладзь забіваць адзін аднаго, а павінна накіраваць зброю супраць сваіх урадаў і капіталістаў». Атрымаўшы весткі з Расіі аб звяржэнні самаўладства, Карповіч паехаў на Радзіму першым жа транспартам — грузавым параходам «Зара». 31 сакавіка 1917 года ў 5 гадзін 50 мінут параход быў падарваны нямецкай мінай. Усе кінуліся да выратавальных лодак. Выгрузілі апошнюю лодку. У ёй — больш чым можна было ўзяць: 50 чалавек, сярод іх — 8 неграў. Хтосьці прапанаваў пакінуць аднаго негра, каб узяць Карповіча, але ён не дазволіў гэтага. Начапіўшы на сябе выратавальны круг, Карповіч паплыў за лодкай. У гэты час раздаўся выбух катла на параходзе, хваля захліснула Карповіча, і ніхто больш яго ўжо не бачыў.

Так бясстрашна разлучыўся з жыццём малады рэвалюцыянер Пятро Карповіч. Бясстрашша, з якім змагаўся Пятро Карповіч з ворагамі, яго высокі гуманізм і самаадданая любоў да народа, да Радзімы даюць усе падставы шанаваць яго памяць.

**Ціт ЗАРУБІН,**
**удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года.**

# СКАЗ ПРА ЗАБЫТЫХ ГЕРОЯЎ

Давайце перанясёмся ў думках на стагоддзе назад. 1864 год... У беларускіх лясах яшчэ гучаць выстралы, звіняць паўстанцкія косы. Нешматлікія і дрэнна ўзброеныя атрады мужных патрыётаў яшчэ час ад часу ідуць на няроўны бой з царскімі войскамі, але ўсё радзей і радзей выходзяць пераможцамі. Паўстанне цярпела паражэнне. На беларускую зямлю лягла цень шыбеніц, пабудаваных па загаду крывавага Мураўёва-вешальніка. Па гасцінцах канвойныя гналі на ўсход закаваных у кайданы ўдзельнікаў паўстання і тых, хто ім дапамагаў і сімпатызаваў. Беларусь апранулася ў жалобу, хоць за чорны колер адзення пагражала самае суровае пакаранне.

Па далёка не поўных афіцыйных звестках Мураўёў і яго памагатыя прыгаварылі да пакарання смерцю ў Беларусі і Літве 128 удзельнікаў паўстання. Звыш дзевяцісот чалавек сасланы на катаргу, тысячы адпраўлены па этапах на пасяленне ў Сібір. Толькі па суду было рэпрэсіравана звыш 9 000 чалавек. А колькі паўстанцаў палягло ў баях, колькі памерла ад голаду і катаванняў у турмах! Народная памяць захавала імёны далёка не ўсіх барацьбітоў за народную справу. Вінаваты тут і царскія чыноўнікі, якія стараліся чыста замесці сляды, вінаваты і няўмольны час...

Паўстанне 1863 года ў Беларусі і Літве ў нашым уяўленні непазбежна звязваецца з асобай Кастуся Каліноўскага. І ўсё ж велічная фігура гэтага палымянага рэвалюцыянера не павінна для нас засланяць яго баявых сяброў і паплечнікаў. Гаворачы пра Каліноўскага, нельга не ўспомніць удзячным словам і ўраджэнца Беларусі Валерыя Урублеўскага, які быў сааўтарам «Мужыцкай праўды», а затым — генералам Парыжскай Камуны. Мы павінны прыгадаць і асобу легендарнага вязня Шлісельбургскай крэпасці інжынера Браніслава Шварцэ. У дні паўстання ён арганізаваў у Беластоку нелегальную друкарню і выдаваў у ёй лістоўкі на беларускай мове.

Ды ці толькі яны! Мне хацелася б, абапіраючыся на рэдкія публікацыі і архіўныя дакументы, расказаць пра гераічны жыццёвы шлях яшчэ некалькіх удзельнікаў паўстання 1863 года, імёны якіх незаслужана забыты. Па-рознаму склаўся іх асабісты лёс: адзін быў сасланы ў Сібір, другі расстраляны ў Мінску, трэці загінуў на полі бою, іншыя эмігравалі за граніцу. Але ўсе яны аднолькава любілі сваю радзіму і свой заняволены народ, з аднолькавай самаадданасцю змагаліся, гаворачы словамі тагачасных рэвалюцыянераў, «за вашу і нашу свабоду».

...Апалінары Свентажэцкі нарадзіўся на Міншчыне. Яго бацькі жылі ў вёсцы Крывічы непадалёку ад Ракава. Займаючыся ў Пецярбургу, у Медыцынскай акадэміі, Свентажэцкі пазнаёміўся з рускімі рэвалюцыянерамі-дэмакратамі. Яшчэ ў юнацтве ён пачаў занатоўваць свае ўражанні, якія праз 50 год часткова былі выдадзены ў Вільні Соф'яй Кавалеўскай.



Апалінары Свентажэцкі.

Свентажэцкі ўспамінае, што вясной 1863 года ён прыехаў у Мінск і тут сустрэўся з Паўлам Дыбоўскім, вядомым пад псеўданімам Зарэмба. Дыбоўскі абавязаў яго арганізаваць паўстанне ў ваколіцах Ракава. Свентажэцкаму прадпісвалася ісці са сваім атрадам на поўнач, у бок Радашковіч, знішчыць па дарозе ўсе тэлеграфныя слупы, забраць у Новым Двары запасы зброі і потым накіравацца ў Ілью для аб'яднання з вілейскім атрадам Козела. Выконваючы гэты загад, Свентажэцкі пачаў аб'язджаць навакольныя вёскі і весці агітацыйную работу сярод сялян і шляхты. Пабываў ён і ў Люцынцы, фальварку, які належаў вядомаму беларускаму паэту Дуніну-Марцінкевічу. Апошні аказаў паўстанцам адпаведную дапамогу.

У маі 1863 года Свентажэцкі апрануў паўстанцкую форму і накіраваўся на зборны пункт — у Міхалова ля Ракава. Спачатку меркавалася, што сюды прыйдзе каля 100 чалавек, прыйшло ж — 20. Адначасова нехта прынёс вестку, што атрад Козела разбіты. І таму Свентажэцкі рушыў з атрадам не на поўнач, а на поўдзень. Праз некалькі гадзін паўстанцы былі ўжо ў Выганічах, маёнтку вядомага кампазітара і аматара мастацтва Міхала Грушвіцкага. У Выганічах атрад папоўніўся рымарам Рыгорам Гавароўскім, а ў Душкаве — афіцэрам рускай арміі Станіславам Рэмпелем. Сяляне ўсюды добразычліва сустракалі паўстанцаў, гаворачы ім: «Няхай бог таму памагае, хто да нас будзе добры».

Неўзабаве атрад Свентажэцкага зліўся з атрадам Паула Дыбоўскага, які ўзяў камандаванне ў свае рукі. Камандзір устанавіў сярод паўстанцаў строгую дысцыпліну і дабіўся перамогі ў першай сутычцы з ворагам пад Уздой. Побач з беларусамі і палякамі ў атрадзе Дыбоўскага змагаліся і рускія. Так, адно з падраздзяленняў узначальваў невядомы рускі салдат па мянушцы «Гарап» — гісторыкам яшчэ трэба ўстанавіць, хто хаваўся за гэтай мянушкай. Ведаючы парадкі ў царскай арміі, ён уводзіў у зман праціўніка фальшывымі сігналамі. На жаль, пасля першых няўдач Павел Дыбоўскі пры таямнічых акалічнасцях знік. Потым ён аказаўся аж у Канстанцінопалі, дзе працаваў звычайным рабочым.

Пазбаўлены кіраўніцтва, атрад Дыбоўскага рассыпаўся. Праз Валожын і Свянцяны з падробленым пашпартам на імя Ігнацыя Маўронскага Свентажэцкі падаўся ў Пецярбург, спадзеючыся адтуль уцячы на караблі за граніцу. Але настала зіма, навігацыя скончылася. Абставіны прымусілі паўстанца выехаць спачатку ў Маскву, дзе ён хаваўся ў знаёмых два зімовыя месяцы, а потым — у Тамбоўскую губерню. Аднак фальшывы пашпарт выклікаў падазрэнне ў паліцыі. Свентажэцкага арыштавалі і пасадзілі ў турму — у адну камеру з вядомым разбойнікам Пятровым, які прапаведаваў ідэі ўтапічнага сацыялізма.

З Тамбова Свентажэцкі быў перасланы для судовага разбору ў Мінск. Арыштаванага змясцілі ў перарobленым на турму былым бернардынскім манастыры — па цяперашняй вуліцы Бакуніна. Там жа чакалі прысуду і іншыя мінскія патрыёты. У сваіх успамінах Свентажэцкі называе імя Камілы Марцінкевіч — дачкі Дуніна-Марцінкевіча. За дапамогу паўстанцам Каміла Марцінкевіч была выслана ў Салікамск Пермскай губерні і вярнулася на радзіму толькі ў 1880 годзе. Свентажэцкі вельмі цёпла адгукаецца і аб мінчаніне Паўлу Чакатоўскім. Цікава, што нявеста Чакатоўскага, Казіміра Булеўская, паўтарыла подзвіг дзекабрыстак. Даведаўшыся пра тое, што яе любага чакае ссылка ў Сібір, яна дабілася аўдыенцыі ў Мураўёва, і той дазволіў шлюб. Маладых павянчалі ў турэмнай камеры. А праз некалькі дзён арыштанцкая фурманка ўжо мчала іх на ўсход.

**Казіміра Булеўская.**



Аднак вернемся да Апалінарыя Свентажэцкага. Яго шлях у далёкую сібірскую ссылку ляжаў праз Пецярбург, Маскву і Казань. *І ўсюды простыя рускія людзі* выказвалі паўстанцу сваю павагу і спачуванне. Пасяліўшыся ва Усолі, Свентажэцкі наладжвае там выраб скур, зарабляе на жыццё паляваннем. У вольны час наш зямляк знаёміцца з побытам буратаў, аказвае ім медыцынскую дапамогу, робіць замалёўкі Усолі і яе наваколля. Ссыльныя шляхі павялі Свентажэцкага ў Якуцію, у ленскія капальні золата. Свентажэцкі горача абураўся здзекамі з якутаў, у душы якіх «ляжыць яшчэ неўсвядомленае пачуццё чалавечай годнасці», з рабочых у шахтах — «белых неграў без права і апекі». А аднойчы наш зямляк трапіў у вілюйскую турму, дзе людзі жывымі гнілі ў казематах. Свентажэцкі так апісвае тое месца заняволення: «Гэта быў доўгі, нізкі і цёмны будынак, падобны да вялікага гумна, з маленькімі закратаванымі вокнамі, прасякнуты гнілым і кіслым смуродам. Відаць, праз гэтыя, заўсёды шчыльна зачыненыя, ваконцы ніколі не пранікалі свежыя струмені паветра».

Задобрыўшы турэмнае начальства гарэлкай і грашыма, Свентажэцкі змог пабачыцца з некаторымі вязнямі вілюйскай турмы — з Дварачкам, сваім земляком Іясафатам Агрызкам. Незабыўнае ўражанне зрабіла на яго сустрэча з Мікалаем Гаўрылавічам Чарнышэўскім. Свентажэцкі так апісвае гутарку з палымяным рускім рэвалюцыйным дэмакратам (дарэчы, гэтае апісанне, здаецца, нідзе яшчэ не цытавалася):

«І тут я ўбачыў мужную, поўную яшчэ надзеі асобу. Пасля таго, як я ветліва прывітаўся і растлумачыў мэту свайго наведвання, Чарнышэўскі, даведаўшыся, што я, як і яго суседзі, з'яўляюся польскім ссыльным, пачаў са мной гаварыць шчыра і свабодна.

— Справу вашу ведаю, — казаў ён. — Польскі рух для мяне не быў чужы. І цяпер тут абмяркоўваю гэтыя пытанні з Дварачкам, з якім я навучыўся перагаворвацца. Не выпускаюць нас нікуды, нават у лазню. І таму неяк гутарым патаемна. Гэта запаўняе час і ўзнімае дух. Чалавек у турме можа стаць філосафам. Галава думае лепш, і ва ўсё глыбей уваходзіш. Важная, аднак, справа — сувязь са сваімі. Зайздрошчу вашай свабодзе перамяшчэння... Калі б я меў яе! Мы працягвалі б нашу справу далей. Трэба нам даходзіць да ўзаемаразумення, сувязі ж няма ніякай.

І далей ён расказвае мне пра справы сваёй палітычнай групоўкі, пра тагачасны рэвалюцыйны рух у Расіі.

Чарнышэўскі ахвотна гаварыў і быў вельмі ажыўлены.

— Я тут крыху пішу, — сказаў ён у канцы гутаркі, — хоць мне і не дазваляюць.

Пры развітанні, дзякуючы мне за наведванне, ён дадаў:

— Спадзяюся хутка адсюль вырвацца. Можа мы яшчэ дзе-небудзь сустрэнемся — як сябры і супрацоўнікі».

На радзіму Свентажэцкі вярнуўся толькі ў 1877 годзе, пасівелы і надломлены. Прагна лавіў ён па дарозе гукі «тужлівай беларускай песні». З радаснай трывогай у душы пад'язджаў да Мінска: «І вось любімыя муры, сярод якіх прайшла частка майго жыцця».

Мемуары Апалінарыя Свентажэцкага цікавыя для нас яшчэ і тым, што ў іх успамінаецца, хоць і бегла, прозвішча Міхала Цюндзявіцкага, расстралянага ў Мінску за распаўсюджанне «Мужыцкай праўды»? Хто ж такі Міхал Цюндзявіцкі? Пры якіх акалічнасцях адбылося яго пакаранне?

Адказ на гэтыя пытанні дае іншы мемуарыст — настаўнік геаграфіі Мінскай гімназіі Фердынанд Шаблоўскі. Яго ўспаміны, апублікаваныя ў Вільні пад загалоўкам «Мінскія абразкі 1850—1863 гг.», мне надарылася часткова знайсці ў рукапісным выглядзе. У кнізе Шаблоўскага ёсць і партрэт Цюндзявіцкага. Вось ён, герой паўстання 1863 года ў Беларусі. Валявы твар. Мундзір афіцэра рускай арміі... Жыццё Цюндзявіцкага абарвалася ў 27 год. Яго расстралялі сто гадоў назад сонечным майскім ранкам на плошчы, дзе сходзіліся Ігуменскі і Койданаўскі гасцінцы — прыкладна на месцы цяперашняй фабрыкі-кухні. Калі чыталі прыгавор палявога суда, у лесе — а лес тады падступаў да самага горада — нечакана закукавала зязюля. Ды дарэмна лічыла яна гады маладому змагару... Перад расстрэлам Цюндзявіцкі хацеў нешта сказаць, але раптам раздаўся бой барабанаў, прагучалі стрэлы. Мінчане акружылі забітага і, не гледзячы на забарону, бралі сабе па жменьцы пяску, вільготнага ад крыві патрыёта. Ля магілы Цюндзявіцкага была пастаўлена варта. І ўсё ж на курганчыку кожную раніцу знаходзілі свежыя кветкі. Моладзь складала пра свайго земляка вершы.

І нарэшце хочацца расказаць яшчэ пра аднаго ўдзельніка паўстання 1863 года — Людвіка Нарбута, начальніка ўзброеных сіл Лідскага павету. Ён быў сынам вядомага гісторыка Тэадора Нарбута, якому на Лідчыне належаў фальварак Шаўры. Яшчэ ў дзяцінстве Людвік прыглядаўся да паднявольнага жыцця беларускага сялянства, і ў сэрцы яго паступова выспявала рашучасць змагацца за народнае шчасце. У 17 год юнак звязаўся з нелегальнымі арганізацыямі, прыняў удзел у падзеях 1848 года, за гэта яго адлупцавалі розгамі і здалі ў «вечныя салдаты». У арыштанцкіх ротах на Каўказе Людвік паказваў цуды гераізму, і таму ў 1854 годзе яго адпусцілі дамоў.

1 лютага 1863 года са сваім атрадам Нарбут выйшаў у лясы. Неўзабаве пад Руднікамі паўстанцы сутыкнуліся з царскімі войскамі і атрымалі першую перамогу. Правай рукой Нарбута быў мастак Міхал-Эльвіра Андрыёлі, італьянец па паходжанню, выхаванец мастацкіх акадэмій Пецярбурга, Парыжа і Рыма.

Вялікую дапамогу паўстанцам, якія, уцякаючы ад праследавання, акапаліся на востраве сярод непраходных балот, аказвала сястра Нарбута — Тэадора Манчунская.

Пераапрануўшыся сялянкай, яна дастаўляла ў атрад звесткі аб перамяшчэнні праціўніка, зброю, хлеб, бялізну. Аднойчы, калі Манчунская вярнулася дамоў, ззаду пачулася страляніна. Аказалася, здраднік Базыль Карповіч выдаў капітану Цімафееву месца знаходжання Нарбута. Першым у ранішняй імгле заўважыў праціўніка Міхал Андрыёлі. Але было позна. Трапная куля раніла Нарбута. Сябры падхапілі яго на рукі і пачалі выносіць з акружэння. Падалі адны — на іх месца станавіліся іншыя.

— Пакіньце мяне, — прасіў смяротна паранены Нарбут. — Лепш ратуйцеся самі. Я ж памру за радзіму...

Калі ўстрывожаная стрэламі Тэадора Манчунская вярнулася назад, яе мёртвага брата акружала непрыступная сцяна царскіх салдат.

— Я сястра Нарбута, — пачулася ў цішыні голас Манчунскай. — Шукаю яго... Хачу пахаваць...

— Мы паважаем вашага брата як сапраўднага салдата, — адказаў ёй капітан Цімафееў і загадаў: — Расступіцца!

У баі ў Лакштуцянскім лесе загінулі многія баявыя сябры Нарбута. Трапіў у навагрудскую турму Міхал Андрыёлі. Але яму ўдалося адтуль уцячы. У адной бялізне ён прабег па глыбокім снезе каля дзесяці кіламетраў і, знясілены, пастукаў у акно хаты. Гаспадар пусціў яго пагрэцца. Толькі Андрыёлі забраўся на печ і накрыўся кажухом, як у дзверы пастукалі жандары.

— Хто гэта? — спыталі яны, паказваючы на печ.

— Хворы, — абыякава адказаў селянін. — Хіба не бачыце — халера яго трасе...

З дапамогай беларускага селяніна Андрыёлі дабраўся да Вільні, а адтуль праз Рыгу да Парыжа. Там ён нечакана сустрэўся з Тэадорай Манчунскай, якая таксама ўцякла за граніцу, пераапрануўшыся ў мужчынскую вопратку.

Цікавы далейшы лёс Андрыёлі і Манчунскай. Андрыёлі, паверыўшы вестцы пра амністыю, вярнуўся ў Беларусь, быў арыштаваны і сасланы ў Сібір. Потым Андрыёлі праславіўся карцінамі пра паўстанне 1863 года, у тым ліку і пра смерць Нарбута, а таксама ілюстрацыямі да паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэуш». Манчунская ж удзельнічала ў эмігранцкім выданні «Жаваранак», працавала над успамінамі пра свайго брата, якія былі ў свой час надрукаваны ў газеце «Дзённік віленскі» і якія побач з успамінамі сяброўкі Манчунскай — А. Табеньскай — выкарыстаны пры напісанні гэтых радкоў.

І Апалінары Свентажэцкі, і Міхал Цюндзявіцкі, і Людвік Нарбут, і Тэадора Манчунская, і Міхал Андрыёлі змагаліся за народную справу, за якую аддаў жыццё Кастусь Каліноўскі. Усе яны марылі пра лепшы заўтрашні дзень, калі не будзе ні царскага самаўладства, ні прыгонніцкага ўціску. У сваіх успамінах пра Сібір Свентажэцкі, напрыклад, пісаў: «Глухая, маўклівая, як Сфінкс, зямля, з унутранай сілай, затоенай яшчэ ў нетрах, ляжала перада мной, бы вялікая загадка будучага. Калі ж збудзіцца гэты асілак і зашуміць тут новае жыццё?» І, калі збыліся гэтыя мары, мы з удзячнасцю і пашанай успамінаем імёны нашых продкаў, якія ахвяравалі сваім жыццём у імя сённяшняй светлай явы.

**Адам МАЛЬДЗІС.**

# СВЯТА МАЛДОВЫ

**Рэпартаж нашых сяброў**

**Калі за бяседным сталом вы ўзнімеце келіх іскрыстага вінаграднага віна, каб сказаць традыцыйнае «За ваша здароўе, сябры!», прыгадайце тую зямлю, якая напоўніла гэты келіх сваімі сокамі, і тыя руплівыя рукі,**

Сямён Гальперын. Зборшчыца вінаграду.



нiстычнай партыi Малдавii.

Ад Прута да Днястра ляжыць зямля Малдовы. Ад Прута да Днястра — узвышшы, узвышшы, узвышшы. А над узвышшамі сонца. Яно ўзнімаецца высока і бачыць далёка. Каб чалавеку ды вочы сонца, каб ахапіць усё адразу!

Ён убачыў бы палі, сады, вінаграднікі і скрозь — золата, чырвань, ізумруд багатай малдаўскай восені. Ён убачыў бы стройныя заводскія карпусы з бетону і шкла, дзе працавіты народ Малдавіі стварае дасканалыя машыны і электратэхнічныя прылады, сучасную мэблю і прыгожы трыкатаж, выпускае спажыўныя вырабы з мяса і малака і духмяныя віны. Ён убачыў бы лес будаўнічых кранаў, што вядуць мантаж новых гігантаў хімічнай індустрыі.

Ён убачыў бы шырыню праспектаў Кішынёва з будынкамі найноўшай архітэктуры, дзе жывуць працоўныя, дзе яны бавяць свой вольны час, дзе вучацца новыя пакаленні малдаўскага народа. Ён убачыў бы ўтульныя вуліцы і плошчы Фларэштаў, Дубасараў, Аргеева, Сарок, Цірaспаля, Кампрата і соцень сельскіх пасёлкаў, што раскінуліся над шумлівым Днястром і шыракаплынным Прутам.

Горды за багаты плён сваёй працы, за росквіт Малдовы ў дружнай сям'і рэспублік савецкіх, святкуе малдаўскі народ свае імяніны. Ён спявае сёння самыя гучныя дойны, танцуе самыя віхурыстыя танцы.

Свята Савецкай Малдовы крочыць па сонечнай, прыгожай зямлі.

Леанід Рачынскі. Над Днястром.









# УСЕ ЯНЫ — РОЗНЫЯ



Усе яны з дзіцячага саду № 169, што ў Заводскім раёне беларускай сталіцы. Усе яны нібы падобныя адно на аднаго. І разам з тым — розныя. Зазірніце ў іх вачаняткі, і вы лёгка пераканаецеся, што кожны глядзіць на свет па-свойму.

Праехаў па вуліцы трактар, і Слаўка аж язычок закусіў ад здзіўлення: «Вось гэта трактар!»

А ў Рымы свой клопат. Так палюбіла ляльку, што нікому не аддае. «Гэта мая!» — і ўсё.

Наташа так хораша можа папрасіцца: «Я таксама хачу з вамі!», што ніхто пасля гэтага не адважыцца не запрасіць яе.

Валя ўбачыла гарэзу і цікуе за ім: «Адкруціць ці не адкруціць Сярожка кошцы хвост?»

Сёння прывялі ў групу новенькую. І Ірынка тут як тут, знаёміцца: «А цябе як завуць?»

А неўзабаве новенькая і свой характар паказала. Потым прасілася: «Я больш не буду».

Бывае і сум. Вось як у Сярожы пад канец дня. Глядзіць, як расходзяцца ўсе дамоў з мамай ці з татам, і са скрухай у голасе, здаецца, гаворыць: «А па мяне не прыйшлі».

Я вельмі люблю фатаграфаваць маленькіх, тых, што так шчыра пытаюцца і так не саромеюцца сваіх пачуццяў. А здымаючы дзяцей, мне хочацца аднаго — каб і на кожным тварыку было засведчана нешта сваё. І самае галоўнае — захапленне светам.

Валянціна ТАЛСТАЯ,
выхавальніца.









Мікалай Петрусёў. Гродна. Савецкая плошча. 1944 год.

# Гродзеншчына сёння

Той, каму надарылася ўлетку быць у Гродна і ісці па адной з галоўных яго вуліц непадалёк ад Савецкай плошчы, напэўна, звярнуў увагу на фотастэнды, каля якіх заўсёды было мнагалюдна.

Тут спыняліся людзі рознага веку, рознага занятку: адны, каб яшчэ раз успомніць убачанае, перажытае, другія, каб убачыць засведчаную аб'ектывам гісторыю Гродзеншчыны.

1944 год. Адступаючы пад націскам Савецкай Арміі-вызваліцельніцы, фашысты амаль дашчэнту разбурылі Гродна. На здымках — руіны, груды цэглы, пустэча...

«Такое не забываецца», — уголас гаворыць пажылы мужчына ў форме чыгуначніка. Ён уваходзіць у фае кінатэатра «Гродна», дзе наладжана фотавыстаўка «Гродзеншчына сёння». Тут зусім іншыя вобразы — вобразы сённяшняй явы, смелы погляд у будучыню Гродзенскай вобласці.

Толькі чвэрць веку мінула з незабыўных дзён восені 1939 года, калі заходнебеларускія землі ўз'ядналіся ў адзінай Беларускай сацыялістычнай дзяржаве. Здаецца ж зусім нядаўна, якіх дваццаць гадоў таму назад, адгрымелі апошнія выбухі вайны. А якой непазнавальнай стала Гродзеншчына, як падужэлі, памаладзелі, пахарашэлі гродзенцы.

Адышлі ў нябыт песні панскай няволі. Сёння сваю магутную песню стваральнай працы вядуць экскаватары. Гродзеншчына будуецца. Да задумёных краявідаў Наднямоння далучыліся новыя, індустрыяльныя пейзажы. Яны і прываблівають увагу гродзенскіх майстроў і аматараў фатаграфіі.

Велізарныя коміны гіганта хіміі — азотнатукавага завода, ажурныя рашоткі будаўнічых рыштаванняў, сілуэты пад'ёмных кранаў і прасторы новых кварталаў, агні навабудоўляў — такой на шматлікіх кадрах паўстае сённяшняя Гродзеншчына. Індустрыяльная магутнасць — вось тое новае, што характэрна сёння для «ўсходніх крэсаў» буржуазнай Польшчы, якімі была і Гродзеншчына. Нараджэнне сацыялістычнай індустрыі ў Наднямонні — гэта як бы асноўны лейтматыў выстаўкі. Доўга не адыходзяць наведвальнікі ад стэндаў, на якіх размешчаны фотаздымкі Якава Краўчанкі «Агні гіганта», Віктара Косціна «У нас на Гродзеншчыне» і «Гродна будуецца», Васіля Дробышава «Дыханне хіміі» і «Геадэзіст». Гэтыя лепшыя работы даносяць да гледача подых часу, паказваюць тое новае, чым ганарыцца сёння вобласць.

Расце, прыгажэе Гродна. Дзе былі раней пусткі, выраслі добраўпарадкаваныя кварталы. Драўляныя хаціны саступаюць месца шматпавярховым буйнапанельным дамам з бетону і шкла. Гэта яскрава відаць на здымках Віктара Косціна «На ўскраіне» і Алега Фёдарава «Занёманне». Аўтарам гэтых работ удалося даволі пераканаўча паказаць, як новае, перадавое наступае, перамагае старое.

Аб'ектыў гродзенскіх майстроў фатаграфіі часты госць і на вёсцы. Адышлі ў нябыт цераспалосіца бядняцкіх вёсак і самота шматлікіх хутароў. Шырыня калгасных палеткаў, бязмежжа саўгасных прастораў цешаць сёння вока кожнага, хто завітае на Гродзеншчыну. Пра ўсё гэта пераканаўча расказваюць здымкі Якава Краўчанкі «Багацце Навагрудчыны», Алега Фёдарава «Польскія сябры ў калгасе «Гвардыя» і «Лідскі сельгасмаш». Кожны здымак — гэта расказ пра веліч нашых дзён, пра слаўных людзей працы, чыімі імёнамі ганарыцца вобласць.



Віктар Косцін. Гродна будуецца.



Якаў Краўчанка. Агні гіганта.



Аркадзь Пераход. Камсамолка Алена Ярэмчык — птушніца.



Васіль Дробышаў. Дыханне хіміі.

Многія фатографы аддаюць шмат увагі партрэту. У большасці выпадкаў яны не проста перадаюць знешняе падабенства людзей, а імкнуцца раскрыць тыповыя рысы чалавечага характару. Асабліва пераконваюць работы, у якіх герой паказаны ў працы, у дзеянні, у руху. Гэта — зроблены Аркадзем Пераходам партрэт камсамолкі Алены Ярэмчык — работніцы Гродзенскай птушкафабрыкі, партрэт мантажніка Валерыя Цішчанкі, выкананы В. Косціным, партрэт электразваршчыцы Галіны Ярмолавай, над якім шмат папрацаваў А. Фёдараў, і многія іншыя. Са здымкаў глядзяць нашы сучаснікі, жыццерадасныя, поўныя аптымізму маладыя будаўнікі камунізма.

Аркадзь Пераход. Цуд зімы.



Цікава выступіў са сваімі першымі работамі выпускнік педагагічнага інстытута Р. Вярстак. Для серый яго здымкаў з жыцця студэнтаў («Спатканне», «Сусвет побач», «Цяжкая задача», «Пошук») характэрна ўменне падмеціць хараство жыцця ў звычайным, штодзённым.

Хараство наднёманскіх пушчаў і быстрацечнага Нёмана, запаветных куткоў гродзенскай прыроды прываблівае ўвагу многіх фатографаў. Такія работы, як «Дзе былі раней акопы», «Цуд зімы», «Апошні лёд», «Вечарэе» і іншыя, поўныя ўсхваляванай паэзіі і шчырай лірыкі. Глядзіш на здымак Аркадзя Перахода «Цуд зімы», і адчуваеш подых марознага дня, калі застылі ў знямозе абцяжараныя шэранню шматгадовыя елкі, прыцярушаныя снегам прасторы.

А перавядзеш позірк на здымак І. Башмакова «Гарэза», і дыхне на цябе спякота гарачага летняга поўдня, калі не спыняешся ні перад чым, нават перад вадаправодным шлангам, абы толькі задаволіць смагу. Рэпартажна схоплены момант надае здымку тую эмацыянальную ўзрушанасць, якая прымушае гледача яшчэ і яшчэ раз спыніцца. Здымак «Гарэза» — узор жанравай фатаграфіі, якая пакуль яшчэ не ў пашане сярод гродзенскіх майстроў.

Не перабольшваючы, можна сказаць, што жыццё Гродзеншчыны значна багацейшае, чым яно адлюстравана на фотавыстаўцы. Але гэта не павінна засмучаць ні яе ўдзельнікаў, ні арганізатараў, а расцэньвацца як неабходны штуршок да новых пошукаў. Толькі смелымі пошукамі цікавых тэм і арыгінальных вырашэнняў можна апраўдаць той першы поспех, якім карысталася ў гледача фотавыстаўка «Гродзеншчына сёння».



Ігар Башмакоў. Гарэза.

**Рычард ДАЛЬКЕВІЧ,**
**начальнік аддзела тэхнічнага кантролю Гродзенскай афсетнай фабрыкі.**

# НОВЫ КОНКУРС

*Увага!*

*Аб'яўляем умовы другога конкурснага задання нашым чытачам — членам фотаклуба „Маладосць“.*

*Дэвіз конкурсу — „Пасля работы“.*

*Раскажыце пра тое, чым занята моладзь самых розных прафесій пасля таго, як званок абвясціў канец рабочага дня (сям'я, вучоба, тэатр, спорт, самадзейная творчасць і інш.).*

*Тэхнічныя ўмовы: папера лепш глянцавая, памер — не менш 9 × 12 і не больш 18 × 24 см. Не забывайце ўказваць поўнасцю сваё імя, імя па бацьку і прозвішча, а таксама паведамляць дамашні адрас і ваш прафесійны занятак.*

*Пераможцы будуць узнагароджаны дыпломамі і памятнымі падарункамі.*

*Апошні тэрмін прысылкі работ — 25 снежня 1964 года.*

*Жадаем поспеху!*



# ЁСЦЬ У САЯНАХ РАКА БІРУСА!

Хутка я скончу інстытут і стану мастаком. Рыхтуючыся да вялікага творчага жыцця, я лічу сваім першым абавязкам як мага больш старанна вывучыць родную краіну. Мастак павінен ведаць свой народ і любіць яго!

Нязменным спадарожнікам у маіх паездках былі альбом для малявання і эцюднік. У апошняе ж падарожжа рукзак папоўніўся яшчэ адной рэччу. Я ўзяў з сабой фотаапарат. І не дарэмна! Мае дзённікі сталі куды багацейшыя за ранейшыя.

...Я ішоў па ледзь прыкметнай сцяжынцы ўздоўж Енісея. Магутная рака, звычайна неспакойная, цячэ ў гэтым месцы плаўна, велічна, адлюстроўваючы кручы берагоў, якія зараслі шчаціннем хвойнага лесу. Мяне ахапіла незвычайнае хваляванне ад непасрэднай сувязі з прыродай.

Вось сцяжынка нечакана зварочвае ў бок, адводзіць ад берагу. Узбіраюся па скалах.

Мэта ў мяне простая. Трэба дайсці да рачулкі, якая ўпадае ў Енісей, і падняцца да яе вытокаў. Мяркуючы па часе, я павінен быў ужо дабрацца да вялізнай скалы, якая мае форму застылай хвалі. Але яе няма і няма... Пад'ём. Спуск. Зноў пад'ём. Хочацца адпачыць, але я ўпарта адлічваю крокі.

Даўно не відаць Енісея. Толькі чуваць яго дыханне. Сонца ўжо зусім нізка. І вось, нарэшце, мой арыенцір! Толькі ён зусім не падобны на хвалю, а хутчэй на прас. Але хіба ў гэтым справа? На вяршыні скалы заўважаю чалавека. Раблю здымак. Кароткая перадышка, і пачынаю пад'ём. Скала па вышыні роўна, прыкладна, чатырохпавярховаму дому. Уважліва гляджу пад ногі. Яны ўжо дрэнна слухаюцца мяне. Ступаю асцярожна. Карэнні, кусты, трава і выступы скалы — усё памагае пераадолець апошнія метры. І вось я на вяршыні... Далёка ўнізе Енісей. Направа — празрыстая, імклівая рачулка. Гэта Біруса. Зверху яна здаецца задзірай, якая смешна наскоквае на важнага Енісея.

Налюбаваўшыся, спускаюся да вады. Вада Бірусы асаблівая: яна ўбірае ў сябе таёжныя крыніцы і, здаецца, пахне сасновым бальзамам і бярозавым сокам.

Асвяжыўшыся і крыху адпачыўшы, пачынаю рыхтаваць начлег. Ледзь запалаў агонь, і ноч накінула на тайгу сваю зорную коўдру: усё вакол стала таямнічым. Кожны гук выклікаў нейкія казачныя вобразы... Раптам дзесьці ўбаку замільгалі агеньчыкі. Вось яны ўсё бліжэй і бліжэй. Яшчэ праз некалькі хвілін вакол майго вогнішча стала шумна і весела.



Да мяне далучыліся дзевяць краснаярскіх школьнікаў. Першай у святле вогнішча з'явілася маленькая дзяўчынка ў вяночку з бярозавага лісця — Каця. Потым — Наташа, Ала і Люда. Услед за імі падселі пяць хлопчыкаў — Раман, Валодзя і тры Аляксандры.

Мы прагаварылі амаль усю ноч. Расказвалі цікавыя гісторыі, спявалі, чыталі вершы... Аказалася, што ўсе дзевяць школьнікаў жывуць у адным двары. Вельмі дружаць. Часта праводзяць час у паходах.

Раніцай нам трэба было разысціся ў розныя бакі. Дзеці вярталіся ў Краснаярск, мой шлях быў углыб Саян. На развітанне праспявалі некалькі песень. Потым вырашылі намаляваць адзін аднаго: я — іх, а яны — мяне. Валодзя Саломін сфатаграфаваў гэтую сцэну. На фота відаць, з якой стараннасцю працавалі дзеці. На малюнку, які яны потым мне прыслалі, — я. Лічу, што партрэт выйшаў цудоўны: бо ніхто з іх да гэтага не маляваў з натуры і не займаўся ў студыі выяўленчага мастацтва. Да партрэта было прыкладзена кароценькае пісьмо: «Мы памятаем і ніколі не забудзем тую ноч на Бірусе... Мы і цяпер спяваем тыя ж песні... Жывём дружна, весела, цікава... Толя! Абавязкова прыязджайце да нас зноў. Пойдзем у паход разам!..»





Я ім адказаў: «Абавязкова!.. На Бірусе нельга не пабываць двойчы!»

Анатоль КУЗЬМІНЫХ,
студэнт Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.

# ШТУЧНАЕ АСВЯТЛЕННЕ

З надыходам восені пры здыманні ўсё часцей узнікае неабходнасць штучнага асвятлення. З гэтай мэтай многія фотааматары ўжываюць імпульсныя лямпы (электронныя фотаўспышкі), большасць жа аматараў выкарыстоўвае або звычайныя бытавыя або спецыяльныя фоталямпы (перагравальныя).

І да імпульсных і да перагравальных лямпаў дадаюцца інструкцыі. Але ўсё ж, улічваючы сумны вопыт тых, хто не любіць задумвацца над характарам асвятлення, трэба папярэдзіць ад злоўжывання імпульсным святлом. Выкарыстоўваць лямпу-ўспышку, як адзіную крыніцу святла, трэба толькі ў крайніх выпадках, бо яна дае вельмі плоскае святло, якое рэзка мяняецца па глыбіні кадра. Амаль усе негатывы, зробленыя пры адной лямпе-ўспышцы, робяць уражанне начных. Як правіла, значная частка плошчы застаецца экспанаванай няправільна. Пярэдні план звычайна ператрыманы, а задні або недатрыманы, або ў поўным правале.

Вядома, у вопытных руках (у прыватнасці пры ўмелым здыманні супраць святла, якое ідзе ад іншай крыніцы) імпульсная лямпа дае цікавы вынік. Каб з дапамогай імпульснага асвятлення выявіць аб'ём, стварыць характэрнае святло, высвятліць фон і г. д., неабходна мець дзве або нават тры лямпы, якія ўспыхвалі б адначасова. Размяшчаць іх трэба па загадзя абдуманай схеме, імкнучыся да таго, каб святло, якое імі выпраменьваецца, не проста залівала прастору, а выяўляла галоўнае, памагала б вырашэнню творчай задачы.

Перагравальныя лямпы — вельмі добрая крыніца святла. З іх дапамогай можна ажыццяўляць самыя складаныя схемы асвятлення. Аднак многія фотааматары лічаць іх эканамічна нявыгаднымі. Сапраўды, яны недаўгавечныя ў тых выпадках, калі на ніць увесь час падаецца поўнае напружанне. А трэба рэгуляваць яе напал. У часе падрыхтоўкі да здымання (асабліва партрэта) лямпы павінны гарэць на палавіну напалу. І толькі за некалькі секунд да экспазіцыі ўключаецца поўнае напружанне. Звычайна гэта лёгка ажыццяўляецца рэастатам або пераходам з паралельнага на паслядоўнае ўключэнне лямпаў.

Калі ўважліва прыглядзецца да работы прафесіяналаў-фотакарэспандэнтаў, лёгка заўважыць, што ў большасці выпадкаў яны задавальняюцца звычайным бытавым асвятленнем, не ўжываючы ў той жа час штатыва. Прафесіянал не баіцца высокай светаадчувальнасці плёнкі.

Зараджаючы ў касету плёнку, якая мае 180, 250, 350 адзінак, можна здымаць імгненна пры звычайным асвятленні. Правільная апрацоўка негатыва дазваляе са звычайнага кадра 24×36 мм рабіць адбіткі 50×60 см без прыкметнай зярністасці і даволі рэзкія. Пры такой плёнцы імпульсную лямпу можна ўжываць ужо як падсветку (часта святло яе накіроўваецца ў столь і далучаецца да агульнага рассеянага асвятлення).

Для першай арыенціроўкі пры здыманні ў памяшканні, асветленым звычайнай лямпачкай (не перагравальнай), можна выкарыстаць табліцу вытрымак, якая падаецца ніжэй. Разлік у долях секунды зроблены на плёнку 180 адзінак, пры асвятленні аб'екта лямпачкай магутнасцю 100 ват або 200 ват, з выкарыстаннем поўнай светасілы — ф : 2, якую мае большасць сучасных кароткафокусных аб'ектываў.

Для параўнання разлічаны вытрымкі на плёнку з адчувальнасцю 45 адзінак. Яны паказваюць, што пры захаванні ўсіх іншых роўных умоў, працаваць ужо даводзіцца толькі са штатыва і аб'ект павінен быць абавязкова рухомы.

| Адлегласць ад лямпы да аб'екта (у м) | пры лямпе ў 100 ват | | пры лямпе ў 200 ват | |
|---|---|---|---|---|
| | 180 адз. | 45 адз. | 180 адз. | 45 адз. |
| 1 | 1/50 | 1/10 | 1/100 | 1/25 |
| 2 | 1/25 | 1/5 | 1/50 | 1/10 |
| 3 | 1/10 | 1/2 | 1/25 | 1/5 |
| 5 | 1/2 | 1/10 | 1/5 | 1 |

Фактычныя вытрымкі могуць значна адрозніваццa ад разліковых. Яны могуць быць меншыя [illegible] ываць дадатковыя адлюстравальнікі для падсветкі ценяў, рэфлектары. [illegible] зіцый на выпадак здымання з іншай дыяфрагмай вядзецца [illegible] ваючы вытрымку ў два разы па меры пераходу да кож- [illegible] 4; 5,6—8 і г. д.




пад рэдакцыяй гросмайстра
Аляксея СУЭЦІНА

# МІЖЗАНАЛЬНЫ ЗАКОНЧАН

Закончыўся міжзанальны турнір на першынство свету па шахматах. Савецкія шахматысты з гонарам трымалі свой высокі прэстыж. Уся наша пяцёрка гросмайстраў аказалася ў запаветнай шасцёрцы! І толькі «непрыгожае правіла», як назвалі замежныя ўдзельнікі рашэнне ФІДЭ, не дазволіла двум нашым гросмайстрам — Л. Штэйну і Д. Бранштэйну — трапіць у лік прэтэндэнтаў. Два экс-чэмпіёны свету — В. Смыслоў і М. Таль і самы малады гросмайстар краіны Б. Спаскі разам з маладым дацкім гросмайстрам Бендтам Ларсенам падзялілі першыя чатыры месцы. Л. Штэйн не дацягнуў да іх паўачка і павінен быў задаволіцца пятым месцам, а Д. Бранштэйн, які адстаў яшчэ на паўачка, апынуўся на шостым месцы ў турнірнай табліцы.

У выніку прэтэндэнтамі сталі В. Смыслоў, М. Таль і Б. Спаскі. Сенсацыяй турніру быў бліскучы вынік маладога дацкага гросмайстра Б. Ларсена. Ён выдатна правёў увесь турнір і дасягнуў найвышэйшага поспеху ў сваёй шахматнай кар'еры, падзяліўшы 1—4 месцы з нашай шчаслівай тройкай.

Упершыню Б. Ларсен вылучыўся сярод шахматыстаў у 1956 годзе на XII Алімпіядзе ў сталіцы нашай радзімы Маскве. За лепшы вынік на першай дошцы ён атрымаў тады званне гросмайстра. І вось новы рывок. Бясспрэчна, Б. Ларсен будзе асноўным сапернікам для нашых гросмайстраў у матчах прэтэндэнтаў.

Права гуляць у заключных матчах заваяваў таксама югаслаўскі гросмайстар Б. Іўкаў, які заняў сёмае месца ў турніры. Яшчэ адно месца вызначылася ў дадатковым матчы паміж ветэранам С. Рашэўскім (ЗША) і маладым лідэрам венгерскіх шахмат Л. Порцішам, якія былі падзялілі 8—9 месцы. Выйграў, і вельмі хутка, Л. Порціш.

І вось — прэтэндэнты вызначыліся. Іх — восем. Спіс пачынаецца з экс-чэмпіёна свету «нумара першага» М. Батвінніка і «заўсёды другога», як яго завуць, П. Кераса. Абодва гэтыя савецкія гросмайстры атрымалі персанальнае права гуляць у матчах прэтэндэнтаў.

Як вядома, да гэтага часу права на матч з чэмпіёнам свету заваёўвалася ў **турнірах** прэтэндэнтаў. Пераможцамі гэтых турніраў былі нязменна савецкія гросмайстры: спачатку Д. Бранштэйн, потым двойчы В. Смыслоў, потым М. Таль і, нарэшце, Ц. Петрасян. Цяпер, замест турніру прэтэндэнтаў, восем мацнейшых шахматыстаў будуць вызначаць у серыі матчаў па кубкавай алімпійскай сістэме пераможцу, якому і трэба будзе гуляць з Ц. Петрасянам.

Калі вядома ўжо жараб'ёўка чвэрцьфіналаў і прынцып паўфіналаў, магчыма зрабіць некаторыя прагнозы. Амаль самае ўдалае жэрабя выпала М. Талю. І ў чвэрцьфінале і ў паўфінале ён будзе гуляць з замежнымі ўдзельнікамі. І які б не быў небяспечны Б. Ларсен, на нашу думку,

М. Таль можа смела глядзець у будучыню. А вось М. Батвіннік, В. Смыслоў, П. Керас і Б. Спаскі адразу ж павінны весці паміж сабой жорсткую «міжусобную» вайну. У чвэрцьфінале М. Батвіннік сустрэнецца са сваім старым сапернікам В. Смысловым, а П. Керас з Б. Спаскім. Нават пры самай вострай прадбачлівасці пакуль што нельга нічога сказаць пра вынікі гэтых шахматных бітваў.

У чвэрцьфінале кожны ўдзельнік павінен згуляць па дзесяць партый (столькі ж партый мяркуецца і ў паўфіналах). Фінальны матч прэтэндэнтаў будзе складацца з дванаццаці партый. Як відаць, дыстанцыя кожнага матча зусім не вялікая. Але таму, хто пабачыць «золата шахматнага трона», на подступах да матча з чэмпіёнам свету толькі на апошніх этапах (у міжзанальным турніры) трэба будзе згуляць каля шасцідзесяці партый на самым высокім узроўні. Выключэнне складаюць ветэраны М. Батвіннік і П. Керас. І, хто ведае, можа ў гэтым і ёсць іхні «козыр».

Мяркуючы па апошніх спаборніцтвах, асабліва звяртае на сябе ўвагу глыбокая і шматбаковая гульня гросмайстра Б. Спаскага. Ён выйшаў пераможцам у «турніры савецкіх прэтэндэнтаў» — і, бясспрэчна, быў «цэнтральным нападаючым» зборнай СССР у міжзанальным турніры, дзе ён, дарэчы, атрымаў найбольшую колькасць перамог. На баку Б. Спаскага—і яго маладосць і ўжо вялізны турнірны вопыт. Ужо ў дзесяцігадовым узросце ён меў «дарослы» разрад! Аўтар гэтых радкоў бярэ на сябе смеласць сцвярджаць, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці адбору для матча з Ц. Петрасянам, Б. Спаскі цяпер мае амаль найбольшыя рэальныя шанцы стаць прэтэндэнтам на сусветную карону. Праўда, нельга забываць, што для гэтага Б. Спаскаму трэба будзе перамагчы ў матчах П. Кераса, потым пераможцу паядынку М. Батвіннік—В. Смыслоў і нарэшце пераможцу, які амаль што ўжо вызначыўся,—М. Таля.

Матчы прэтэндэнтаў пачнуцца летам наступнага, 1965 года і закончацца да зімы. Асноўны ж матч Ц. Петрасяна з «містэрам Х» па традыцыі пачнецца ў сакавіку 1966 года.

Акрамя афіцыйных спаборніцтваў, ФІДЭ трэба правесці нямала цікавых міжнародных і ўсесаюзных турніраў.

# БУДУЧЫЯ ГРОСМАЙСТРЫ

Савецкія гросмайстры каля дваццаці год з трыумфам выступаюць на міжнароднай шахматнай арэне. Слаўная эстафета, пачатая нашымі ветэранамі—М. Батвіннікам, П. Керасам, В. Смысловым і другімі, перададзена ў надзейныя рукі наступнага пакалення вядучых шахматыстаў на чале з чэмпіёнам свету Ц. Петрасянам.

Выхаванцамі Палацаў піянераў з'яўляюцца сталыя цяпер шахматныя байцы В. Карчной, Б. Спаскі, М. Таль, Л. Штэйн. Малодшым з іх—Спаскаму і Талю—усяго па 27 год. У лік жа вядучых шахматыстаў свету яны ўвайшлі даўно: васемнаццаць гадоў было Б. Спаскаму і дзевятнаццаць М. Талю, калі яны атрымалі вышэйшы гросмайстарскі тытул!

Як ні дзіўна, з таго часу ў сям'і савецкіх шахматыстаў быў даволі доўгі час амаль «крызіс» на маладыя таленты. Заўсёдныя няўдачы на юнацкіх першынствах свету, пераменнае турнірнае «шчасце» на камандных студэнцкіх чэмпіянатах вось ужо амаль дзесяць гадоў спадарожнічаюць савецкім шахматыстам малодшага пакалення.

Але, здаецца, 1964 год будзе пераломным у гэтых адносінах. Пасля працяглага перапынку на камандным студэнцкім першынстве свету ў г. Кракаве, насуперак усім прагнозам, савецкая каманда выйшла пераможцам. Заўважым пры гэтым, што там, у адрозненне ад папярэдніх год, не было гучных прозвішчаў гросмайстраў або міжнародных майстроў. Самымі «славутымі» ў складзе нашай кракаўскай зборнай былі маладыя майстры Г. Ходас і В. Савон. Яны проста-такі, як «з карабля на баль», прыбылі з залатымі медалямі чэмпіёнаў свету на цяжкі экзамен—мінскі паўфінал XXXII першынства СССР.

Увесь сусветны друк абышло кароткае паведамленне, што сёлета ў ліпені ў Ленінградзе ўпершыню ў гісторыі савецкіх шахмат званне майстра спорту СССР заваяваў пятнаццацігадовы школьнік з Курганскай вобласці Юра Балашоў. Экзаменатары яго на чале з гросмайстрам А. Толушам былі вельмі строгія. Але Балашоў паспяхова вытрымаў экзамен. З А. Толушам ён дамогся больш чым пачэснага выніку, набраўшы супраць яго два ачкі з трох! Напомнім, што да гэтага часу «рэкардсменамі» па ўзросту былі М. Батвіннік і Б. Спаскі. Кожны з іх атрымаў званне майстра ў шаснаццаць год.

З гэтага пункту гледжання цікавы быў і мінскі паўфінал XXXII першынства СССР, які на працягу жніўня быў у цэнтры ўвагі шахматнай грамадскасці сталіцы Беларусі. Гэты турнір быў сапраўдным баявым хрышчэннем для дваццацігадовага кандыдата ў майстры, чэмпіёна Таджыкістана Віктара Баярынава. Яшчэ зусім нядаўна гэты сціплы і вельмі сур'ёзны школьнік з Горкага дэбютаваў у юнацкіх спаборніцтвах. Год таму назад быў прызваны ў Савецкую Армію. Тут упершыню ён выступіў як удзельнік першынства «дарослых». Было многа сур'ёзных канкурэнтаў, і толькі чэмпіён рэспублікі мог трапіць у паўфінал першынства СССР. Віктару ўдалося выйсці пераможцам і атрымаць пуцёўку ў Мінск.

Цікава, што да мінскага паўфіналу Віктар ні разу не сустракаўся «на роўных» правах з майстрамі спорту. Знаёмства яго з імі абмяжоўвалася толькі сустрэчамі на сеансах адначасовай гульні ды шахматнай літаратурай. Першыя ж туры паказалі, што В. Баярынаў вельмі «цвёрды арэшак» нават для самых вопытных турнірных байцоў. Амаль што адно за другім атрымалі паражэнні ад Баярынава моцныя і вопытныя майстры Б. Гургенідзе, В. Міkенас, В. Савон, чые прозвішчы вядомы ўсёй нашай краіне і нават усяму свету. Мінскі паўфінал красамоўна паказаў, што, мусіць, вельмі хутка стане не меней вядомым за іх дваццацігадовы камсамолец Віктар Баярынаў.

Што ж, вельмі прыемна, што адразу ў нас з'явілася столькі новых талентаў!

Адначасова праходзілі паўфіналы ў Ленінградзе і ў Кішынёве. І там усеагульная ўвага была скіравана на маладых кандыдатаў у майстры (а магчыма, і будучых гросмайстраў!)—шаснаццацігадовых школьнікаў В. Варатнікова (Ленінград) і А. Бакучавы (Тбілісі).

У жніўні аматары шахмат Мінска з асаблівай цікавасцю назіралі за гульнёю чэмпіёнкі свету па шахматах сярод жанчын Нонай Гапрындашвілі. Гэта цікавасць зусім зразумелая. Упершыню жанчына-шахматыстка адважылася згуляць у такім адказным і напружаным мужчынскім турніры! Трэба ўлічваць, што бітвы ў паўфінале на першынства краіны значна цяжэйшыя, чым нават міжнародныя турніры (дзе, дарэчы, Нона Гапрындашвілі з поспехам дэбютавала зімою гэтага года ў Англіі і Ісландыі). У пачатку турніру Нона Гапрындашвілі проста-такі напалохала мужчын: у першых жа двух турах яна атрымала дзве перамогі, ажыццявіўшы надзвычай прыгожыя камбінацыі. Але паступова мужчыны сталі браць сваё. Нона прайграла ў шэрагу партый, але атрымала ў Мінску неацэнныя ўрокі вышэйшай шахматнай школы.



**Завяршылася ўпартая барацьба за права ўдзелу ў фінале XXXII першынства СССР па шахматах. Пасля Мінскага турніру ў фінал трапілі гросмайстар Аляксей Суэцін і рыжскі майстар Петэрсон, якія набралі па 12,5 ачка. 20-гадовы кандыдат у майстры Віктар Баярынаў, якога вы бачыце тут на здымку, меў на працягу турніру найбольшую колькасць перамог. У кішынёўскім турніры права на ўдзел у фінале заваяваў беларускі майстар Барыс Гальдэнаў.**

Фота **С. Чырэшкіна.**




пад рэдакцыяй майстра спорту Макса ШАВЕЛЯ

# СТАРОНКІ «ЗАЛАТОЙ КНІГІ»

Упершыню чэмпіянат свету па стаклеткавых шашках быў разыграны ў 1894 годзе. Пераможцам турніру быў французскі шашыст Ісідор Вейс. Праз васемнаццаць гадоў шашачная карона перайшла да галандца Г. Гогланда. З таго часу барацьба за тытул чэмпіёна свету ператварылася ў дуэль мацнейшых шашыстаў гэтых дзвюх краін. Звыш шасцідзесяці гадоў французскія і галандскія шашысты былі пераможцамі, даказваючы гэтым сваю перавагу перад спартсменамі іншых краін. Здавалася, што такое становішча будзе заўсёды. Праўда, пасля Алімпійскага турніру 1956 года шашачная карона была вывезена за акіян канадскім гросмайстрам М. Дэлар'е, але ў «шашачных дзяржавах» аднесліся да гэтага, як да выпадковага непаразумення. «Усё стане на сваё месца пасля турніру прэтэндэнтаў і матча пераможцы гэтага турніру з Дэлар'е»,— разважалі знаўцы.

Магчыма, што ўсё так і атрымалася б: знаўцы шашак «ніколі не памыляюцца». Не ўлічылі яны толькі адной акалічнасці, што савецкія шашысты захапіліся стаклеткавымі шашкамі і што на турнір прэтэндэнтаў прыехаў чэмпіён краіны Ісэр Куперман. Першае выступленне прадстаўніка савецкай шашачнай школы закончылася яго пераканаўчай перамогай. На ратэрдамскім турніры прэтэндэнтаў Куперман заняў першае месца, на ачко апярэдзіўшы чэмпіёна Францыі і на чатыры ачкі (!) чэмпіёна Галандыі. А праз некалькі месяцаў у матчазым паядынку у дваццаці партый ён адабраў у канадца шашачную карону. Прозвішча савецкага шашыста было занесена ў «Залатую кнігу» Сусветнай шашачнай федэрацыі, куды ўпісаны прозвішчы мацнейшых шашыстаў свету мінулага і гэтага стагоддзяў.

Праз год Куперману прыйшлося абараняць сваё званне ў матчы супраць галандскага гросмайстра Г. ван Дэйка, які перамог чэмпіёнаў многіх краін на турніры прэтэндэнтаў у г. Манака. Першая спроба галандскіх шашыстаў зноў атрымаць для Нідэрландаў шашачную карону была няўдалая. З пераканаўчым лікам 13,5 : 6,5 перамог Куперман.

З вялікай цікавасцю чакалі шашысты ўсіх краін наступнай «праверкі» чэмпіёна свету—Алімпійскага турніру 1960 года. Для ўдзелу ў гэтым турніры ў галандскі горад Амстэрдам прыехалі чатырнаццаць шашыстаў з дзесяці краін. Турнір праходзіў у вельмі своеасаблівых умовах. Каб задаволіць аматараў гэтай вельмі папулярнай у Галандыі гульні, арганізатары першынства зрабілі турнір «на колах»! Згуляўшы турнірную партыю ў адным з гарадоў краіны, удзельнікі турніру садзіліся ў аўтобус і пераязджалі ў новы горад. Дваццаць шэсць партый прыйшлося згуляць кожнаму ўдзельніку, і толькі ў чатырох гарадах двойчы пабываў «шашачны» аўтобус.

Разам з чэмпіёнам свету І. Куперманам на турнір прыехаў дзевятнаццацігадовы чэмпіён Савецкага Саюза Слава Шчогалеў. Гэта была другая спроба юнага масквіча ў барацьбе за тытул чэмпіёна свету. У першай спробе Шчогалева спасцігла недарэчная няўдача: ён спазніўся на ўрачыстае адкрыццё турніру прэтэндэнтаў у Манака, і судзейская калегія не дапусціла яго да ўдзелу ў турніры.

На старце чэмпіянату высветлілася, што ў найлепшай спартыўнай форме былі савецкія шашысты, экс-чэмпіён свету Дэлар'е і таленавіты майстар з Сенегала Баба Сі. Праўда, неўзабаве Дэлар'е не вытрымаў тэмпу вядучай тройкі і адстаў.

Барацьба за першае месца разгарнулася і ў тройцы. За некалькі тураў да канца турніру ўперад вырваўся Баба Сі, які перамог Купермана. Усё павінна было вырашыцца ў партыі паміж Шчогалевым і Баба Сі. Пры нічыйным выніку сустрэчы Баба Сі рабіўся чэмпіёнам свету, і зразумела, што такі вынік быў не да спадобы Шчогалеву. Сенегальскі шашыст быў у гэтай сустрэчы сапраўдным спартсменам—ён таксама імкнуўся толькі да перамогі. Абодва шашысты зрабіліся сябрамі ў часе турніру, але абодва ўзялі сваім дэвізам: «Няхай пераможа мацнейшы!» Бітва закончылася перамогай Шчогалева. Шлях да шашачнай кароны быў адкрыты. Пераможцам алімпійскага турніру і чэмпіёнам свету зноў стаў прадстаўнік савецкай шашачнай школы—Вечаслаў Шчогалеў. На другім месцы быў Баба Сі, на трэцім—Куперман. Так была запоўнена яшчэ адна старонка «Залатой кнігі» шашыстаў.


Чэмпіён свету па стоклеткавых шашках Вечаслаў Шчогалеў і Ісэр Куперман.
Фота Ю. Сомава (АДН).

Чэмпіёну свету па шашках не ўдаецца доўга спачываць на лаўрах. Кожны год ён павінен абараняць сваё званне ў матчах і турнірах. Правілы Сусветнай шашачнай федэрацыі дазваляюць экс-чэмпіёну свету, які страціў свой тытул на Алімпійскім турніры, выклікаць на матч новага чэмпіёна свету. Куперман выкарыстаў сваё права і выклікаў у 1961 годзе Шчогалева на матч-рэванш. Гэта цікавая гісторыя ўсіх папярэдніх матчаў-рэваншаў па шашках—цікавая сваім аднастайным заканчэннем. Ва ўсіх матчах перамога была на баку чэмпіёна. Аднойчы пасля заканчэння Алімпійскага турніру экс-чэмпіён свету па шахматах М. Эйве сказаў: «Пераможаны адзін раз—пераможаны назаўсёды. Толькі вялікі Алёхін змог знайсці дастаткова сілы для такога подзвігу». Спартыўны подзвіг удалося зрабіць і Куперману. З лікам 11 : 9 ён зноў заваяваў тытул чэмпіёна свету.

Чарговы турнір прэтэндэнтаў на матч з чэмпіёнам свету адбываўся ў бельгійскім горадзе Льежы. Пераможцам тут быў сенегальскі гросмайстар Баба Сі. Гэты выдатны шашыст, які ўжо тры гады не ведае паражэнняў, выклікаў у лістападзе 1963 года на матч чэмпіёна свету. Куперман прыняў выклік, і шашачная федэрацыя Савецкага Саюза падрыхтавала ўсё для правядзення гэтага матча, але ў дамоўленыя дні Баба Сі не здолеў прыехаць у Маскву. Перанесці матч на другі тэрмін не ўдалося, таму што набліжаўся чэрвень 1964 года—месяц чарговага Алімпійскага турніру, які павінен быў адбыцца ў невялікім курортным гарадку ў Італьянскіх Альпах—Мерана. Старанна рыхтаваўся да гэтага турніру Баба Сі. За два месяцы да пачатку спаборніцтва ён са сваім трэнерам пасяліўся ў ціхім мястэчку і зусім знік з поля зроку шашачнай грамадскасці, каб цалкам прысвяціць час падрыхтоўцы да турніру.

Як і чатыры гады таму назад, савецкіх шашыстаў прадстаўлялі—чэмпіён свету І. Куперман і экс-чэмпіён свету В. Шчогалеў, які стаў чэмпіёнам краіны 1963 года. Гэта была прызнаная тройка фаварытаў-гросмайстраў, у адзінаборстве якіх вырашаўся лёс шашачнай кароны. Як і на папярэднім Алімпійскім турніры, чакалі ўпартай барацьбы роўных па ўменню, калі перамагае той, у каго мацнейшая нервовая сістэма, хто захаваў сілы аж да фінішу, чыя воля мацнейшая. Але таго, што адбылося на турніры, не прадбачыў ніхто: схваткі за першае месца ў Мерана не было. З першых тураў Шчогалеў пачаў грамiць сваіх праціўнікаў аднаго за другім, дамогшыся на старце фенаменальнага выніку—пяць ачкоў з пяці магчымых! Паспяхова пачалі турнір Куперман і Баба Сі, але дагнаць Шчогалева ім было цяжка. У сярэдзіне турніру разрыў паміж імі і Шчогалевым дасягаў двух ачкоў. Асабістыя сустрэчы ў групе лідэраў

не ўнеслі змен у турнірнае становішча — яны закончыліся нічыёй. Так ужо за некалькі тураў да канца матча быў вырашаны лёс першага месца. Шчогалеў зноў стаў чэмпіёнам свету, на другім месцы быў Куперман, на трэцім — Баба Сі. На ўрачыстым закрыцці турніру чэмпіён свету быў увянчаны лаўровым вянком, яго ўзнагародзілі залатым Алімпійскім медалем і медалем прэзідэнта Італіі.

У той год, калі Куперман упершыню стаў чэмпіёнам свету па стаклетkавых шашках, Шчогалеў гуляў яшчэ толькі ў рускія шашкі, не выпрабоўваючы свае сілы ў сур'ёзных турнірах на вялікай дошцы. Ён правёў шэраг бліскучых камбінацый у турнірных сустрэчах з П. Нікіціным, І. Куляшом і другімі праціўнікамі.

Прыводзім адну з партый чэмпіёна свету.

| В. ШЧОГАЛЕЎ | П. НІКІЦІН |
|---|---|
| 1. c3—d4 | h6—g5 |
| 2. g3—f4 | g5—h6 |
| 3. f4—e5 | |

Абодва партнёры смела адыходзяць ад вядомых працягаў:

| | |
|---|---|
| 3. . . . . | d6 : f4 |
| 4. e3 : g5 | f6—e5 |
| 5. d4 : f6 | g7 : e5 |
| 6. g5—h6 | b6—c5 |
| 7. b2—c3 | h8—g7 |
| 8. c3—b4 | c7—d6 |
| 9. b4—a5 | b8—c7 |
| 10. a1—b2 | g7—f6 |
| 11. b2—c3 | c5—b4 |
| 12. a3 : c5 | d6 : b4 |
| 13. f2—e3 | c7—d6 |

Прайгравала 13. ... e7—d6? з-за 14. h2—g3! з выйгрышам шашкі

| | |
|---|---|
| 14. e3—d4 | b4—a3 |
| 15. d2—e3 | d8—c7? |

Гэты ход прайграе партыю.

| | |
|---|---|
| 16. e3—f4! | e5 : g3 |
| 17. h2 : f4 | f6—g5 |

Чорныя спакушаюцца эфектн камбінацыяй, але ратунку ўжо ням




| | |
|---|---|
| 18. d4—e5! | g5 : e3 |
| 19. c3—b4! | d6 : f4 |
| 20. e1—f2 | a3 : c5 |
| 21. f2 : f6 | |

І чорныя здаліся.





Мікалай Петрусёў. Гродна. Савецкая плошча. 1944 год.



# Гродзеншчына сёння

Той, каму надарылася ўлетку быць у Гродна і ісці па адной з галоўных яго вуліц непадалёк ад Савецкай плошчы, напэўна, звярнуў увагу на фотастэнды, каля якіх заўсёды было мнагалюдна.

Тут спыняліся людзі рознага веку, рознага занятку: адны, каб яшчэ раз успомніць убачанае, перажытае, другія, каб убачыць засведчаную аб'ектывам гісторыю Гродзеншчыны.

1944 год. Адступаючы пад націскам Савецкай Арміі-вызваліцельніцы, фашысты амаль дашчэнту разбурылі Гродна. На здымках — руіны, груды цэглы, пустэча...

«Такое не забываецца», — уголас гаворыць пажылы мужчына ў форме чыгуначніка. Ён уваходзіць у фае кінатэатра «Гродна», дзе наладжана фотавыстаўка «Гродзеншчына сёння». Тут зусім іншыя

Віктар Косцін. Гродна будуецца.





Станіслаў Гарачаў. Студэнты-медыкі.



Уладзімір Канаш. Першы праект.